## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСУ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Вітгкоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цэхановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| На поўгода 2 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |

Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і політасьветпрацаўніка.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21. Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

Апрача гэтага, ў ЦБК прадаюцца:
„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — Першы выпуск — 2 р.

У хуткім часе выходзіць з друку 2 частка „Апісаньне Асіпавіцкага раёну“.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОР́ГАН ЦК КП(б)Б



№ 12
СЬНЕЖАНЬ

МЕНСК — 1928

Я. Гамарнік

# Чарговыя задачы КП(б)Б

*(Прамова на адчыненьні X Менскае акр. парканфэрэнцыі)*

Апошні лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) разглядаў кантрольныя лічбы на 1928-1929 год. У гэтым пляне гаспадарчага будаўніцтва на 1928-29 год выразна выўялена лінія 15-га партзьезду, лінія партыі на шпаркі напружаны тэмп індустрыялізацыі, на рашучае ўзмацненьне тэмпу ўздыму сельскае гаспадаркі як па генэральным шляху калектывізацыі і будаўніцтва савгасаў, так і па шляху ўсямернага стымуляваньня ўздыму індывідуальнае бядняцкае і серадняцкае сялянскае гаспадаркі. Сам пленум ЦК УсеКП(б) так характарызаваў кантрольныя лічбы на 1928—29 г.—„гаспадарчы плян на 1928—29 год, намечаны кантрольнымі лічбамі, зьяўляецца пасільным, але напружаным“.

Так плян сапраўднага напружаньня, бо мы намецілі да ўкладаньня ў капітальнае будаўніцтва прамысловасьці 1.650 мільёнаў рублёў, намецілі рост бюджэту на 20 проц., намецілі вялікія сродкі да ўкладаньня ў селькую гаспадарку і г. д. Але цьвёрда трымаючы курс на тое, каб у кароткі гістарычны тэрмін нагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны ў тэхнічна-эканамічных адносінах, мы ня можам намячаць не напружанага пляну. Мы павінны весьці будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне напружаным, але ў той-жа час, зразумела, пасільным тэмпам. Кантрольныя лічбы на 1928—29 год адпавядаюць гэтаму патрабаваньню, і мы цьвёрда пераконаны, што пры напружаньні ўсіх сіл рабочае клясы, асноўных сялянскіх мас, пад кіраўніцтвам нашай партыі, гэты гаспадарчы плян, як і леташні, будзе выкананы з перавышэньнем.

Ангельскі эканамічны журнал „Экономіст“, разглядаючы нашы кантрольныя лічбы на 1928—29 г. піша: „Кантрольныя лічбы на 1928—29 г. зьяўляюцца хутчэй прадраканьнем, чым разьлікам“, але далей ён прымушаны прызнаць, што: „паміж кантрольнымі лічбамі на 1927—28 год і вынікавымі лічбамі разыходжаньня менш, чым гэтага можа было чакаць“.

Мы павінны тут дапоўніць ангельскі журнал паказаньнямі на тое, што разыходжаньні паміж вынікавымі лічбамі і плянам на 1927—28 г. ёсьць, але, як гэтага зусім ужо не чакаў ангельскі журнал *вынік перавысіў плян па індустрыялізацыі краіны.* І мы гатовы загадзя прарочa запэўніць „Экономіст“ і ўсіх „иже с ним сомневающихся“ ў рэальнасьці нашага гаспадарчага пляну на бягучы год, што па сканчэньні гэтага году мы прымусім усіх іх зноў сказаць, што вынікавыя лічбы разыходзяцца з кантрольнымі „менш, чым гэтага можна было чакаць“.

Чым-жа вытлумачыць, што эканоміка нашай краіны, індустрыялізацыя яе расьце тэмпам, які ў шмат колькі разоў перавышае ўсе капіталістычныя краіны? Чым вытлумачыць, што мы гэты высокі тэмп адбудоўчага пэрыяду захоўваем і для пэрыяду новага магутнага капітальнага будаўніцтва, пэрыяду рашучай тэхнічнай рэканструкцыі нашай краіны?

Растлумачэньне гэтага ў тым, што наша краіна, краіна дыктатуры пралетарыяту, краіна, у якой будуецца сацыялізм, з усімі вынікаючымі з гэтага гіганцкімі магчымасьцямі для такога магутнага разьвіцьця вытворчых сіл краіны, аб якім і марыць ня можа ніводная капіталістычная краіна. Паслухайце, што на гэтую тэму гавораць чужаземцы, некамуністыя, якія нядаўна наведалі Савецкі Саюз. „Лейпцыгэр Фольксцэйтунг“ друкуе даклад Іоахіма (буйнага чыноўніка міністэрства працы), які наведаў Савецкі Саюз, у інстытуце рабочага права пры Лейпцыгскім унівэрсытэце, у якім ён кажа: „Бязумоўна, што ў Расіі ўсе прадпрыемствы наскрозь прасякнуты рознастайнымі арганізацыямі. Наогул, адрозьніваючай рысай рускага аднаўленьня зьяўляецца тое, што ўсё ўсюды арганізуецца. Ня трэба забываць, што ў Расіі можна лягчэй і хутчэй арганізаваць, чым ва ўсякай іншай эўрапэйскай прамысловай дзяржаве, бо там няма нічога, што магло-б як-небудзь перашкодзіць ці затрымаць арганізацыйную перастаноўку ці рэарганізацыю“.

А ў лістападаўскай кніжцы ангельскага журналу „Социалист Ревью“ надрукаваны артыкул Бэлёка „Аб неабходнасьці ўстойлівага погляду на Савецкую Расію“, у якім ён піша: „Мы тут маем адну з вялічэзных тэрыторый у сьвеце, што знаходзіцца пад рэжымам, які забясьпечвае кантроль над яе вялікімі рэсурсамі ў інтарэсах нацыі і ў цэлым—банкі, валюта, прамысловасьць, падаткі, экспарт і імпарт, цэны і зарплата знаходзяцца ў руках адзінай улады і ўсё скарыстоўваецца на аснове добра абдуманых плянаў у інтарэсах нацыянальнага дабрабыту. Такім чынам, Расія ўладае тым, чаго няма ні ў аднэй краіне, а іменна—нацыянальнай гаспадаркай. У *гэтым сакрэт яе сілы, яе фэнамэнальнага разьвіцьця ў працягу апошніх год, ня гледзячы на вялікія перашкоды.* З прычыны гэтае акалічнасьці, усе перавагі масавай прадукцыі навукі і вынаходніцтваў могуць аўтаматычна скарыстоўвацца дзяржаваю ў інтарэсах народу ў цэлым“.

Так, дыктатура пралетарыяту ў краіне, гіганцкая воля пралетарыяту да будаўніцтва сацыялізму шпаркім, напружаным тэмпам,—вось што вырашае пытаньне аб нашым тэмпе, вось што забясьпечвае нам перамогу нашага лёзунгу—нагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны.

Мы павінны цьвёрда памятаць, што наш плян бягучага году напружаны, але пасільны, і што пленум ЦК УсеКП(б) паставіў перад партыяй, перад рабочай клясай задачу „ў бягучым гаспадарчым годзе дабіцца рашучага зруху ў бок максымальнага паляпшэньня якасных паказальнікаў“. Мы павінны, таварышы, з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю абвясьціць бязьлітасную барацьбу п‘янству, разгільдзяйству, прагулам, усім парушэньням рэвалюцыйнага парадку на вытворчасьці, барацьбу супроць усіх тых, „хто гатоў з рабочае дзяржавы садраць больш, а работу ёй даць горшую“. Націсьнем на ўсе падважнікі і даб‘емся зьніжэньня цэн сабекошту, паляпшэньня якасьці прадукцыі, узьняцьця прадукцыйнасьці працы.

Мы ідзем угару, ідзем на ўздым, перамагаем вялікія перашкоды, і, каб забясьпечыць сабе бязупынны ўздым, усямерна зьмякчаючы і ліквідуючы труднасьці, трэба ўсямерна ўзьнімаць культурны ўзровень шырокіх рабочых мас, асабліва тых новых пластоў рабочых, якія нядаўна з вёскі прышлі і прыходзяць на фабрыкі і заводы, клясава выхаваць іх да сьвядомасьці, што: „камунізм пачынаецца там, дзе зьяўляюцца самаадданыя, перамагаючыя цяжкую працу клопаты радавых рабочых аб павялічэньні прадукцыйнасьці працы, аб ахове кожнага пуду хлеба, вугалю і жалеза і другіх прадуктаў, якія дастаюцца не працуючым

асабіста і ня іх „бліжнім“, а „дальнім“, г. зн. усяму грамадзтву цалкам, дзесяткам і сотням мільёнаў людзей, аб'яднаных у адну сацыялістычную дзяржаву, потым у Саюз Савецкіх Рэспублік“ (Ленін).

Таму, таварышы, падыдзеце яшчэ і яшчэ бліжэй да кіраўніцтва гаспадаркай, да практыкі яе, станьце бліжэй да работы фабрыкі, заводу, калгасу, саўгасу, да справы ўздыму сельскае гаспадаркі, узьняцьця ўраджайнасьці, пашырэньня пасеўных плошчаў. Злучэцеся бліжэй з рабочымі масамі, з батрацтвам, з сялянскай беднатой і на чале іх за ўсё лепшае і лепшае вырашэньне нашых гаспадарчых задач. Бягучы год будзе нялёгкім годам, і гэта тым больш патрабуе мабілізацыі ўсіх нашых сіл на перамогу ўсіх труднасьцяй, на забесьпячэньне тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва, намечанага апошнім пленумам ЦК УсеКП(б).

І першае асноўнае, рашаючае ў справе забесьпячэньня пасьпяховасьці нашага соцыялістычнага будаўніцтва, гэта ленінская лінія ў нашай партыі і на яе аснове маналітнае адзінства яе радоў. За ленінізм, супроць ухілаў як „левага“, так і правага, адкрыта апартуністычнага. партыя заўсёды змагалася, змагаецца і будзе змагацца, не даючы літасьці і прымірэнцам.

Абгаварэньне гэтага пытаньня на радзе сходаў актыву і ячэек, рад запісак пераконваюць у тым, што сярод некаторых членаў партыі ёсьць неразуменьне сутнасьці, карэньняў правага ўхілу, ёсьць блытаніна ў гэтым пытаньні. Нават у такой ячэйцы, як ячэйка Камвузу, некаторыя таварышы выявілі неразуменьне ў гэтым пытаньні. Гэта прымушае нас паставіць задачу ўсямернага растлумачэньня ўсёй партарганізацыі, кожнаму яе члену сутнасьці правага ўхілу, усёй небясьпекі яго для партыі, усёй неабходнасьці рашучай барацьбы супроць правага ўхілу і прымірэнчых да яго адносін. Няхай кожны член партыі зразумее, куды цягне правы ўхіл, што ідэя правага ўхілу—гэта ідэя супрацоўніцтва з буржуазіяй, не рашучая барацьба супроць капіталістычных элемэнтаў, а супрацоўніцтва з імі.

Паслухайце, што гаворыць расійскі меншавік Гарві ў артыкуле, зьмешчаным ў „Форвэртс“: „Слабасьць правай небясьпекі, як партыйнага напрамку, ляжыць бязумоўна ў тым, што яна ня мае і не адважваецца мець аформленай ідэалёгіі, што ўся яе ўстаноўка, відавочна, наўрад ці можа быць прыведзена да сугучнасьці з клясычным бальшавізмам.

Перамога правай апазыцыі азначала-б значнае перамяшчэньня сіл і разьвязваньне тых сацыяльных сіл, якія цяпер пры сучасным курсе зусім зьвязаны“. Паслухайце гэту клясавую праўду клясавага ворага. Кожны з вас разумее, аб якім „перамяшчэньні сіл“ гаворыць і марыць расійскі меншавік, аб разгортваньні якіх сіл ідзе гутарка—гутарка ідзе аб кулаку і нэпману. Так, клясавы вораг кажа праўду. Але ў тым-то і справа, паны з соцплетніка, што ўсе вашы надзеі ня зьдзейсьняцца, бо зусім правільна, што ўсе ўхілы ад лініі партыі, і ў тым ліку правы ўхіл, зьяўляюцца ня сугучным клясычнаму бальшавізму, ленінізму. Трэба павесьці паглыбленую работу па растлумачэньні сутнасьці правага ўхілу і мабілізаваць яшчэ больш увагі партарганізацыі на барацьбу супроць правага ўхілу, супроць рэшткаў троцкізму і прымірэнцтва.

Дзеля таго, каб партыя ўсё лепш і лепш працавала, каб яна на ўсіх вучастках работы забясьпечыла правядзеньне выразнай ленінскай лініі, каб у яе радох было менш тых, хто хістаецца, укланістых і прымірэнцаў, каб у яе радох ня было папутчыкаў, што разлажыліся, трэба штодзенна сачыць за складам партыі, правільна рэгуляваць рост яе і рашуча чысьціць партыю ад усяго ідэёва-чужога, гнілога.

Апошні лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б), як вы ведаеце, дакладна абгаворваў усе гэтыя пытаньні і намеціў цэлы рад мер па паляпшэньні складу партыі, па давядзеньні ядра вытворчых рабочых у партыі к канцу 1930 году ня менш, чым да 50 проц. усяго яе складу. Апошні пленум ЦК КП(б)Б таксама абгаворваў гэта пытаньне ў зьвязку з абгаварэньнем вынікаў работы пленуму ЦК УсеКП(б) і пастанавіў паставіць гэта пытаньне на бліжэйшым зьезьдзе кампартыі Беларусі.

Трэба аднесьціся з усёй увагай да гэтага пытаньня.

У кампартыі Беларусі рабочых 37 процантаў і батракоў 2 проц. Мы павінны паставіць перад сабою задачу выкананьня пастановы апошняга пленуму ЦК УсеКП(б) і дабіцца значнага павышэньня проценту рабочых у складзе партыі. Мне думаецца, што калі мы пасапраўднаму разгорнем работу па ўцягненьні ў партыю рабочых, с.-г. рабочых і батракоў, дык і ва ўмовах Беларусі можна дабіцца 50 процантаў рабочых, занятых на вытворчасьці, у складзе партыі. Трэба шырэй уцягваць у партыю сялян-беднякоў, асабліва калгасьнікаў. Тут таксама вялікае поле работы,—трэба толькі разгарнуць яе пасапраўднаму. І, нарэшце, аб чыстцы. Ці трэба чакаць генэральнай чысткі, ці трэба ўзмацніць бягучую штодзенную работу па чыстцы партыі? Сэнс пастановы ЦК такі, што нашы кантрольныя камісіі павінны пачаць чысьціць больш жорстка, больш строга ўжо зараз, у парадку сваёй штодзеннай работы, вызваляючы партыю ад усяго чужога, гнілога і таго, што разлажылася.

Па дакладу ЦК на канфэрэнцыі трэба аб гэтым падрабязна пагаварыць. Звычайна, калі кажуць аб чыстцы, паасобныя таварышы зазначаюць на памылкі пры гэтым, якія мелі месца як у мінулую чыстку, так і паасобныя памылкі ў штодзеннай рабоце КК. Без паасобных памылак ня бывае вялікай работы. Паасобныя памылкі былі і ёсьць пры чыстцы партыі як генэральнай, так і штодзеннай. Наша задача—дамагчыся, каб памылак было як мага менш.

Але якую невялікую, у канчатковым выніку, ролю адыгрываюць гэтыя паасобныя памылкі ў гэтай вельмі важнай справе чысткі партыі. Таму мы і заклікаем КК, каб яны чысьцілі больш строга, больш энэргічна.

Наша работа ў вёсцы мае многа недахопаў. Наша-ж работа сярод беднаты і батрацтва яшчэ слабая. Мне „Беларуская Вёска“ пераслала да ведама ліст аднаго селькора, які піша аб становішчы ў сваёй вёсцы, што складаецца з 180 двароў. Ён піша: „Культурная работа адсутнічае. Сяляне жывуць плёткамі, п'янствуюць, па вечарох буяняць, бо няма чым займацца. Меркаваньні аб калектывізацыі сельскае гаспадаркі разьбіваюцца аб камень цемры. Няма агранома, няма сельскагаспадарчага гуртка, няма працаўнікоў. Культурны паход не закрануў вёскі і крылом. Шэфработа адсутнічае, за выключэньнем сухіх дакладаў і абяцаньняў. Прычынай гэтых фактаў зьяўляецца адсутнасьць чытальні і клюбу. Вёска не атрымлівае газэт. Няма добрай кааперацыі, пажарнай машыны, хаты-чытальні,—усё замяняе царква і вуліца. „Беларуская Вёска“, дапамажы нам выпрасіць памяшканьне пад клюб, дай адпор кулаку і рэлігійніку!“

Ці ўсюды так дрэнна, як піша ў сваім лісьце цытаваны мною селькор? Зразумела, не,—у вёсцы зроблена і робіцца вялікая работа. У вёсках працуюць ужо тысячы і тысячы трактараў, расьце і мацнее кааперацыя, ствараюцца новыя і новыя калгасы, вёска паступова электрыфікуецца, ёсьць магутная сетка хат-чыталень, расьце тыраж сялянскіх газэт. Але побач з гэтым ёсьць яшчэ вёскі, якія набліжаюцца да таго, аб чым піша селькор. І ёсьць нямала яшчэ вёсак, у якіх

ёсьць тыя ці іншыя недахопы з пералічаных селькорам. Зусім магчыма, што гэты селькор нават некалькі згусьціў фарбы, але ліст яго ў цэлым заслугоўвае нашае ўсямернае ўвагі. Ён лішні раз нам напамінае аб неабходнасьці бліжэй падыйсьці да вёскі, узмацніць і палепшыць там нашу работу.

Распачатая справаздачная кампанія на вёсцы ў зьвязку з выбарамі ў саветы паказвае, як мы яшчэ павольна раскачваемся, як слаба яшчэ разгарнулі работу партыйныя, савецкія і прафсаюзныя органы. Як мы здольны часамі забюракратызаваць такую дасканалую справу, як масавую пасылку рабочых у вёску на выбары. Гэтымі днямі толькі прафэсыяналістыя нам гаварылі, што па ўсёй Беларусі паехала пакуль што ў вёску чалавек 60 рабочых. Але-ж гэта мізэрна мала.

Больш увагі рабоце ў вёсцы!

Трэба дапамагчы батраку, бедняку ў вёсцы лепш арганізавацца, умацаваць саюз з серадняком для рашучай барацьбы супроць кулака. Гэта баявая задача кожнай партарганізацыі.

Апошняе і важнейшае пытаньне, на якім трэба сканцэнтраваць вашу ўвагу, гэта пытаньне аб беларусізацыі, аб бальшавіцкай нацпалітыцы і аб барацьбе супроць ухілаў ад яе.

Пытаньне аб цьвёрдым правядзеньні бальшавіцкай нацпалітыкі ў Беларусі, гэта ў першую чаргу пытаньне аб беларусізацыі ў шырокім ленінскім яго разуменьні. Апошні пленум ЦК КП(б)Б з асаблівай завостранасьцю паставіў перад партыяй, выходзячы з агульных задач сацыялістычнага будаўніцтва на сучасным этапе, задачу далейшай рашучай фарсаванай беларусізацыі.

Мне ўжо прыходзілася на радзе актываў, у прыватнасьці на Менскім партактыве, угрунтоўваць актуальнасьць рашучай беларусізацыі, асабліва зараз, на сучасным этапе. Задача—бліжэй падыйсьці да вёскі, арганізаваць сялянскую беднату, узмацніць змычку рабочае клясы з сялянствам, узмацніць кіраўніцтва рабочае клясы над вёскай,—усё гэта патрабуе далейшага разгортваньня беларусізацыі. І мы, ЦК партыі, пераконаны ў тым, што ўсе партарганізацыі з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю будуць весьці гэтую работу. Кампартыя Беларусі ў гэтым пытаньні за апошнія гады дабілася вельмі многага, яна вяла рашучую і вельмі пасьпяховую работу па беларусізацыі, і вялікія вынікі ў наяўнасьці. Зараз перад намі задача—працягваць гэту работу і ўзмацніць яе.

Ці ёсьць у нас у Беларусі паасобныя хістаньні ад нашай бальшавіцкай нацпалітыкі? Ці ёсьць хістаньні сярод паасобных членаў партыі як у бок расійскага шавінізму, так і ў бок беларускага буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму, ці ёсьць некаторае ўзмацненьне за апошнія часы, у зьвязку з абвастрэньнем клясавай барацьбы, шавінізму ўсіх колераў: і расійскага, і беларускага, і яўрэйскага, і польскага, і асабліва антысэмітызму. Бязумоўна—так, факты і многа фактаў гавараць аб гэтым. Мы за апошні час шмат гаварылі, гаварылі аб барацьбе супроць шавінізму, супроць антысэмітызму, аб неабходнасьці ўзмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных мас, аб узьняцьці культурнага ўзроўню мас наогул. Але-ж мы ня толькі гаворым, але робім і будзем рабіць.

Абвастрэньне клясавай барацьбы, хістаньні дробнай буржуазіі,—усё гэта цісьне і на паасобных, нястойкіх членаў партыі, выклікаючы хістаньні іх і ў нацыянальным пытаньні. Факты расійскага шавінізму за апошні час? Яны ёсьць і, я думаю, іх можна сабраць ня мала. Я магу вам падаць пару фактаў: на Гомельскім актыве, на якім я гаварыў аб задачах беларусізацыі, адзін выступаўшы таварыш пярэчыў мне па

пытаньні аб беларусізацыі, гаварыў аб тым, што, моў, беларусізацыю трэба, зразумела, праводзіць, але „ня так рэзка“. Сказана, як бачыце, вельмі асьцярожна, але я думаю, вы адчуваеце, куды гэтага таварыша цягне. На Бабруйскім актыве, на якім тав. Галадзед рабіў даклад на беларускай мове, два члены партыі настойліва патрабавалі, каб ён рабіў даклад на расійскай мове. Гэта, як бачыце, ужо яскравае, хамскае, хуліганскае выступленьне расійскага шавінізму. Адсюль, на аснове ня толькі гэтых двух фактаў, мы павінны ўзмацніць барацьбу супроць усякага праяўленьня расійскага шавінізму, супроць якіх-бы там ні было хістаньняў у гэты бок.

Зараз аб другім ухіле ў бок беларускага шавінізму. Фактаў і тут можна падаць шмат, але я думаю спыніцца толькі на адным факце: на хістаньнях, выяўленых у гэты бок у апошняй тэатральнай дыскусіі. Тут, мне думаецца, вельмі поўна выявіўся характар, сутнасьць хістаньняў у бок буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму. Што мы мелі па сутнасьці ў гэтым пытаньні з боку паасобных таварышоў? Мелі тэндэнцыю проціпаставіць беларускую культуру расійскай, мелі тэндэнцыю ў формуле партыі „культура нацыянальная па форме, але пралетарская па зьмесце“ падмяніць пралетарскі зьмест дробна-буржуазным. Уладзімер Ільліч яшчэ ў 1913 годзе супроць сацыял-шавіністых пісаў: „Ёсьць дзьве нацыі ў кожнай нацыі—скажам мы ўсім нацыянал-сацыялістым. Ёсьць дзьве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсьць вялікаруская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струвэ, але ёсьць таксама вялікаруская культура, якая характарызуецца імёнамі Чарнышэўскага і Пляханава. Усякае праціпастаўленьне ў пытаньнях, якія датычаць пралетарыяту аднэй нацыянальнай культуры ў цэлым іншай нібы цэлай нацкультуры і г. д. ёсьць буржуазны нацыяналізм, з якім абавязкова бязьлітасная барацьба“.

Гэтыя словы Ільліча ня толькі захоўваюць усю сваю сілу, але яшчэ павялічваюць яе ў сто раз у адносінах да тых, хто зараз ва ўмовах панаваньня пралетарскай дыктатуры ў Савецкім Саюзе імкнецца ў якой-бы там ні было ступені проціпаставіць культуру аднэй саюзнай рэспублікі культуры другой саюзнай рэспублікі.

Уладзімер Ільліч проціпастаўленьне украінскай культуры ў цэлым расійскай культуры ў цэлым у 13 г., калі „культура“ Пурышкевіча, Гучкова і Струвэ была пануючай культурай у Расіі, лічыў буржуазным нацыяналізмам, з якім абавязкова бязьлітасная барацьба, таму што ён заклікаў не забываць, што ёсьць і культура Чарнышэўскага і Пляханава. І зараз ёсьць і ў РСФСР і ў БССР абломкі буржуазнай культуры, рэшткі разьбітай культуры рускіх, беларускіх, яўрэйскіх, польскіх Пурышкевічаў і Струвэ, прадстаўленыя зараз нэпманам, кулаком, папом, рабінам, ксяндзом і ўсімі іх паслугачамі. Гэтыя абломкі яшчэ часта цісьнуць на нас, аказваюць нам супраціўленьне, імкнуцца заразіць паасобныя праслойкі рабочае клясы і партыі. Але моцна расьце і ў РСФСР і ў БССР—адзіная па зьмесьце сацыялістычная культура, але розная па нацыянальнай форме. Што значыць зараз проціпаставіць расійскую культуру беларускай? Гэта значыць проціпаставіць культуру Леніна і Горкага беларускай сацыялістычнай культуры. Нам могуць сказаць тыя, хто хістаўся ў тэатральнай дыскусіі ці іх абаронцы—„мы-ж нічога падобнага не гаварылі ні аб Леніне, ні аб Горкім“. А мы ім адкажам, што так, гэтых імён вы не называлі, так выразна пытаньня ня ставілі, але ўхіл ваш у гэты бок, шлях ваш у гэты бок, калі не адумаецеся, ня выправіце сваіх памылак.

А задача партыі—бязьлітасна змагацца з буржуазным нацыяналізмам. Партыя за беларусізацыю, і будзе далей праводзіць яе ўсімі сваімі

сіламі, партыя за сацыялістычную культуру беларускую па форме, але партыя ніколі і нікому не дазволіць проціставіць адну культуру другой, не дазволіць ні па якой лініі, ні пад якім сьцягам паслабляць магутнага Саюзу Савецкіх Рэспублік.

Але, акрамя паасобных укланістых, ёсьць у партыі і катэгорыя людзей, якія паабывательску, прымірэнча адносяцца да ўсякіх ухілаў ад правільнай нацпалітыкі і індэфэрэнтна, абы-як, паказённаму адносяцца да правядзеньня ў жыцьцё нашай нацпалітыкі. Гэтыя людзі лічаць, што яны „вышэй усякіх нацспраў", што, па сутнасьці гаворачы, „гэта пытаньне праз меру раздуваецца", што і няхай „нацсправамі займаецца той, каму гэта падабаецца".

Катэгорыя такіх людзей у партыі не малая. І мы павінны супроць такіх настрояў рашуча змагацца. Трэба, каб у Беларусі ўся партыя, як адзін чалавек, прымала актыўны ўдзел у правядзеньні нацпалітыкі, каб яшчэ і яшчэ бліжэй да гэтай справы падыйшла рабочая кляса Беларусі.

Трэба-ж, таварышы, асабліва рабочым-бальшавіком, усьвядоміць тое, што ў Савецкай Беларусі, у рэспубліцы пралетарскай дыктатуры, дзе кіраўніцтва ўсім будаўніцтвам, усім жыцьцём належыць рабочай клясе на чале з яе кампартыяй, і што кіраўніцтва беларусізацыяй, павінна быць цьвёрда ў яе руках і што поўнае кіраўніцтва правядзеньнем усёй нацпалітыкі—гэта выключная справа рабочых і кампартыі.

Адначасова трэба з усёй сілай паставіць пытаньне аб новых і новых партыйных і пралетарскіх кадрах на культурны фронт, фронт барацьбы за сацыялістычную культуру, культуру нацыянальную па форме і пралетарскую па зьмесьце. Трэба рыхтаваць узмоцнена з мясцовых таварышоў кадры марксыцка-ленінскай вывучкі і ў першую чаргу для культурнага фронту.

Чым больш партыя ўся, усім калектывам, падыйдзе да штодзеннага практычнага вырашэньня нацпытаньня, да ўмацаваньня інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных, у духу клясавага згуртаваньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй для рашучай і бязьлітаснай барацьбы супроць клясавага ворага, тым мацней будзе пралетарская дыктатура ў Беларусі.

Будзем узмацняць пралетарскую дыктатуру, будзем біць па клясавым ворагу!

---

У. Ігнатоўскі

# Старонка з гісторыі культурнага будаўніцтва ў БССР

Пасьля канчатковага замацаваньня Савецкай улады на Беларусі ў кастрычніку 1920 году, широка разьвінулася ў разбуранай краіне культурнае будаўніцтва. Сучасны стан культуры на Беларусі сьведчыць аб гэтым. У нашу задачу не ўваходзіць абхапіць усю гісторыю культурнага будаўніцтва. Мы ўспынімся толькі на аднэй старонцы гэтай гісторыі, якая зьмяшчае ў сабе гісторыю Інстытута Беларускай Культуры, каторы цяпер рэарганізуецца у Беларускую Акадэмію Навук.

Думка аб арганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры зьявілася у Наркамаце Асьветы Беларусі ў канцы 1920 і пачатку 1921 г. Яна зьявілася разам з думкай аб заснаваніі ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Універсытэту. „Адначасова з пытаньнем аб арганізацыі ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту пастаўлена было пытаньне і аб арганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры. Яшчэ ў лютым 1921 году гэтае пытаньне абгаварвалася на 2-й сэсіі ЦВК БССР. У стэнаграме дакладу наркома Асьветы на гэтай сэсіі гаворыцца аб неабходнасьці ўтварэньня пры Беларускім Унівэрсытэту двух інстытутаў: беларускай і яўрэйскай культуры“ [1]).

Адсутнасьць кваліфікаваных сіл і сродкаў не далі магчымасьці Наркамату Асьветы рэалізаваць думку аб інстытутах Беларускай і Еўрэйскай культур. Часова замест іх у пачатку 1921 г. у Наркамаце Асьветы была ўтворана Навуковая сэкцыя Навукова-Літэратурнага Аддзелу, каторая адразу распачала сваю чыннасьць і шпарка разьвінула яе. „Навуковая сэкцыя паставіла сваею мэтаю, у якасьці ўдарнай працы, апрацоўку беларускай тэрміналёгіі, адсутнасьць якой затрымлівала ўтварэньне беларускай школы і друкаваньня падручнікаў. Была арганізавана асобая тэрміналагічная камісія з 15 асоб, у склад якой увайшлі спэцыялістыя па розным навуковым дысцыплінам, добра ведаўшыя беларускую мову. Камісія разьдзялілася на тры сэкцыі: гуманітарных, прыродных і матэматычных навук. За ўвесь час свайго існаваньня Камісія мела каля 70 агульных паседжаньняў, на каторых было разгледжана і прынята да 3000 тэрмінаў“ [2]).

Поруч з Беларускай тэрміналагічнай камісіяй пры навуковай сэкцыі была ўтворана Яўрэйская сэкцыя, каторая вяла літэратурную працу ў галіне яўрэйскай культуры [3]).

---

[1]) Практычнае вырашэньне нацпытаньня ў БССР, ч. 1 Беларусізацыя. Выдавецтва нацкамісіі ЦВК БССР. Менск 1928, стар. 75.

[2]) Советская Белоруссия. К III Съезду Советов БССР. Минск 1921 г. Материалы о Наркомате просвещения, стр. 185.

[3]) Советская Белоруссия. К III Съезду Советов БССР. Минск 1921. Материалы о Наркомате Просвещения, стр. 185.

Думка аб арганізацыі навукова-дасьледчай працы на больш шырокую ногу не пакідала Наркамат Асьветы. Дзякуючы хадайніцтву ЦВК і СНК Беларусі, Савет Народных Камісараў РСФСР выдаў 12 травеня 1921 году спэцыяльны дэкрэт, на аснове каторага культурныя працаўнікі, каторыя былі родам з Беларусі, вызваляліся ад цывільнай і нават вайсковай службы ў РСФСР і пакіроўваліся на культурна-асьветную працу ў БССР. У сувязі з гэтым дэкрэтам на Беларусь пачалі вяртацца культурныя работнікі розных нацыянальнасьцяў. Наркамат Асьветы арганізаваў сходы культурнікаў для абгавору пытаньня аб арганізацыі Інбелкульту.

Адзін з такіх сходаў адбыўся ў сярэдзіне чэрвеня. Ён апісваецца ў газэце „Савецкай Беларусі“ [1]) наступным чынам.—„У суботу, 18 чэрвеня, у будынку камісарыяту асьветы пад старшынством народнага камісара асьветы адбылася нарада беларускіх культурных працаўнікоў сумесна з прафэсарамі Е. Карскім, У. Пічэтам і Х. Туруком па пытаньні аб Інстытуце Беларускай Культуры, які мае незабавам адчыніцца ў Менску. Пасьля дакладаў і выказаў думак з боку прафэсароў і з боку беларускіх культурных працаўнікоў, нарада прынцынова злучылася ў заданьнях, мэтах і істнасьці арганізацыі гэтай вышэйшай навуковай беларускай установы. Інстытут Беларускай Культуры павінен адчыніцца як найхутчэй... Ён будзе мець тры галоўныя сэкцыі: навукова-дасьледчую, літэратурную і мастацкую. Для канчатковага апрацаваньня статуту нарада выбрала з сябе камісію з трох чалавек праф. акадэміка Карскага, Я. Дыла і С. Некрашэвіча“.

Магчыма думаць, што ў канцы 1921 году Інбелкульт распачаў сваё фактычнае існаваньне. Аб гэтым магчыма судзіць з матэр‘ялаў аб Акадэмічным цэнтру Наркомата Асьветы к III зьезду Саветаў [2]). З гэтых матэрыялаў мы даведваемся, што вышэйпамянены Навукова-Літэратурны Аддзел Наркамата Асьветы быў рэарганізаваны ў Акадэмічны Цэнтр. Акадэмічны Цэнтр разьбіў сваe ўстановы на тры групы: навуковую, мастацкую і навуковых хранілішчаў. Сярод інстытуцый навуковай групы мы знаходзім як Беларускую Тэрміналагічную Камісію, так і Інстытут Беларускай Культуры. Там-жа знаходзіцца і навукова-гістарычнае яўрэйскае таварыства. Далей у матар‘ялах вызначаецца, што к канцу 1921 года „ўсё памяненыя інстытуцыі ў тым ці іншым выглядзе існавалі пры Наркамаце Асьветы і вялі адпаведную працу“ [3]). Тое самае мы знаходзім і ў схэме арганізацыі Наркамата Асьветы: там так сама вызначана [4]) як Тэрміналагічная камісія, так і Інбелкульт. Ужо той факт, што Інбелкульт запісаны ў Матэрыялы поруч з Камісіяй, гаворыць аб няяснасьці арганізацыйнага палажэньня Інбелкульту. З далейшых матэрыялаў мы бачым, што Інбелкульт у пачатку 1922 г. ўпітвае ў сябе Тэрміналагічную Камісію, каторая перастае існаваць самайстойна.

Фармальна Інбелкульт замацоўваецца ў пачатку 1922 году. Па тым матэрыялам, каторыя маюцца ў нас [5]), мы ведаем, што ўрачыстасьць адчыненьня Інбелкульту была прызначана на 20 лютага 1922 году. Урачыстае адчыненьне, за выездам Наркома Асьветы і іншых адказных працаўнікоў у Маскву і на паветы, так і не адбылося. Гэты факт будзе для нас зусім зразумелым, калі мы ўспомнім, што Компартыя,

[1]) Савецкая Беларусь № 135(245), 1921 г. 23, VI стар. 3.

[2]) Советская Белоруссия. Минск 1921 г., стр. 185-186.

[3]) Советская Белоруссия. Минск 1921 г., стр. 186.

[4]) Там-жа, табл. X.

[5]) Запрашальныя карткі.

Савецкая ўлада і ўвесь саюз ССР перажывалі ў гэты момант цяжкія часы голаду. Трэба было напружыць усе сілы, каб змагацца за жыцьцё мільёнаў галадуючых. Было не да ўрачыстасьцяў. Зразумела, што і Інбелкульт, гэтае дзіця Компартыі і Савецкай улады, перажываў трывогі і беды ўсёй савецкай краіны. Забыўшыся аб урачыстым адчыненьні, ён прыступіў зноў да штодзеннай чорнай працы над адраджэньнем беларускай культуры.

Тым ня менш існаваньне Інбелкульту не асталося няпрыметным. Студэнты і прарэктар Горыгорацкага сельска-гаспадарчага Інстытуту тэлеграмаю [1]) вітаюць адчыненьне Інбелкульту, які павінен па іх думцы стаць правадыром навукова дасьледчай працы ўсёй краіны. У канцы лютага вітае Інбелкульт Народны Камісарыят Украіны [2]), каторы адначасна выказвае думку аб устанаўленьні з новай інстытуцыяй цеснай сувязі. Атрымоўваецца 20/III прывітальная тэлеграма ад акадэміка Е. Ф. Карскага [3]). У канцы красавіка атрымана прывітальная тэлеграма ад Неадменага Сэкратара Акадэміі Навук РСФСР, акадэміка С. Ф. Ольдэнбурга наступнага зьместу. „Российская Академия Наук горячо приветствует открытие Института Белорусской Культуры, убежденная, что только углубленным изучением каждой национальности, имеющей свои особенности, может быть достигнуто истинное понимание человека вообще, во всей его многогранности и разносторонности. Научное изучение человека более усовершенствованными методами, чем это до сих пор имело место, является ближайшей задачей науки, стремящейся изучение наук так называемых гуманитарных ввести в одно общее русло с изучением наук так называемых естественно исторических. Культура каждого народа стоит в такой тесной связи с физическими условиями страны, в которой он обитает, и стран, которые его окружают, что именно в деле изучения культуры об‘единяются все научные дисциплины. Российская Академия Наук уверена, что новый Институт вступит на новый путь всестороннего изучения культуры, и желает ему в этом деле самого полного преуспевания“ [4]).

Аб працы Інстытуту за 1922 год мы даведваемся са справаздачы [5]) яго, якую ён прадставіў у Наркамат Асьветы ў канцы году. Інстытут складаўся з 16 правадзейных членаў, на чале з старшынёю С. М. Некрашэвічам. Ён разьбіўся на дзьве сэкцыі: прыродазнаўчую і этнолого-лінгвістычную. Этнолого-лінгвістычная сэкцыя разьбілася на тры камісіі: тэрміналагічную, слоўнікавую і літаратурна-дасьледчую. Прыродазнаўчая сэкцыя прыняла 2481 тэрмін, разглядвала праграмы дакладных наук у школах і злажыла некалькі беларускіх падручнікаў для школ. Тэрміналагічная камісія этнолого-лінгвістычнай сэкцыі прыняла 2300 тэрмінаў і падгатавала да друку 2 падручнікі. Слоўніковая камісія разглядала ранейшыя слоўнікі беларускай мовы (Насовіча, Дабравольскага, Гарэцкага і інш.) і вынясла на карткі больш 35000 слоў. Літэратурна-дасьледчая камісія распрацавала анкету па зьбіраньні народнай творчасьці і ўкладала зборнік беларускіх народных казак. Інстытут у цэлым выпусьціў з друку свой літаратурна-навуковы часапіс „Адраджэньне“ больш 300 старонак. Абмяжованасьць артыкулу не дае маг-

---

[1]) „Адраджэньне“ Літаратурна навуковы вестнік ІБК № 1, стар. 283-4. Менск, 1922 год.

[2]) Там-жа, стар. 283.

[3]) Там-жа, стар. 283.

[4]) „Адраджэньне“, стар. 283.

[5]) Архіў ІБК. Справа № 4 за 1922 г., дак. № 9.

чымасьці ўспыніцца на разглядзе „Адраджэньня". Беларуская навуковая тэрміналёгія друкавалася ў часопісу „Вестник Наркомпроса БССР" (гл. № 2—10 за 1922 г.).

На працягу далейшага часу (1923 і 1924 г.г.) праца Інбелкульту пашыралася і паглыблялася. Да працы прыцягваліся ўсё новыя і новыя сілы. Адзін за адным выходзяць з друку сшыткі тэрміналёгіі, падручнікі і хрыстаматыі для школ. Інбелкульт атрымоўвае магчымасьць высылаць на месцы навуковыя экспедыцыі. У сувязі з сельска-гаспадарчай выстаўкай у Маскве, для зьбіраньня прадметаў беларускай этнаграфіі была арганізавана экспедыцыя з чатырох дасьледчыкаў у Ігуменшчыну і Бабруйшчыну. Экспедыцыя працавала ўлетку 1923 г., прывезла у ІБК шмат каштоўных прадметаў (каля 340) і зрабіла 73 фатаграфічных здымкі. Сярод прадметаў мы бачым тканіны, паясы, вышыўкі, музычныя народныя інструмэнты і інш. Экспедыцыя рабіла і геаграфічныя назіраньні. Вядомы за гэты час геологічныя і іншыя экспедыцыі.

Самым цікавым зьявішчам гэтага часу зьяўляецца сконцэнтраваўшыся каля Інбелкульту краязнаўчы рух. Компартыя і Савецкая ўлада заўжды падымалі пытаньні аб уцягненьні шырокіх працоўных мас у дасьледаваньне і вывучэньне сваей краіны. Сьледуючы за гэтымі імкненьнямі партыі і ўлады, ІБК зьвярнуўся да працоўнага насельніцтва Беларусі, заклікаючы яго да ўтварэньня краязнаўчых арганізацый. Партыя і ўлада падтрымалі гэты заклік сваею дапамогаю і аўтарытэтам. На мясцох пачалі вынікаць і расьці краязнаўчыя арганізацыі. Першым залажылася ў 1923 годзе Слуцкае павятовае таварыства. Праз нейкі час мы ўжо бачым краязнаўчыя таварыства ў Віцебску пры саюзе працаўнікоў асьветы і ў Чэрвені[1]). Каб укласьці краезнаўчы рух у арганізацыйныя рамкі, было ўтворана Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры ІБК, якое было зацьверджана 1 студзеня 1924 году. ЦБК прысьпяшае адчыненьне краязнаўчых арганізацый у Магілеве, Оршы і Барысаве. У студзені 1924 году Акадэмія Наук Саюзу ССР склікала конферэнцыю Краязнаўчых Бюро ў Ленінградзе. На конферэнцыі ўжо прысутнічалі прэдстаўнікі ад Беларускага ЦБК. Яны выкарысталі канферэнцыю як для краезнаўчых мэтаў, так і для арганізацыі ў Ленінградзе выставы беларускіх кніжак, выданых на Беларусі ад 1921-га да 1924 году[2]). У сакавіку 1924 году адбылася Менская краезнаўчая канферэнцыя, каторая была як бы ўводам у 1-ю Усебеларускую Краязнаўчую Канферэнцыю, каторая адбылася ў лістападзе гэтагажа году. Галоўныя падваліны краезнаўчага руху, такім спосабам, былі заложаны. Быў разам з тым заложаны фундамэнт для ўвязкі працы ІБК з шырокімі масамі.

Як мы вызначылі раней праца ІБК пашыралася і паглыблялася. К сярэдзіне 1924 году ў ім утварыліся новыя сэкцыі—этнографічная, географічная, мастацкая, педагагічная, мэдыцынская і г. д. Прэзыдыум узрос да 4 асоб замест ранейшых старшыні і сакратара. Жыць далей без дакладна пабудаванага статуту ІБК бязумоўна ня мог. Такі статут быў падгатоўлены Наркаматам Асьветы і ўхвалены ЦВК і СНК Беларусі 8 жніўня 1924 году[3]).

З статуту мы бачым, што ІБК прызнаецца вышэйшаю дзяржаўнаю навуковаю ўстановаю на Беларусі. Ён мае сваім заданьнем плянавае дасьледваньне Беларусі з розных бакоў. ІБК падзяляецца на сэкцыі:

---

[1]) „Полымя". 1923 г. № 7—8, стар. 136.

[2]) „Полымя". 1924 г. № 1 (9), стар. 207.

[3]) Собрание узаконений и распоряжений рабоче-крестьянского правительства БССР № 18, 30/XI, 1924 г. Статья 161. Стр. 5—9.

лінгвістычную, літаратурна-мастацкую, этнаграфічную, гісторыка-археалагічную, пэдагагічную, прыродную, соц-эканамічную і іншыя, якія арганізуюцца па меры патрэбы і згодна магчымасьці. ЦБК існуе пры ІБК на правох сталай камісіі. Для дасьледваньня пытаньняў, зьвязаных з яўрэйскай культурай, утвараецца ў ІБК яўрэйскі аддзел, каторы падзяляецца на сэкцыі і камісіі. Для дасьледваньня пытаньняў, зьвязаных з культурамі іншых нацменшасьцяў, па меры патрэбы могуць арганізавацца адпаведныя сэкцыі і камісіі. Інбелкульт складаецца з правадзейных членаў, членаў-супрацоўнікаў і членаў корэспандзентаў. Кіруе ўсей навукова-дасьледчай працай ІБК Наўковая Рада, у каторую ўваходзяць правадзейныя члены і прадстаўнікі ад членаў-супрацоўнікаў і членаў корэспандзентаў. Навуковая Рада абіраецца агульным сходам усіх членаў Інбелкульту і абірае з свайго складу Прэзыдыум, каторы складаецца з пяці асоб. У лік гэтых пяці асоб абавязкова павінен уваходзіць прадстаўнік яўрэйскага аддзелу. Прэзыдыум Інбелкульту зацьвярджаецца Наркаматам Асьветы. Кожная з сэкцыі вядзе сваю працу самастойна па наказу, зацьверджанаму Навуковай Радай. Сэкцыі пры пашырэньні сваей навуковай дзейнасьці могуць падзяляцца на падсэкцыі і камісіі.

Як мы бачым з статуту, Інбелкульт забясьпечвае разьвіцьцё культур нацменшасьцяў Беларусі нараўне з культураю Беларускай большасьці. Праз Цэнтральнае Бюро Краезнаўства ён атрымоўвае магчымасьць увязваць сваю працу з шырокімі масамі. Апроч таго, трэба адзначыць, што згодна з статутам і настроям Прэзыдыуму ІБК у члены корэспандзенты маглі быць прыцягнуты актывістыя гораду і вёскі, амаль што незалежна ад іх кваліфікацыі. У такім напрамку была напісана і адозва ІБК да рабочых, сялян, савецкіх, прафэсыянальных і грамадзкіх працаўнікоў і да вучнёўскай моладзі Беларусі. Прыводзім тут вынятак[1]) з адозвы. „Культурную працу могуць рабіць ня толькі дыплёмаваныя вучоныя, але і кожны ўдумны, больш менш асьвечаны працаўнік. Трэба, каб у гэтай важнай і адказнай працы разам з Інбелкультам ішлі ўсе сьвядомыя грамадзяне нашай Рэспублікі. Трэба паведамляць Інбелкульт аба ўсіх культурніках сваей ваколіцы: аб выдатных гаспадарох, музыках, пісьменьніках, майстрох, вынаходцах і г. д., з тым, каб Інбелкульт мог патрэбнейшых з іх залічыць сваімі членамі корэспандэнтамі. Асабліва рупную ўвагу трэба зьвярнуць на падбор магчыма большага ліку корэспандэнтаў, якія цікавяцца пытаньнямі беларускай мовы. Гэта патрэбна таму, каб узрастаючая цяпер беларуская літаратурная мова не адрывалася ад народнай, каб яе разьвіцьцё ішло ў самай цеснай сувязі з масамі“.

У пачатку лістапада 1924 году адбывалася 3-я сэсія ЦВК Беларусі. На вячэрнім паседжаньні 4 лістападу стаяў спэцыяльны даклад аб Інбелкульце Народнага Камісарыяту Асьветы. У дакладзе[2]) былі вызначаны цяжкія ўмовы працы Інбелкульту. Нават у 1923-24 акадэмічным годзе, шмат лепшым за папярэднія, на ІБК было затрачана толькі 7186 рублёў. У першыя гады затраты былі яшчэ меншыя. Ня гледзячы на гэта, ІБК за кароткі час свайго існаваньня зрабіў вялікую навуковую працу. Найбольш зроблена ў галіне апрацоўкі беларускай літаратурнай мовы, чаго найперш ад усяго патрабавала школа. Ужо вышлі з друку шэсьць выпускаў тэрміналёгіі і прыблізна столькі-сама прыгатавана да друку, разгледжана і ўхвалена больш 15.000 слоў-тэрмінаў.

[1]) Інстытут Беларускае Культуры. Гісторыя ўзьнікнавеньня, структура, дзейнасьць. Менск. 1926. Стар. 19.

[2]) „Савецкая Беларусь“. 1924 г. № 257(1254). 5/XI. Стар. 3-4.

Увесь час вялася праца па складаньні руска-беларускага слоўніка. Ужо распачаліся навуковыя экспедыцыі і археолёгічныя раскопкі. У далейшым ІБК павінен быць цэнтрам навуковай думкі на Беларусі, набліжаючыся да тыпу акадэміі навук. Як і раней, ён павінен у першую чаргу вывучаць і дасьледваць беларускую мову, вывучаць мінулае БССР. Вельмі важным заданьнем Інбелкульта зьяўляецца вывучэньне прыроды Беларусі, якая дагэтуль была зусім ня вывучана. Для распрацоўкі пытаньняў яўрэйскай мовы, літаратуры, гісторыі і інш. у Інбелкульце павінен арганізацыйна аформіцца яўрэйскі аддзел, каторы фактычна ўжо і існуе.

Даклад Наркамата Асьветы выклікаў жывы абмен думак сярод членаў сэсіі і сярод савецкіх і грамадзкіх працаўнікоў [1]). Усе яны аднагалосна вызначалі вялікае значэньне ІБК у культурным будаўніцтве Беларусі. Старшыня ЦВК Беларусі А. Г. Чарвякоў вызначаў, што „ІБК есьць інстытут працоўных масаў Беларусі“, што „ён павінен быць аднэй з неабходных установаў, без якіх немагчыма разьвіцьцё Беларускай Рэспублікі“. Адказны сэкратар ЦК КПБ А. Крыніцкі адзначыў. „Патрэбна вялікая навуковая праца, каб выявіць усе прыродныя даныя, усе асаблівасьці эканомікі і культуры Беларусі. Бяз гэтага ня пойдзе эканамічнае і культурнае ўзрастаньне Беларусі, ня зможа шырока разьвінуцца сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР. Гэту навуковую працу павінен паставіць ІБК, які яднае лепшых людзей савецкай грамадзкасьці“. Адгукнуліся беларускія пісьмньнікі Я. Купала і Ц. Гартны. Я. Купала піша: „Рэарганізаваны ў цяперашні час Інбелкульт павінен быць і будзе тым сьветачам, які асьветліць маладой Савецкай Беларусі шырокі шлях да нацыянальна культурнага адраджэньня і да яснай і вольнай будучыны, куды ідзе наша рэспубліка пабач з іншымі савецкімі рэспублікамі“. Рэктар Беларускага Дзяржаўнага унівэрсытэту У. І. Пічэта адзначыў, што „Інбелкульт павінен стаць цэнтрам навуковай мысьлі ўсёй Беларусі, у сваім родзе асяродкам будучай Беларускай Акадэміі Навук“.

Па дакладу Наркамата Асьветы аб ІБК была прынята падрабязная рэзалюцыя, которую мы лічым патрэбным прывесьці тут амаль цалкам. „У зьвязку з пашырэньнем БССР і з практычным правядзеньнем нацыянальнай палітыкі, Інстытут Беларускай Культуры набывае асабліва важнае дзяржаўнае і палітычнае значэньне. На падставе вышэйадзначаннага і ў зьвязку з новымі заданьнямі ІБК, Сэсія ЦВК БССР пастанаўляе: 1) Ухваліць усе мерапрыемствы Прэзыдыуму ЦВК і Савету НК, пакірованыя к узмацненьню Інстытуту, пашырэньню яго дзейнасьці і канчатковаму арганізацыйнаму абфармленьню. Паміж іншым сэсія адзначае правільна праведзеную реарганізацыю Інстытуту, пакіраваную для абслугоўваньня культурных патрэбаў ня толькі беларусоў, але ўсіх нацыянальнасьцяў на Беларусі. 2) Прызнаць патрэбным рэарганаваць ІБК у пастаянную дзяржаўную вышэйшую навукова-дасьледчую, па тыпу Акадэміі навук, установу, якая павінна заняцца сыстэматычнай і плянавай апрацоўкай пытаньняў навукі і культуры, датычных БССР. 3) Даручыць НКА папоўніць склад Інстытуту кваліфікаванымі навукова-марксыцкімі працаўнікамі і ўтварыць адпаведныя ўмовы для іх працы. 4) Зьвярнуць увагу ўсіх савецкіх органаў на неабходнасьць максымальнага падтрыманьня Інстытуту ў яго працы па выпрацоўцы беларускай тэрміналёгіі ў розных галінах ведаў, што павінна паляг-

[1]) „Савецкая Беларусь“, 1924 г. № 256 (1253). 4, XI, стар 3; № 254, (1254), 1924 г. 5, XI, стар. 4.

чыць пераход нашых ВНУ на беларускую мову выкладаньня“ [1]). Ніякіх комэнтарыяў да гэтай пастановы мы дадаваць ня будзем, яна ў іх ня нуждаецца.

Першая палавіна 1925 году была затрачана на рэарганізацыйную працу. Наркаматам Асьветы былі прызначаны новыя правадзейныя члены Інбелкульту, зацьвержаны новы прэзыдыум ІБК у складзе 6 асоб. Была ўстаноўлена новая арганізацыйная пабудова Інстытуту. Праца ў Інстытуце была разьдзелена сярод яго сэкцый, каторых налічвалася 10: мовазнаўчая, літаратурная, мастацкая, гісторыка-археолёгічная, прыродазнаўчая, эканамічная, пэдагагічная, сельска-гаспадарчая, мэдычная і этнографічная. Сэкцыям быў прыдадзен характар навуковых таварыстваў. Апроч сэкцый, у ІБК былі ўтвораны наступныя пастаянныя камісіі: дыялектологічная, па складаньню слоўніка, правапісна-тэрміналагічная, літаратурная, гістарычна-археологічная, па вывучэньні рэвруху на Беларусі, па ахове помнікаў, па вывучэньні прыродных вытворчых сіл, па вывучэньні народнай гаспадаркі, па выданьні твораў Леніна, па вывучэньні савецкага будаўніцтва, этнаграфічная і бібліографічная. На правох пастаяннай камісіі існавала і цэнтральнае Бюро Краезнаўства. Яўрэйскі аддзел складаўся з двух сэкцый (мовы і літаратуры і гісторыі) і трох камісій (вывучэньне мовы, літаратуры і гісторыі). Польскі аддзел складаўся з трох сэкцый і трох камісій (вывучэньне мовы, літаратуры і гісторыі). Інбелкульт меў сваю бібліотэку і выдавецтва [2]).

Трэба вызначыць, што такая шырокая структура ІБК у далейшыя часы звузіліся з боку камісій. Пры лічэбным ўзросьце сэкцый некаторыя камісіі зачыніліся. Колькаснае зьмяншэньне камісій было тым ня меньш карысным для якаснасьці працы ІБК. У далейшым трэба было ўнесьці некаторыя папраўкі і ў статут ІБК. Навуковая Рада ІБК, утвораная па статуту, аказалася вельмі грамоздкай і непрацаздольнай. Яе склал прышлося зменшыць. Праз некалькі месяцаў Навуковая Рада складалася з Прэзыдыуму, старшынь сэкцый і з 9 асоб, каторыя былі абраны ад трох груп складу ІБК—правадзейных членаў, членаў супрацоўнікаў і членаў карэспондэнтаў. Такі склад Рады значна палепшыў яе працаздольнасьць. Што датыча Прэзыдыуму, то лік яго сяброў прышлося павялічыць раней на адну асобу, потым яшчэ на дзьве, так што потым ён складаўся з 9 членаў.

У 1925-26 акадэмічным годзе [3]) лічба сэкцый з 10 дарасла да 13. Апроч старых сэкцый працавалі такія новыя сэкцыі як пэдагагічная, сельска-гаспадарчая і беларускага мастацтва. На правох сэкцыі ІБК распачало сваю працу ў Горы-Горках пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі Навуковае Таварыства па вывучэньні Беларусі. Таварыства абхапіла працу ў галінах прыродазнаўчай і гаспадарчай. Замест ранейшых 14 камісій працуе толькі 10. Не працавалі камісіі—дыялектолёгічная, па вывучэньні рэв. руху, па вывучэньні народнай гаспадаркі і савецкага будаўніцтва, па выданьню твораў Леніна і этнографічная. За тое заснаваліся дзьве новыя камісіі: навуковае бюро па сельскагаспадарчай справе і вайсковая тэрміналагічная камісія. Апошняя моцна разьвінула сваю чыннасьць у сувязі з распачаўшайся беларусізацыяю вайсковых тэрыторыяльных часьцей у БССР. Яўрэйскі і польскі аддзелы працавалі добра, асабліва першы. Бібліотэка ІБК вырасла да 12000 тамоў. Было падгатавана шмат экспанатаў для музэя прыроды.

[1]) „Савецкая Беларусь“. 1924 г. 6, XI № 257 (1254), стар. 4.

[2]) „Абвесьнік НКА БССР“. 1. III. 1925 г. № 4. стар. 2—6.

[3]) „Кароткая інформацыя аб дзейнасьці Інбелкульту“. Менск. 1926.

Да ІБК перашоў батанічны акліматызацыйны сад у Вялікіх Летцах каля Вітабску. Інстытут пасылаў экспанаты на Парыскую дэкарацыйную выстаўку. К лету 1926 году выдавецтва ІБК налічвала выданых кніг каля 40 назваў. Пачала адчувацца моцная патрэба на ўласную спэцыяльна дапасаваную для навуковых выданьняў ІБК друкарню, аб чым было ўзбуждана хадайніцтва перад Савнаркомам БССР.

Паступовы і няўхільны рост працы ІБК зьвярнуў на сябе увагу ураду БССР. Пытаньне аб палепшаньні умоў яго працы было пастаўлена на пасяджаньнях Прэзыдыуму ЦВК і СНК. Пасьля дэтальнага абгавору пытаньня, 12 лютага 1926 году[1]), ЦВК і СНК БССР ухвалілі ніжэйпаданую пастанову. „Адзначаючы важнасьць працы Інбелкульту і прымаючы пад увагу ўсё большы і большы размах яго дзейнасьці і ўплыў на шырокія масы, ЦВК і СНК БССР ухваляюць: а) выдзяліць Інстытут Беларускай Культуры са складу Наркамата Асьветы і ператварыць яго ў самастойную дзяржаўную ўстанову, якая знаходзіцца непасрэдна пры СНК; б) надаць старшыні Прэзыдыума Інбелкульту права ўваходзіць непасрэдна ў СНК са ўсімі пытаньнямі і прапановамі, якія датычаць Інбелкульту“. У выніку гэтай пастановы мы бачым хуткі ўзрост бюджэту Інбелкульту. Выдзяленьне з НКА давала магчымасьць выдзяленьня сродкаў на навуксва-дасьледчую працу з агульных сродкаў НКА на культурна-асьветную працу. Наданьне старшыні ІБК права непасрэднага ўваходу ў СНК давала магчымасьць час ад часу падкрэсьліваць рашучую неабходнасьць павялічэньня сродкаў на досьледы. Да гэтага трэба дадаць, што СНК прынімаў усе магчымыя меры для матэрыяльнага і маральнага падтрыманьня Інстытуту.

Рост і паглыбленьне працы Інбелкульту, як навукова-дасьледчай установы, паставілі перад Компартыяй і Савецкай уладай пытаньне аб магчымасьці рэарганізацыі ІБК з цягам часу ў Беларускую Акадэмію Навук. Працаю ІБК зацікавіліся урадавыя установы СССР. У пачатку чэрвеня 1926 году урад БССР рабіў справаздачу у Прэзыдыуме ЦВК СССР. Было закранута пытаньне і аб працы ІБК, што адзначылася і ў рэзалюцыі Прэзыдыума ЦВК СССР па справаздачы Беларускага Ураду, каторая была прынята 4 чэрвеня 1926 году. Там мы чытаем паміж іншым ніжэйпаданае месца: „Прыймаючы пад увагу труднасьці нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, якія узьнікаюць, дзякуючы разнастайнаму складу яе насельніцтва Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР адзначае, што Беларускі Урад здолеў правільна вырашыць ў асноўным важнейшыя пытаньні нацыянальнай палітыкі, аддаючы належную увагу пытаньням беларускай культуры, забясьпечыўшы яе далейшае разьвіцьцё. Пры гэтым Прэзыдыум ЦВК Саюзу асабліва адзначае вялікае значэньне дзеля гэтай мэты Інстытуту Беларускай Культуры, які ў сваёй далейшай працы павінен ператварыцца ў Беларускую Акадэмію Навук“[2]).

Праз месяц справаздача ІБК стаяла на пасяджэньні СНК БССР. Пасьля абгавору справаздачы, СНК 10 ліпеня 1926 году прыняў наступную рэзалюцыю[3]): „Адзначыць узмацненьне уплыву ІБК на ўсю навуковую і дасьледчую працу ў рэспубліцы і разам з тым лічыць неабходным з 1926-27 акадэмічнага году надаць Інбелкульту напрамак у

[1]) Белорусская Сов Соц. Республика. Изд. СНК БССР. Минск 1927 г., стар. 432; „Інстытут Беларускай Культуры“. Менск. 1926. стар. 24.

[2]) Практычнае вырашэньне нацпытаньня ў БССР. Выданьне нацкамісіі ЦВК БССР ч. 1. Менск. 1928 г., стр. 79.

[3]) Там-жа, стр. 79.

бок паступовага ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук". Як мы бачым з абедзьвюх вышэйпаданых пастаноў, ІБК рэарганізаваны ў 1924 годзе па тыпу Акадэміі Навук, шоў даволі пасьпешна па шляху, вызначанаму для яго Беларускім урадам. З кожным годам ён падыходзіў усё бліжэй і бліжэй да прызначанай яму мэты.

У 1926-27 акадэмічным годзе ІБК значна паглыбіў сваю працу[1]). Лік яго сэкцый і камісій зьменшыўся, але якасьць працы кожнай сэкцыі і камісіі значна палепшылася. У складзе ІБК у 1926-27 годзе працавалі 7 сэкцый і 8 пастаянных камісій. Практыка працы прывяла да прызнаньня неабходнасьці злучаць аднародныя па прадметам вывучэньня камісіі і сэкцыі ў аддзелы. Камісіі і сэкцыі філёлёгічнага характару ўтварылі аддзел мовы і літаратуры. Прышлося зьвярнуць вялікую ўвагу на ўзмацненьне працы па вывучэньні прыроды Беларусі, бо дасьледваньне прыроды значна адставала ад гуманітарных досьледаў. Прыродазнаўчая сэкцыя ІБК прыступіла да арганізацыі музэя прыроды ў рэспубліканскім маштабе. Была спэцыяльна абарудавана хэмічная лябараторыя. У Менску быў арганізаваны пітомнік тутавых дрэў і вывучалася пытаньне аб разьвіцьці шоўкаводзтва на Беларусі. Былі адкрыты калёніі бабра па рэках Бярэзіне і Прыпяці і прыступлена да вывучэньня калёній. Праца камісіі па вывучэньні вытворчых прыродных сіл Беларусі была ўзмоцнена сродкамі і кваліфікаванымі работнікамі. Асабліва пашырылася геолёгічнае вывучэньне Беларусі. Геолёгічная 10-цівёрстная здымка БССР была закончана па тром акругом Беларусі. Былі вынайдзены багатыя запасы карысных выкапняў на Беларусі, пачалося вывучэньне мінеральных крыніц. Складзена глебавая карта трохвёрснага маштабу па двух акругох. Быў паложаны пачатак геомагнэсавай здымкі БССР. Навуковае таварыства па вывучэньні Беларусі ў Горы-Горках выдала дзьве кніжкі сваіх прац. Пры бліжэйшым удзеле сельска-гаспадарчай сэкцыі Інбелкульта распачаў сваю арганізацыю Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. Бібліатэка ІБК дарасла да 25.000 тамоў, галоўным чынам па беларусазнаўству. Пачынаючы з 1926-27 акадэмічнага году пры Інбелкульце ўжо функцыанавала спэцыяльна абарудаваная друкарня акадэмічнага тыпу з 3 плоскімі друкарскімі машынамі. Нацыянальныя сэктары шырока разьвінулі сваю працу, асабліва яўрэйскі сэктар. Працу ў сэкцыях яны замянілі працаю ў камісіях, што паглыбіла навукова-дасьледчы характар працы. Яўрэйскі сэктар пачаў выдаваць свой пэрыадычны орган „Цайтшрыфт". Польскі сэктар прыступіў да распрацоўкі матар'ялаў былага III аддзелу царскай канцылярыі. З восені 1926 году распачала сваю працу камісія па вывучэньні латышскай культуры.

Галоўнейшым момантам працы ІБК у 1926-27 годзе была скліканая ім 14 лістапада Акадэмічная Конфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, каторая працавала ў Менску цэлы тыдзень. Конфэрэнцыя складалася з 69 дэлегатаў. Апроч лепшых мовазнаўцаў Беларусі, тут удзельнічалі прадстаўнікі філёлёгічнай навукі РСФСР, УССР, Нямеччыны, Польшчы, Латвіі і Літвы. Па мове ў праграму канфэрэнцыі былі ўключаны наступныя даклады: „Сучасны стан дасьледаваньня беларускай мовы" (С. Некрашэвіч), „Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў" (Бузук), „Да рэформы беларускай азбукі" (Я. Лёсік, Растаргуяў), „Да рэформы беларускага правапісу" (Я. Лёсік, Некрашэвіч). Па літаратуры былі зачытаны наступныя даклады: „Асноўныя этапы разьвіцьця новай беларускай літаратуры" (Пятуховіч), „На-

[1]) „Институт Белорусской Культуры". Краткая информация. Минск, 1927 г.

цыянальны адраджанізм і пасьлякастрычнікаўскі пэрыод“ (М. Гарэцкі), „Дасьледваньне беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя да 1863 году“ (Голомбэк), „Поэтычнае мастацтва ў беларускай літаратуры“ (А. Вазьнясенск).

Конфэрэнцыя мела вялікае значэньне. Дзякуючы ёй, беларуская мовазнаўчая праца зрабілася здабыткам усесаюзнай і эўрапейскай навукі і выкарыстала, з другога боку, заваёвы ўсясьветнай навукі для сябе. Конфэрэнцыя выявіла той шлях, па якім павінна ісьці праца вывучэньня беларускай мовы, як мовы самастойнай, роўнай з іншымі славянскімі мовамі. У галіне рэформы беларускай графікі і правапісу Конфэрэнцыя прыняла цэлы шэраг рэальных, вельмі каштоўных пастаноў. Быў унесены цэлы шэраг навуковых конкрэтных паправак да граматыкі Б. Тарашкевіча, якія безбалезна могуць быць прыняты. Разам з тым Конфэрэнцыя дала шмат вельмі цікавых матар'ялаў па дасьледваньні беларускай мовы наогул. Не малое значэньне мела Конфэрэнцыя для вывучэньня беларускай літаратуры. Былі разгледжаны асноўныя этапы разьвіцьця беларускай літаратуры і мэтоды яе дасьледваньня. Мы атрымалі шмат каштоўнага матар'ялу па дасьледваньні найноўшага пэрыоду беларускай літаратуры.

Чужаземныя дэлегаты мелі магчымасьць бачыць, як будуецца жыцьцё ў Савецкай Беларусі. Яны з вялікаю цікавасьцю аглядалі культурна-асьветныя ўстановы ў Менску і Вітабску. Тое, што яны бачылі, зрабіла на іх добрае ўражаньне. Вось што, напрыклад, піша дэлегат Канфэрэнцыі, латвійскі пясьняр Ян Райніс аб нашых культурных заваёвах: „Справа друку і наогул асьветы моцна ідзе ўперад... Дэлегаты Конфэрэнцыі аглядзелі унівэрсытэт, добра наладжаныя клінікі, багата пастаўлены зоолёгічны кабінэт, псыхіятрычную клініку. Унівэрсытэт, хоць яшчэ і не абсталявавы канчаткова, але, трэба прызнаць, пастаўлены добра. Беларускі тэатр існуе ўсяго 5 год, але ён дасягнуў цяпер высокай ступені разьвіцьця. Ставяцца, як арыгінальныя п'есы, так і п'есы з эўрапейскага рэпэртуару. У Віцябску тэатр адчынілі арыгінальнай п'есай, а на другі дзень ставілі „Сон у летнюю ноч“ Шэксьпіра [1]).

Дэлегат Канфэрэнцыі, прафэсар Бэрлінскага унівэрсытэту, Фасмэр дае такую рэцэнзыю аб працы слоўнікавай камісіі Інбелкульту: „З вялікай радасьцю вітаю я багатыя зьместам зборы слоўнікавай камісіі. Я вельмі зьдзіўлены тым, як многа тут зроблена за кароткі час ад утварэньня Інстытуту. Спадзяюся і жадаю, каб гэтыя матар'ялы, якія так прыгожа цяпер выглядаюць, па магчымасьці хутка зьявіліся ў друку з тым, каб заходня-эўрапейскія вучоныя маглі зьвярнуць на іх сваю ўвагу і ацаніць іх“ [2]).

Дацэнт Латвійскага унівэрсытэту Е. Блесэ ў сваёй прамове на заключным паседжаньні Конфэрэнцыі гаворыць так: „Выносячы глыбокую падзяку Інстытуту за яго ласкавае запрашэньне, павінен паўтарыць тое, аб чым я ўжо меў гонар ня раз заяўляць, а менавіта: я вельмі абрадаваны тым, што я бачыў тут на на Беларусі. Я павінен тут канстатаваць вялікі дасягненьні Беларусі ў розных галінах культуры. Праўда, мая праца на Конфэрэнцыі была, магчыма, не асабліва актыўнай. Зьвярнуўшыся дамоў, я, бязумоўна, пастараюся растлумачыць і даць зьвесткі аб Беларусі, якія я тут пасьпеў набраць. Хоць мы і суседзі, але тое, што робіцца на Беларусі, нам было зусім невядома, і дзеля гэтага погляды некаторых колаў нашае грамадзкасьці на становішча Беларусі далёка не адпавядалі запраўднасьці. Я думаю, што

[1]) Латвійская газэта „Социял-Дэмократ“. 1926, 24-XI № 265.

[2]) Візытацыйны сшытак Слоўнікавай Камісіі ІБК за 1926 год.

цяпер мне ўдасца растлумачыць маім супляменьнікам запраўднае становішча справы, і думаю, што гэта таксама паслужыць справе зносін на карысьць абодвух народаў[1]).

Зразумела, што такая дадатняя ацэнка нашага культурнага будаўніцтва замежнымі вучонамі спрыяла больш правільнаму асьвятленьню заграніцай тых посьпехаў, якіх дасягнуў наш край пад кіраўніцтвам Компартыі і Савецкай улады. Гэтым самы конфэрэнцыя спрыяла ўзмацненьню значэньня Менску, як адзінага культурнага цэнтру этнографічнай Беларусі. Такім цэнтрам Менск мог зрабіцца толькі дзякуючы пастаяннай дапамозе Саюзу ССР, каторы дае ўсе магчымасьці для правільнага разьвязаньня ня толькі сацыяльнага, але і нацыянальнага пытаньня.

На ўсім працягу існаваньня Інбелкульту Компартыя Беларусі ўважліва сачыла за яго ростам, выпраўляла яго недахопы і падтрымлівала сваім кіраўніцтвам. Асаблівую ўвагу ўдзяліла яна Інбелкульту ў 1926-27 акадэмічным годзе, каторы быў як-бы пераломным годам у гісторыі ІБК. Да гэтага году ў ІБК культурна-асьветная праца пераважала над навукова-дасьледчай, з 1926-27 году ІБК выразна пашоў па навукова-дасьледчай дарозе. Партыя і вызначыла яму гэтую дарогу.

24 сьнежня 1926 году Бюро ЦК КПБ заслухала даклад аб становіску і дзейнасьці Інбелкульту. Пасьля дэтальнага абгавору ўсіх дасягненьняў і недахопаў ІБК была ўтворана камісія для падгатоўкі праекту рэзалюцыі ЦК па дакладу. Камісія на аснове абмену думкамі членаў Бюро ЦК, апрацавала праект рэзалюцыі, каторы і быў прыняты Бюро ЦК КП(б)Б праз тыдзень, 31-XII—1926 г. Праз два тыдні 15-I—1927 г. Бюро ЦК яшчэ раз разглядала пытаньне аб ІБК і прыняло дадатковую рэзалюцыю. Успынімся крыху на гэтых рэзалюцыях[2]).

Азнаёміўшыся з становішчам і працаю Інбелкульту, Бюро ЦК КП(б)Б адзначыла, што дзейнасьць ІБК за мінулы год значна пасунулася наперад, як у сэнсе ахапленьня і ўцягненьня ў працу навуковых і культурна-грамадзкіх сіл, так сама і ў сэнсе ўсебаковага дасьледваньня і вывучэньня Беларусі. Арганізацыя ў плянавым парадку новых асноўных і дапаможных істытуцый дала магчымасьць Інстытуту шырэй разгарнуць навукова-дасьледчую працу у тэорытычных і практычных яе напрамках. Пэўная сетка краезнаўчых арганізацый дала магчымасьць шырока разгарнуць працу, уцягнуць у яе шырокі актыў рабочых, сялян і інтылегенцыі і ўвязаць працу ІБК з шырокімі масамі. Выдавецкая праца ІБК параўнаўча з мінулымі годамі так сама значна павялічылася.

Разам з дасягненьнямі былі адзначаны і недахопы працы ІБК. Важнейшымі з іх былі такія: комуністычная частка працаўнікоў не заўжды выказвала актыўнасьць. У краезнаўчыя арганізацыі яшчэ не даволі было уцягнута рабочых і сялян. Значная частка навуковых працаўнікоў ІБК яшчэ ня мела выстарчальнай кваліфікацыі і працавала ў няспрыяючых умовах, аднэю з якіх быў дрэнны будынак. Для правадзейных членаў ІБК было мала штатных адзінак. Паміж паасобнымі інстытуцыямі ІБК назіралася слабая ўвязка.

Далей Бюро ЦК давала дырэктыву прыняць меры да зьнішчэньня вызначаных недахопаў. Апроч таго, было прызнана неабходным: а) „Устанавіць больш сьціслую сувязь Інстытуту з вышэйшымі наву-

[1]) Працы акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Менск, 1920 г. Выд. ІБК, стр. 400.

[2]) Архіў ІБК. Папка аб рэарганізацыі ІБК у БАН.
Выпісы з адпаведных пратаколаў Бюро ЦК КПБ.

чальнымі установамі БССР, а так сама з Акадэміямі Навук СССР і УССР". б) „Упросьціць структуру ІБК шляхам арганізацыі і афармленьня аддзелаў, якія павінны аб'яднаць адпаведныя інстытуцыі, а некаторыя з іх злучыць". в) „Правесьці дэградацыю і разьмеркаваньне членаў ІБК, палажыўшы у аснову гэтай працы кваліфікацыю навуковых працаўнікоў і іх актыўнасьць, а так сама уліць у ІБК максымум навуковых працаўнікоў БССР". г) „Узяць курс на рэарганізацыю ІБК у Акадэмію Навук". д) „Больш зьвярнуць увагу на тэрміналагічную працу". е) „Павялічыць з наступнага бюджэтнага году (1927-28) лік штатных членаў ІБК да 20 асоб, даўшы магчымасьць некаторай актыўнай і здольнай частцы іх падняць сваю кваліфікацыю" [1]).

Праз два тыдні перад Бюро ЦК КП(б)Б стала пытаньне аб тым, ці сваячасова ў даны момант рэарганізацыя ІБК у Акадэмію Навук. Адказ на гэта запытаньне быў дадзен адмоўны, але разам з тым Бюро ЦК вызначыла канкрэтна шлях ад ІБК да Акадэміі Навук. Было ухвалена: „1) Лічыць у даны момант несваечасовым рэарганізацыю Інбелкульту ў Акадэмію Навук. 2) Узяць курс на ўтварэньне Акадэміі Навук у БССР шляхам разьвіцьця і паглыбленьня навуковай працы ІБК у прыватнасьці: а) шляхам прыцягненьня навуковых працаўнікоў з вонку БССР для працы у ІБК, б) шляхам далейшага адбору навуковых працаўнікоў, каторыя працуюць у БССР, 3) прызнаць неабходным рэарганізацыю Навуковай Рады Інбелкульту ў Акадэмічную Раду, якая павінна сконцэнтраваць у сабе навуковую працу, аб'яднаючы працаўнікоў найбольш блізкіх па навуковым заслугам да годнасьці акадэмікаў. 4) Правесьці ў Інбелкульце і ў друку кампанію за паглыбленьне навуковага боку працы ІБК, прыстасаваўшы яе да факту арганізацыі Акадэмічнай Рады і перагляду складу членаў ІБК" [2]).

Па шляхох, вызначаных Компартыяй, Інбелкульт пашоў далей, зьнішчаючы паступова свае недахопы і паглыбляючы сваю кваліфікацыю. Больш як паўтара гады вялася гэтая праца. Вынікам яе была пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб сваечасовасьці рэарганізацыі ІБК у Акадэмію Навук, каторая была вынесена ў восень 1928 году.

Ужо вышэйпаказаная пастанова Бюро ЦК КП(б)Б вызначыла важнасьць краезнаўчай працы. Краезнаўчыя арганізацыі расьлі і іх сетка ўсё гусьцей і гусьцей пакрывала Савецкую Беларусь. Трэба было прыдаць пэўную і сталую форму краезнаўчаму руху. Гэта зрабілі зьезды краезнаўцаў, каторыя адбыліся ў Менску—у лютым 1926 году і другі ў лютым 1927 году.

На першым усебеларускім краезнаўчым зьезьдзе было 143 дэлегаты. Апроч ІБК, ЦБК і музэяў, тут былі прадстаўлены 87 краезнаўчых арганізацый БССР, лік членаў якіх дасягаў 5000. Апроч справаздачы ЦБК і дакладаў з месц (10 акруговых арганізацый, 2 раённых і аднаго гуртка), зьезд заслухаў 8 інструкцыйных дакладаў і даклад аб далейшых шляхах краезнаўства. Быў прыняты шэраг рэзалюцый, каторыя адзначылі шлях краезнаўства на далейшы час. Асаблівая увага была зьвернута на ўцягненьне ў краезнаўчы рух нацменшасьцяў Беларусі:— „Зьезд адзначае абавязковую патрэбнасьць ўцягваньня нацыянальных меншасьцяў у працу краезнаўчых арганізацый, як дзеля агульнай працы, так і дзеля вывучэньня быту і культуры нацменшасьцяў. Нацыянальныя аддзелы Інбелкульту павінны мець сваіх прадстаўнікоў у ЦБК [3]). Асобным пунктам зьезд адзначыў неабходнасьць шырокай

---

[1]) Выпіска з пратаколу Бюро ЦК КП(б)Б ад 31-XII 1926 г.

[2]) Выпіска з пратаколу Бюро ЦК КП(б)Б ад 15-I 1927 г.

[3]) Працы першага Ўсебеларускага краезнаўчага зьезду. Менск, 1926 г. Стар. 73 § 2.

арганізацыі гурткоў краезнаўства пры сельсаветах, хатах чытальнях і школах. „Заданьнем гэтых гурткоў трэба лічыць: а) утварэньне сельсавецкіх, школьных і іншых музэяў, б) арганізацыю краезнаўчых гурткоў у хатах-чытальнях, в) зьбіраньне матэр'ялаў для райённых таварыстваў, г) наладжаньне экскурсый, лекцый, дакладаў на краезнаўчыя тэмы і г. д. [1]).

На другім краезнаўчым зьезьдзе было 187 дэлегатаў: ад райёнаў—82, ад акруговых краезнаўчых арганізацый—34, ад ВУЗаў і тэхнікумаў—21, ад цэнтральных установаў—50 дэлегатаў. Было прадстаўляна каля 9000 членаў арганізацыі. Куды шырэй, чым на першым зьезьдзе, былі прадстаўляны райённыя арганізацыі, каторыя за год значна ўзрасьлі. У першым пункце сваёй рэзалюцыі зьезд адзначыў ніжэйпаданае: „Ад І да ІІ краезнаўчага зьезду краезнаўчы рух БССР, выкліканы умовамі і патрэбамі надзвычайнага узросту гаспадарча-культурнага будаўніцтва і яго сацыялістычных элемэнтаў, пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, становіцца запраўды шырокім грамадзкім рухам навуковага вывучэньня краю ў мэтах дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву, паступова ўцягваючы ў гэтую справу шырокія масы працоўных" [2]). Зьезд праходзіў вельмі актыўна. Дэлегаты вызначалі ня толькі дасягненьні, але і недахопы краезнаўчай працы, падвяргаючы іх самай суровай крытыцы. Асноўнымі пытаньнямі дыскусіі былі — пытаньне арганізацыйнага парадку і пытаньне творчай працы арганізацый па вывучэньню краю. Зьезд адзначыў, што праца краезнаўчых арганізацый за мінулы год концэнтравалася на зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу жывой беларускай мовы, на зьбіраньні казак, песень, прыпевак і іншага фольклёрнага матар'ялу, на запісах мэтэорологічных і фэнолёгічных нагляданьняў, на зьбіраньні музэйных рэчаў і г. д. Краязнаўцы за тое амаль-што зусім не працавалі над вывучэньнем прыродных вытворчых сіл Беларусі, над яе эканомікай і гаспадаркай. Гэты недахоп трэба зьнішчыць. Вось чаму ў плян працы мясцовых краезнаўчых арганізацый увайшло: а) вывучэньне бюджэту сяляніна, вывучэньне хатніх рамёстваў і іншых гаспадарча-эканамічных фактараў. „Падагульняючы працу Зьезду, яе значэньне можна ахарактаразаваць у двух словах. Зьезд зацьвердзіў усталяваўшыяся формы краезнаўчага руху; ён даў кірунак далейшай арганізацыйнай працы. Апроч таго, зьезд зацьвердзіў усе мерапрыемствы адносна вядзеньня творчае працы па вывучэньні краю, даўшы пэўны кірунак гэтае працы (вывучэньне ў першую чаргу вытворчых сіл краю)" [3]).

Пасьля Ўсебеларускіх краязнаўчых зьездаў праца краязнаўчых арганізацый канчаткова ўзмацняецца. Краязнаўчы рух прасякае ў самыя глухія куткі Беларусі, уцягваючы ў вывучэньне краю актывістаў гораду і вёскі. Уся гэтая праца праз Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўвязана з Інбелкультам. У бягучы момант краязнаўчыя арганізацыі абхапілі больш 10.000 чалавек. Масавы краязнаўчы досьлед злучаецца з тым досьледам, які вядзецца ў Інбелкульце.

Паступовае разьвіцьцё навукова-дасьледчае працы Інбелкульту рабіла рамкі старога статута, зацьверджанага ў 1924 годзе, зацеснымі для яго і неадпавядаючымі яго сутнасьці. Само сабою ўзьнікала пытаньне аб новым статуце, каторы адказваў-бы запраўднаму зьместу ІБК і тым заданьням, каторыя былі пастаўлены перад ім партыяй і ўладай. Такім

[1]) Працы першага Ўсебеларускага краезнаўчага зьезду. Менск, 1926 г. Стар. 73, § 7.

[2]) Наш край. Штомесячнік ЦБК 1927 г. № 2 (17), стр. 60.

[3]) Там-жа. М. Бялуга. Праца 2 краезнаўчага зьезду. Стар. 5.

статутам мог быць акадэмічны статут, блізкі да статутаў Акадэміі Навук СССР і УССР. Падгатоўка праекта статута распачалася яшчэ вясною 1927 году. Савнарком БССР зацьвердзіў яго 29-VI—1927 году.

На аснове гэтага статута ІБК быў, як і па ранейшым статуце, адзначаны, як вышэйшая дзяржаўная навуковая установа БССР, але цяпер ён знаходзіўся пры СНК Беларусі. Заданьні яго, параўнаўча са старым статутам, значна пашырыліся. Па новаму статуту [1]). „Інбелкульт мае наступныя заданьні: а) пашырэньне і ўдасканаленьне навуковых дысцыплін, якія належаць да яго кампэтэнцыі, абагачаючы іх новымі выкрыцьцямі і мэтадамі дасьледваньня, б) плянавае дасьледаваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, вывучэньне і судзейнічаньне іх выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзкага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і інш., в) аб'яднаньне ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі установамі БССР і паасобнымі вучонымі, г) дапасаваньне навуковых твораў і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага ужываньня ў прамысловасьці і культурна-эканамічным будаўніцтве БССР“. Усе дысцыпліны, вывучаемыя Інбелкультам былі падзелены на два аддзелы: а) прыроды і гаспадаркі і б) гуманітарных навук. Нац.-аддзелы былі параймянаваны ў нац-сэктары, і праца іх больш увязана з аддзеламі. Цэнтральнае Бюро краязнаўства было прызнана аўтаномнай інстытуцыяй пры ІБК. Былі павялічаны кваліфікацыйныя запатрабаваньні, як у адносінах да правадзейных членаў, так і ў адносінах да іншых навуковых супрацоўнікаў ІБК. Былі сьцісла аформлены правілы набору і тых, і другіх. Быў устаноўлены у ІБК інстытут асьпірантаў.

На чале ІБК, як агульна-кіраўнічы орган, была пастаўлена Акадэмічная Рада, якая складалася з правадзейных членаў і дырэктараў важнейшых устаноў Інбелкульту. Як выканаўча-кіраўнічы орган, на чале ІБК быў пастаўлены Прэзыдыум, каторы складаўся з 7 асоб: прэзыдэнта, віцэпрэзыдэнта, неадменнага сакратара, двух старшынь аддзелаў і двух старшынь сэктараў. На чале аддзелаў і сэктараў былі пастаўлены Рады аддзелаў і сэктароў, каторыя складаліся з правадзейных членаў і загадчыкаў інстытуцый таго ці іншага аддзелу або сэктару [2]). Бягучыя справы Інбелкульту былі аддадзены на разгляд Сакратарыяту, каторы складаўся з віцэпрэзыдэнта, неадменнага сакратара і старшыні таго аддзелу, або сэктару, справа якіх разглядаецца [3]). Інбелкульт атрымаў усе правы існаваўшых у Саюзе ССР Акадэміяў Навук: права на паштовыя льготы, на бязмытнае атрыманьне з-за граніцы друкаваных выданьняў і навуковага абсталяваньня, права юрыдычнай асобы і г. д. [4]).

На працягу 1927-28 году Інбелкульт працаваў ужо у рамках новага акадэмічнага статуту. Ён налічваў 15 правадзейных членаў і 13 дырэктароў і больш 70 навуковых супрацоўнікаў і асьпіратаў, апроч пазаштатных. Гадовы бюджэт ІБК складаў каля 340.000 рублёў. Пры прэзыдыуме Інбелкульту працавалі—Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, бібліографічная камісія, камісія для вывучэньня Заходняй Беларусі, вайсковатэрміналагічная камісія, камісія па вывучэньні прыродных вытворчых сіл Беларусі, бібліотэка і друкарня. Па аддзелу гуманітарных навук працавалі—катэдра гісторыі беларускай мовы, катэдра жывой беларускай мовы, інстытут навуковай мовы, катэтра гісторыі беларускай

[1]) Статут Інстытуту Беларускай Культуры. Менск, 1927, стар. 3. § 2.

[2]) Статут Інстытуту Беларускай Культуры. Менск, 1927. Аддз. III, IV, VI.

[3]) Там-жа. Аддз. V.

[4]) Там-жа. Аддз. VIII.

літаратуры, катэдра агульнай гісторыі, катэдра па гісторыі Беларусі з камісіямі, камісія гісторыі асьветы на Беларусі, катэдра этнаграфіі і інстытут беларускага мастацтва. Па аддзелу прыродных і гаспадарчых навук працавалі—геологічны інстытут, катэдра глебазнаўства, батанікі, зоолёгіі, геграфіі, хэміі, антропологіі, біологіі і камісіі па вывучэньні прамысловасьці, хатніх рамёстваў, і коопэрацыі. Пры гэтым-жа аддзеле працавала ў Горы-Горках Навуковае Таварыства па вывучэньні Беларусі, каторае распадалася на прыродазнаўчую і гаспадарчую сэкцыі.

Праца еўсэктару вялася у камісіях—лінгвістычнай, тэрмінологічнай, гісторыка-літаратурнай, фольклёрнай і эканамічнай. У польсэктару працавалі камісіі літаратурна-мовазнаўчая, этнаграфічная і гістарычная. Камісія па вывучэньні латышскай культуры працавала ў гэтым годзе менш актыўна за адсутнасьцю працаўнікоў. Праца яе ажывілася з вясны 1928 году. Была заснована катэдра па гісторыі Літвы, пры каторай утварылася і адпаведная камісія.

У 1927-28 годзе значна ажывіліся экспедыцыйныя досьледы, лябораторная праца і выдавецтва. К канцу акадэмічнага году налічвалася выдадзеных каля 1000 друкаваных аркушаў і 90 назваў. Друкарня была значна лепш абсталявана і яе памяшканьне пашырылася. Што датыча памяшканьня самаго Інбелкульту, то справа абстаяла вельмі дрэнна. Недахват плошчы не даваў магчымасьці разьверчваць працу і пагражаў вельмі цяжкімі пасьледствамі для працы.

У сакавіку 1928 году даклад Беларускага ўраду аб правядзеньні беларусізацыі стаяў на пасяджэньні Прэзыдыуму Савета Нацыянальнасьцяў ЦВК СССР. Было закранута пытаньне і аб Інбелкульце. Прэзыдыум Савета Нацыянальнасьцяў, азнаёміўшыся з працаю ІБК, у агульную рэзалюцыю па дакладу Беларускага ураду унес наступны пункт: „Адзначаючы асаблівую роль Інстытуту Беларускай Культуры ў справе разьвіцьця культуры усіх нацыянальнасьцяў БССР, а таксама пашырэньне яго дзеяльнасьці, лічыць сваечасовым і мэтазгодным рэарганізацыю вышэйадзначанага Інстытуту ў Акадэмію Навук“ [1]. Гэтая думка аб сваечасовасьці рэарганізацыі будзе спатыкацца цяпер часта як на Беларусі, так і ў СССР. Паступова яна ўсё больш і больш будзе пашырацца і захапліваць як партыйную, так і беспартыйную грамадзкасьць.

Яшчэ больш судзейнічаў гэтаму даклад Інбелкульту і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі у СНК БССР аб выніках дасьледчай працы ў галіне прыродных вытворчых сіл Беларусі, каторы адбыўся 16-V—1928 году. Даклад выкрыў перад СНК усе дасягненьні і нелахопы ў дасьледчай працы ІБК і завастрыў цэлы шэраг пытаньняў вельмі важных для нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Рэзалюцыя па дакладу адзначыла, што ІБК разгарнуў значную навукова-дасьледчую працу ў галіне дакладных навук: геологіі рэгіяльнай і прыкладнай, глебазнаўства, геобатанікі, географіі, геофізікі, хэміі, а таксама і па вывучэньні вытворчых прыродных сіл Беларусі. Былі выяўлены яшчэ нескарыстаныя энэргетычныя рэсурсы, таксама значныя запасы карысных выкапняў, якія па сваёй якасьці і тэхнічна эканамічных умовах эксплёатацыі могуць мець значэньне, як база сыравіны для разьвіцьця шэрагу галін прамысловасьці—шкляной, цэмэнтнай, кафлянай, керамічнай, фарбянай, па вырабу мінэральных угнаеньняў і іншых хэмічных прадуктаў. Тым ня менш было адзначана, што тэмп разьвіцьця дасьледчай працы ў рэспубліцы адстае ад тэмпу будаўніцтва ў рэспуб-

[1]) Архіў ІБК. Справа аб рэарганізацыі ІБК у БАН. Адносьнік ЦВК БССР ад 18-IV—1928 г.

ліцы, што залежыць ад цэлага шэрагу об'ектыўных прычын: недастатковага ліку высокакваліфікаваных спэцыялістых, недахватаў у абсталяваньні і матэрыяльных умовах працы, слабой увязкі дасьледчай працы як паміж паасобнымі навукова-дасьледчымі установамі, гэтак і паміж гаспадарчымі і навуковымі ўстановамі. У сувязі з гэтым СНК дае цэлы шэраг дырэктыў для зьнішчэньня гэтых недахватаў. Прызнаецца неабходным: а) паставіць на належную вышыню стацыянарна-лябараторныя установы ІБК па прыродных і гаспадарчых навуках, б) зьвярнуць асаблівую ўвагу ІБК на разьвіцьцё дысцыплін індустрыяльнага цыклю, в) узьняць перад СНК СССР пытаньне аб асыгнаваньні сродкаў на геологічныя досьледы ў БССР з сум, якія асыгнуюцца Ўсесаюзнаму Геологічнаму Камітэту, г) даручыць ІБК узмацніць склад навуковых працаўнікоў па прыкладных навуках шляхам прыцягненьня адпаведных асоб[1]).

Для ІБК былі асабліва важнымі §§ 10 і 12 рэзалюцыі СНК. Прыводзім іх тут цалкам. § 10. „Запрапанаваць Наркамгандлю БССР устанавіць парадак беспасрэднага атрыманьня ад ІБК заявак на замежнае навуковае абсталяваньне і выдзяленьне імпортных кантынгентаў". Гэты пункт даваў магчымасьць ІБК мець свой асобны ліцэнзыйны фонд, ясна вызначаны на кожны бюджэтны год. Дагэтуль ліцэнзыйны фонд ІБК быў агульным з НКА, што ўносіла ў справы шмат наясьнасьцяў і непаразуменьняў. Зьмест § 12 быў наступны: „Прымаючы пад увагу цяжкія умовы разьмяшчэньня устаноў ІБК, запрапанаваць Менскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту разам з ІБК падаць на працягу месяцу праэкт аб прадастаўленьні ІБК, у бягучым гаспадарчым годзе дадаткова адпаведнага памяшканьня. Разам з тым прызнаць неабходным для грунтоўнага разьвязаньня ўмоў, спрыяючых разьвіцьцю дасьледчай працы, пабудаваць новы будынак для ІБК, запрапанаваўшы апошняму падрыхтаваць матэрыялы і праэкты, і канкрэтны даклад па гэтым пытаньні з заключэньнем Дзяржаўнай Плянавай Камісіі падаць у Савет Народных Камісараў". Гэты пункт пастановы меў вялізнае значэньне асабліва, калі мы прымем пад увагу амаль што катастрафічнае палажэньне ІБК у сэнсе разьмяшчэньня яго устаноў.

У 1928-29 акадэмічны год ІБК увашоў як моцная навукова-дасьледчая ўстанова, узрошчаная Кампартыяй і Савецкай уладай. У мэтах выкарыстаньня навуковых дасягненьняў для соцыялістычнага будаўніцтва, ІБК разьвінуў шырокую працу ў вывучэньні Беларускай культуры і культур іншых нацыянальнасьцяў БССР. У ІБК згрунтаваліся лепшыя навуковыя сілы, і ён пачаў абрастаць кадрам маладых дасьледчыкаў. Сувязь ІБК з шырокімі працоўнымі масамі Беларусі ўзмацнілася. Наладзіліся навуковыя сувязі ІБК з навуковымі установамі СССР і замежных краін. Усё гэта прывяло, як партыйную, так і беспартыйную грамадзкасьць да прызнаньня сваечасовасьці рэарганізацыі ІБК у Беларускую Акадэмію Навук.

У першых лічбах кастрычніка Бюро ЦК КП(б)Б, як мы ўжо вызначылі раней, аднагалосна вынясла пастанову аб сваечасовасьці рэарганізацыі ІБК у БАН.

13-X 1928 году ЦВК і СНК БССР выдалі пастанову аб рэарганізацыі. Прыняўшы пад увагу наступовы ўзрост ІБК і маючы на мэце далейшае паглыбленьне навуковай працы ў мэтах сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама маючы на мэце стварыць магчымасьць яшчэ больш інтэнсыўнага разьвіцьця навуковай дзевнасьці ў галіне беларускай культуры і дасьледчай працы ў БССР, яшчэ большага згурта-

---

[1]) Пратакол паседжаньня СНК БССР № 43, 16-V, 1928, 570.

ваньня ўсіх вучоных, якія гатовы аддаць свае веды на карысьць рабочых і сялян, стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы для падрыхтоўкі новых кадраў вучоных з шэрагу рабочых і сялян, ЦВК і СНК БССР пастанаўляюць: 1) рэарганізаваць Інстытут Беларускай Культуры ў Беларускаю Акадэмію Навук. 2) Рэарганізацыю скончыць да 1 студзеня 1929 году (да юбілею дзесяцігодзя стварэньня БССР). Утварыць урадавую камісію ў складзе т. т. Хацкевіча (старшыня), Ігнатоўскага, Баліцкага, Некрашэвіча і Аршанскага, якой даручыць да 15 лістапада 1928 году падаць у СНК на зацьвярджэньне сталы склад Прэзыдыуму і асабовы склад правадзейных членаў БАН, а таксама тыя зьмены ў статуце Акадэміі, якія патрэбны і выцякаюць з гэтай пастановы" [1]).

Савет Народных Камісараў СССР, 9-Х—1928 году, прыймаючы рэзалюцыю па дакладу Беларускага ўраду, таксама адзначыў у ёй своечасовасьць рэарганізацыі Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук і зацьвердзіў пастанову СНК БССР аб рэарганізацыі ІБК у БАН і аб пабудове спэцыяльнага будынку для Беларускай Акадэміі Навук. „Надаючы вялікае значэньне далейшаму разьвіцьцю нацыянальнай культуры ў БССР, СНК СССР пастанаўляе: ухваліць пастанову СНК БССР аб рэарганізацыі ІБК у БАН", „ухваліць мерапрыемствы Беларускага ўраду, накірованыя на ўзмацненьне жыльлёвага і комунальнага будаўніцтва БССР, у прыватнасьці, пастанову СНК БССР аб пабудове ў горадзе Менску спэцыяльнага будынку для Беларускай Акадэміі Навук" [2]).

Так быў пройдзены сямігадовы шлях ад Беларускай тэрміналёгічнай камісіі да Беларускай Акадэміі Навук. Беларуская Акадэмія Навук ёсьць дзіця Кастрычніка. Яна ёсьць першая ў Саюзе ССР Акадэмія, пабудаваная з самага пачатку Компартыяй і Савецкай уладай. Гэта накладае на яе пачэсны абавязак заўжды ісьці па шляху творчасьці Кампартыі і Савецкай Улады. БАН, вырасшая зьнізу, заўжды павінна памятаць аб тым, што і ў далейшым яна будзе моцнаю толькі тады, калі яна яшчэ больш мабілізуе рабоча-сялянскі актыў дасьледчыкаў, калі яе лябораторная і кабінэтная праца будзе злучана з краязнаўчаю дасьледчаю працаю шырокага актыву. Узросшая ў умовах комуністычнага разьвязаньня нацпалітыкі, БАН і надалей павінна памятаць, што сацыялістычнае будаўніцтва вядзецца на Беларусі рабочаю клясаю і працоўнымі масамі розных нацыянальнасьцяў, што ў розных нацыянальных формах на Беларусі, як і ўва ўсім Саюзе ССР, будуецца адзіная новая пралетарская культура, якая зьніштажае нацыянальную розьнь і нецярпімасьць. Беларуская Акадэмія Навук будзе уважліва разьвіваць як беларускую культуру, так і культуры нацменшасьцяў Беларусі, выкоўваючы новых працаўнікоў з розных нацыянальнасьцяў на ніве пралетарскай культуры.

БАН пабудована Кастрычнікавай рэвалюцыяй і рабочаю ўладаю. Тэорыя клясавай барацьбы рабочае клясы за свае вызваленьне і вызваленьне прыгнечаных мас зьяўляецца рэвалюцыйная Марксава тэорыя дыялектычнага матэрыялізму. Зразумела, што БАН—дзіця Кастрычніка і рабочай дзяржавы—павінна моцна трымацца дыалектычнага матэрыялізму, як праўднага сьветапогляду і тэорыі барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва. Мэтод і тэорыя дыалектычнага матэрыялізму павінны будуць заўжды ўжывацца ў Акадэміі ў галінах навук гуманітарных і дакладных.

---

[1]) Газэта „Савецкая Беларусь" 1928, 14-Х. № 238 (2425), стар. 1.

[2]) „Зьвязда" 1928, № 245 (3052). Пастанова СНК СССР па дакладу ўраду БССР, § 20а, 21.

Інбелкульт на ўсім працягу ранейшай сваёй працы меў моцнае падтрыманьне партыі, Савецкай улады і шырокіх працоўных мас. Толькі дзякуючы гэтаму, ён ішоў па шляху разьвіцьця і росту. Цяпер, вырасшы ў Беларускую Акадэмію Навук, ён тым больш патрабуе гэтага падтрыманьня. „Стварэньне БАН азначае пераход беларускай культуры ў вышэйшую клясу. Неабходна максымальная канцэнтрацыя ўсіх сіл навакол яе, неабходна максымальная ўвага мас да яе, неабходна максымальнае судзейнічаньне ёй з боку партыі, савецкае ўлады, арганізаванай рабоча-сялянскай грамадзкасьці. Тады яна стане сапраўдным асяродкам новай культурнай эпохі. Тады яна стане буйным культурным асяродкам. Няхай жыве Беларуская Акадэмія Навук“ [1]).

---

[1]) В. Кнорын. Беларуская Акадэмія Навук. „Зьвязда“ 1928, 14-X № 238 (3045). Стар. 1.

Ан. Сталевіч

# Сялянскія партыі ў Заходняй Беларусі[1])

* * *

Калі разглядаць агульнікова, дык роль сялянства ў асноўнай сваёй масе на працягу ўсяе гісторыі капіталістычнага грамадзтва зводзілася да хістаньняў то ў бок капіталу, то да рабочае клясы, залежна ад эканамічнага яго становішча. Пры больш падрабязным разглядзе відаць, што значнае распластаваньне сялянства з яго рознымі эканамічнымі станамі вытварае ў асяродзішчы сялянства і розныя палітычныя напрамкі і імкненьні. Кулак мае пастаянную цягу да буржуазіі, альбо яднаецца з ёю, бядняцкае сялянства ідзе за рабочаю клясаю, а за серадняка найчасьцей точыць бой паміж капіталістычным лягерам і рабочай клясай. Бо сялянства, дзякуючы сваёй лічбовай вялічыні, набірае палітычную вагу асабліва ва ўмовах аграрных краёў, якім зьяўляецца Зах. Беларусь і тым больш у пэрыяд пралетарскае рэвалюцыі. У гэты пэрыяд, каб завяваць дыктатуру пролетарыяту для рабочае клясы неабходна непасрэдная дапамога шырокіх сялянскіх мас, — вось чаму перад пралетарыятам у яго барацьбе за ўладу набываеаграмаднае значэньне пытаньне аб саюзьніку і адгэтуль барацьба за ўплыў на бядняцкія і серадняцкія масы сялянства.

У Зах. Беларусі справа стаіць добра: асноўная сялянская маса варожа і бурна настроена супроць капіталістычнага ладу. Шэраг масавых кампаніяў, праведзеных кампартыяй, паказалі, што партыя мае вялікі ўплыў на бядняцкія і асноўную серадняцкую масы сялянства. А кіпучая дзейнасьць Бел. Рабочае Сялянскай Грамады і яе арганізацыйны размах лішні раз пацьвярдзілі, што эксплёатаваныя і прыгнечаныя масы сялянства Зах. Беларусі рашуча змагаюцца ў рабоча-сялянскім саюзе, прымыкаюць да рэвалюцыйнага лягеру і цьвёрда ідуць за лёзунгамі компартыі. Для буржуазіі і яе ўраду ў Польшчы з усёй вачавіднасьцю стала пытаньне разгрому нарастаючага рэвалюцыйнага руху, пытаньне задушыць арганізатара і кіраўніка гэтага руху—компартыю. З свайго боку беларускае мяшчанства, кулакі і згодніцкая частка з беларускае інтэлігенцыі, адчуваючы супольнасьць інтарэсаў з польскай буржуазіяй і ахвочыя пагрэць рукі каля часовай стабілізацыі капіталізму ў Польшчы,—душою і целам прадаюцца капіталістычна-абшарніцкаму ўраду. Спэкулюючы на вялікім рэвалюцыйным напоры сялянства Зах. Беларусі, гэтыя шумавіны—саматужная беларуская буржуазія вытаргоўвае ў польскае буржуазіі тыя ці іншыя ўступачкі і падачкі, за якія абяцаюцца вырываць рэвалюцыйныя масы сялянства з-пад уплыву компартыі і вясьці іх на шлях угоды, інакш кажучы, на шлях большага закабаленьня.

[1]) Гл. № № 9 і 10.

У выніку гэтых абапольных інтарэсаў у часе росквіту Грамады і ў процівагу Грамадзе зьяўляецца сялянская контр-рэвалюцыйная згодніцкая партыя *Беларускі Сялянскі Саюз,* заснаваная пасламі з правай часткі Беларускага Пасольскага Клюбу — Ярэмічам і Рагуляй. Гэтыя новыя згоднікі са старымі ашуканствамі выступаюць перад працоўнымі масамі Зах. Беларусі з выпрабаванымі спосабамі згоднікаў усяго сьвету, а менавіта яны старанна маскуюць левым сказам і гульнёй у апазыцыю да ўраду сваё абліччa агентаў буржуазіі. Зямля бяз выкупу, зямля працоўнаму сялянству скланяецца на розныя лады Сялянскім Саюзам, таксама як і Б. Х. Д. і побач з тым ён стаіць за камасацыю і хутарную гаспадарку ды падтрымоўвае кулацкую зямельную рэформу ўраду. Дапамагаючы ўраду праводзіць усю яго палітыку вызыску і ўціску, памагаючы граміць нацыянальна-вызваленчы рух у Зах. Беларусі, сельсаюзьнікі ў сваёй газэце лічаць патрэбным пусьціць туман патэтычным сказам: „Найагіднейшая ўгода будзе тады, калі згодзішся з тым, хто цябе душыць“.

Сялянскі Саюз—гэты новы гадунец польскай буржуазіі нічым ня розьніцца ад Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі,—тое самае прадажнае служэньне капіталу, рэакцыйны падыход да праблемы вызваленьня Зах. Беларусі, курс на стварэньне беларускае буржуазіі і буржуазнае дзяржаўнае незалежнасьці, словам Б. Х. Д. і Б. С. С. — гэта парка гнядых—дзьве дробнабуржуазныя партыі, якія выяўляюць інтарэсы кулацтва і беларускага гарадзкога мяшчанства і якія, працуючы сярод сялянства, зьяўляюцца праваднікамі ўплыву буржуазіі на беларускія сялянскія масы і далакопамі справы вызваленьня гэтых мас.

Аднак, у тактыцы між Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыяй і Сялянскім Саюзам наглядаецца розьніца. Справа ў тым, што беларускае каталіцкае насельніцтва, сярод якога працуе Б. Х. Д., знаходзіцца пад значна большым уплывам клеру, чым праваслаўныя. Гэта адна з галоўнейшых прычын, чаму компартыя не дасягнула яшчэ таго роўню ўплыву, не настолькі ўкараніла яшчэ сваіх лёзунгаў, як гэта мае месца сярод беларускіх мас праваслаўнае рэлігіі. Таму Б. Х. Д. ня так старанна распрацоўвае контр-рэвалюцыйныя лёзунгі, ня так пацее над фальсыфікацыяй лёзунгаў компартыі; яна старанна абыходзіць балячкі вёскі эканамічнага парадку, больш апэруючы сваім згодніцтвам у галінах рэлігійнай і нацыянальнай. Сялянскі Саюз мае больш клопату: буржуазія на яго абавязкі ўзлажыла працу сярод праваслаўнага беларускага сялянства, дзе яму адразу прышлося пачаць бой з компартыяй і Грамадой.

Свае палітычныя дэбюты Ярэміч і Рагуля адзначылі ў органе Сялянскага Саюзу „Сялянская Ніва“ шалёнай атакай на папулярна-рэвалюцыйны лёзунг у Зах. Беларусіі—„саюз рабочых і сялян“. Ня гледзячы на сваю палітычную залатушнасьць, сельсаюзьніцкім паслом тут удалося даволі ўмела выкарыстаць усю зброю контр-рэвалюцыйнага арсэналу. Рэч вядомая, што пры капіталістычным ладзе існуе некаторая разьбежнасьць інтарэсаў між пралетарыятам (пакупцом) і сялянствам (прадаўцом), разьбежнасьць, якая выцякае з прыватнае таварнае гаспадаркі, з прыватнае ўласнасьці. Гэтая разьбежнасьць інтарэсаў зьмяншаецца па меры адыходу ад буйнае кулацкае гаспадаркі да вясковае беднаты. На Зах. Беларусі прымешваецца яшчэ і нацыянальны момант, дзе горад пераважна зрусыфікаваны альбо спалёнізаваны. Выходзячы з гэтых дзьвюх заложаньняў, верхаводы Сельсаюзу пачалі з асаблівай сілай выпучваць інтарэсы *ўсяго* беларускага сялянства ў цэлым і натраўляць яго на рабочую клясу. „У значнай меры інтарэсы фабрычных рабочых і сялян ня толькі што між сабою розьняцца,—піша ў перадавіцы „Сялянская

Ніва",—але часта і пярэчаць адны адным". Адгэтуль беларускае сялянства павінна змагацца і супроць пралетарыяту, які ў Зах. Беларусі пераважна польскае нацыі. Каб даказаць селяніну аб слушнасьці сваей „тэорыі", сельсаюзнікі грунтуюць яе на самым набалеўшым пытаньні ў Зах. Беларусі—зямельным. Разглядаючы польскую кулацкую зямельную рэформу, „Сялянская Ніва" кажа:

„Ад кавалка зямлі ў Зах. Беларусі не адмовіцца ані польскі малазямельны ці безьзямельны селянін, ані польскі інтэлігент, ані польскі рабочы. Яны сядуць на зямлю і забудуць лёзунгі: „мая бацькаўшчына—увесь сьвет", „усе людзі—брацьця", а запяюць з другой оперы: „нам жыта горба, а вам вялікая торба". Гэтакія паны-асаднікі з польскіх рабочых і сялян, едучы ў наш край, могуць нават прывезьці з сабой чырвоныя штандарты на той выпадак, калі-б зрабілася якая завіруха, каб выйсьці з імі і замест слоў: „мне жыта горба, а табе вялікая торба", крычаць— „табе зямля, а мне зярня", „табе праца катаржная, а мне прадседацельства ў Іспалкоме".

На гэтую справу мы павінны глядзець проста памужыцку: у этнаграфічнай Польшчы і зямля і служба польскаму селяніну і рабочаму, а ў нас—нашаму. Мы польскаму селяніну і рабочаму кажам: ты брат мой, а еж хлеб свой („Сялянская Ніва" № 4).

Паглядзім на палітыку і лічбы ў Польшчы: прадстаўнікі рабочых, прамыслоўцы, гандляры, капіталістыя праз голавы сялян падалі сабе рукі і коштам сялян адны робяць сабе дабрабыт, другія,— гэта ёсьць рабочыя,—на гэта гледзячы маўчаць, за што ім даюць хоць на палову, але каб быць сытымі.

Цяпер у Польшчы, дзякуючы ненармальным адносінам, шмат безработных, і ім кепска жывецца, але ім хоць трохі ўрад дапамагае, а колькі-ж сялян безработных і хто ім памагае? Аб гэтым ніхто ня ведае, ды і нікому галава аб гэтым не баліць, бо селянін не арганізаваны, ня крычыць і ніхто на яго не зварочвае ўвагі.

Гэта аб безработных. Цяпер скажам некалькі слоў аб тых, якія працуюць. Гэтыя ляпей жывуць у некалькі разоў, як самы найбагацейшы селянін, ня кажучы ўжо аб самым бедным.

Паглядзім мы так-жа, як жывецца селяніну ў СССР, дзе быццам мае ўладу ня толькі рабочы, але і селянін. Аказваецца, што тут тое самае: горад жыве за рахунак селяніна" („Сялянская Ніва" № 6).

Тут, як бачым, цесна пераплятаецца разгром саюзу рабочых і сялян, натраўленьне беларускіх мас на польскія і кіданьне каменьняў у бок дыктатуры пралетарыяту—на СССР, наогул шчыльная ўвязка ўдарных контр-рэвалюцыйных лёзунгаў. Завастраючы і раздуваючы разьбежнасьць інтарэсаў рабочых і сялян і натраўляючы адных на другіх, Сялянскі Саюз у даным выпадку, апіраючыся на кулака, робіць галоўную стаўку на серадняка, бо разьбежнасьць інтарэсаў між пралетарыятам і вясковай беднатой настолькі нязначна, што тане ў перавазе супольнасьці іх інтарэсаў і адзінстве іх барацьбы супроць капіталістаў і абшарнікаў. Аднак, Сялянскі Саюз, дзякуючы свайму буржуазнаму нутру, праглядзеў той працэс нячуванае капіталістычнае эксплёатацыі, таго нацыянальнага, сацыяльнага і палітычнага прыгнечаньня і вызыску, якім падлягае і асноўная маса серадняцтва Зах. Беларусі, і якія далёка перавышаюць тую нязначную разьбежнасьць інтарэсаў між серадняцкай масай Зах. Беларусі і пралетарыятам, і змушаюць гэтыя масыісьці ў барацьбе супроць абшарніча-капіталістычнае акупацыі за пралетары-

ятам. Сельсаюз праглядзеў і ня прыняў пад увагу тую рэвалюцыйную школу, якую прашлі і праходзяць шырокія сялянскія масы пад кіраўніцтвам кампартыі.

У разьвіцьці тэорыі супярэчнасьці інтарэсаў рабочых і сялян сельсаюзьнікі ўпіраюць і на арганізацыйны момант. Яны даводзяць, што ад рабочых арганізацый, у Зах. Беларусі, дзе сялянства налічваецца 95 проц. (?!), трэба чакаць для сялянства „чыстае згубы“; па іхнаму рабоча-сялянскіх арганізацый ня было і няма, рабочы рух шкодны вызваленьню сялянству, рабочы рух вытварае такія партыі, якія вядуць справу свайго вызваленьня за кошт інтарэсаў сялянства.

> „Ці знайшлася хоць адна работніцкая партыя, якая ўступілася-б за сялян і дамагалася-б іх правоў. Гэтакай партыі не знайшлося наперад дзеля таго, што рабочыя кіраўнікі проста аб сялянах ня думаюць“ („Сялянская Ніва“).

Другім конікам лыцараў з Сялянскага Саюзу зьяўляецца барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць з камуністычным рухам, чарненьне і пляваньне на СССР і савецкую ўладу наогул. Тут яны бадай перагналі такіх канькоў ня толькі Бел. Хр. Дэм., але нават польскае буржуазіі, бо падмацоўваюць сваю клясавую нянавісьць шовіністычнаю злосьцю. У артыкуле, прысьвечаным 8-м угодкам абвяшчэньня так зван. незалежнасьці народнай беларускай рэспублікі, „Сялянская Ніва“ „крытыкуе“ беларускія арыентацыі на кайзэра, Пілсудзкага і Леніна і даводзіць, што арыентацыя на Леніна „найгоршая, бо найбольш небясьпечная“. Для падмацаваньня сваіх вывадаў кідае самую адборную буржуазную лухту, даводзячы, што ў БССР няма ніякае незалежнасьці, але ўсё ёсьць залежнае ад маскоўскага цэнтру, што „на адказных становішчах у Беларусі знаходзяцца данскія казакі і польскія камуністы“, што найлепшая зямля пры мястэчках і гарадох раздаецца не сялянам, беларусам, а жыдом і т. п.

> „Як-жа запраўды стаіць нацыянальная справа беларуская пад уладай бальшавікоў? Наўперад мусім адмеціць, што ўлада тамака не беларускіх, але маскоўскіх бальшавікоў, бо бальшавікоў беларускіх ёсьць вельмі мала і яны не прадстаўляюць нават адноснай большасьці ў радавай беларускай рэспубліцы, ня кажучы ўжо аб беларускіх землях усходніх, што пад маскоўскім загадам. Вось-жа ўлада ў Беларусі чужая, а не беларуская“ („Сялянская Ніва“, № 44).

Усе гэтыя выняткі з антысавецкае і антыкамуністычнае кампаніі сельсаюзьнікаў гавораць самі за сябе, тут, як кажуць, „тавар тварам“.

Чым яшчэ яскрава выдзяляецца Сялянскі Саюз ад Б. Х. Д.—гэта найбольшым выпучваньнем патрэбы адзінага беларускага нацыянальнага фронту. „Усе разам для свайго народу“—крычыць Сялянскі Саюз на ўсіх растайных дарогах. Галоўным аргумэнтам заснаваньня Сялянскага Саюзу „Сялянская Ніва“ ў першых сваіх нумарох тлумачыць тым, што настаў момант, калі неабходна стаць у абарону еднасьці „беларускага народу, які па сваёй сацыяльнай будове выключна (?!) сялянскі“, і што гэтую еднасьць разьбівае Беларуская Рабоча-Сялянская Грамада, якая прадалася камуністым. Беларусы ў Польшчы,—кажа „Сялянская Ніва“,—знаходзяцца ў такім становішчы, у якім на партыі нам няма чаго дзяліцца“, а трэба „супольна бараніць інтарэсы беларускага народу як нацыянальныя, так культурныя і сацыяльныя“. Манаполію на гэтую супольнасьць ўзяў ён, Сялянскі Саюз, з тым, каб „павесьці беларускі народ на ўласную беларускую дарогу“. Стаючы гарою за адзінства беларускага нацыянальнага фронту, які павінен абараняць інтарэсы ўсяго беларускага народу, Ярэміч і Рагуля галоўным чынам паслугоў-

валіся гэтым лёзунгам пры правацыраваньні Грамады перад урадам. У выніку вышла так, што ўрад, разграмляючы стотысячную арганізацыю мільённых працоўных і эксплёатаваных мас Зах. Беларусі, прачышчаў дарогу для Сялянскага Саюзу Ярэміча і Рагулі—партыі нязначнай жменькі беларускага народу, а менавіта кулакоў і гарадзкога мяшчанства.

Правадары Сялянскага Саюзу выявілі сваю згодніцкую актыўнасьць і на заходня-эўропэйскай палітычнай арэне з мэтай адцягнуць масы ад рэвалюцыйнае барацьбы і СССР на буржуазны Захад і Лігу Нацыяў. Так зван. Кангрэсы Нацыянальных Меншасьцяў у Жэнэве мелі пастаянным удзельнікам у іх пераліваньні з пустога ў парожнае пасла Ярэміча. На папярэдных кангрэсах Ярэміч меў толькі дарадчы голас, бо лічыў сябе прадстаўніком ня меншасьці, а цэлага народу, які імкнецца да незалежнасьці. Статут-жа Кангрэсу апавяшчае, што паўнапраўнымі сябрамі яго могуць быць толькі прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў і што Кангрэс „не разглядае тыя справы, якія накіраваны да зьмены існуючых межаў данай дзяржавы“. Аднак на IV Кангрэсе ў жніўні гэтага году Ярэміч ня толькі па сутнасьці, як гэта было да гэтага часу, але і фармальна адмовіўся ад усялякіх незалежніцкіх імкненьняў і падпарадкаваўся стату Кангрэсу.

У выніку стаўка польскае буржуазіі на Сельсаюз лопнула. Не аблічыліся і ашукаліся як панскія апякуны, так і іх агэнты і прыслужнікі—сельсаюзьніцкія паслы. Ня гледзячы на захады ўраду і патугі Сялянскага Саюзу, яго ўплыў ня толькі не пашыраўся, а стаў зусім нікнуць. Прычынілася гэтаму дэмаскуючая работа кампартыі, высокі рэвалюцыйны настрой шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі і ў значнай меры сам Сялянскі Саюз. Натраўліваньне на пралетарыят, галоўным чынам на польскі пралетарыят, адказ ад незалежніцкае фразэолёгіі, лобавая атака на кампартыю, БССР і Грамаду, якую вёў і вядзе Сялянскі Саюз перад шырокімі масамі Зах. Беларусі, выразна рэвалюцыйнымі, прычынілася да дэмаскаваньня контр-рэвалюцыйнае сутнасьці Сялянскага Саюза. Заключэньне-ж блёку ў Вільні з расійскімі манархістамі ў часе выбараў у гарадзкі самаўрад даканала і аканчальна здэскрыдытавала Сялянскі Саюз у вачох шырокіх беларускіх мас. Сялянскі Саюз увесь час падсякаў той сук, на якім сядзеў—ён перастаў быць правадніком уплываў буржуазіі на беларускія сялянскія масы. Дасужыя паслугачы—Ярэміч і Рагуля, перастараліся перад сваім апякуном, польскім капіталам, а іх слаба замаскаваная згодніцкая шчырасьць і контр-рэвалюцыйная запальчывасьць хутка вылезла, як шыла з мяшка. Урад мусіў шукаць новых згоднікаў, менш скампрамэтаваных, больш хітрых і дапасаваных да новых абставін і палажэньня. Доўга шукаць ня трэба было. На дрэве палітычнага жыцьця Зах. Беларусі вырас новы дзікі нараст—Янка Станкевіч са сваёю Беларускаю Сялянскаю Партыяй.

* * *

*Беларуская Сялянская партыя* Янкі Станкевіча зьяўляецца тэй самаю згодніцкаю ягадкаю з фашыстоўскага поля, як Б. Х. Д. і Сельсаюз, тым самым агэнтам фашыстаўскае дыктатуры. Пасьля аканчальнае компрамэтацыі і здэмаскаваньня Сялянскага Саюзу ў вачох шырокіх мас ўрад зрабіў інсцэніроўку расколу ў Беларускім Сялянскім Саюзе. Адзін з асновапаложнікаў і старэйшых удзельнікаў прадажнае і здрадніцкае работы гэтае партыі—Янка Станкевіч улетку 1927 году пачаў выдаваць газэту „Народ“, дзе аб'явіў Ярэміча і Рагулю выкінутымі з партыі за адсутнасьць „беларускай ідэолёгіі“, назваўшы сябе

прававерным Сельсаюзьнікам, шчырым беларусам і адзіным абаронцам „беларускага народу“. Гэты-ж Я. Станкевіч з благаслаўленьня фашызму заснаваў новую арганізацыю „Беларуская Сялянская Партыя“.

Паміж дзьвюма канкурэнтамі за ўрадовыя падачкі завязалася слоўная перастрэлка. Але іх маханьне кардоннымі мячамі, іх спрэчкі асабістага характару і штучныя разыходжаньні, выцякаючыя не з сацыяльнага грунту, ня з клясавых супярэчных інтарэсаў, выяўляюць памысны падзел роляў пад рэжысэрскую каманду фашызму. Гэтай выбражальнай барацьбою для відавоку карыстаюцца многія буржуазныя і дробнабуржуазныя партыі іншых краёў для ачмучваньня масаў і адводу іх ад сапраўднае рэвалюцыйнае барацьбы.

Янка Станкевіч у гэтай „барацьбе“ імкнецца нажыць сабе палітычны капітал,—ён выступіў абаронцам Грамады і засудзіў Ярэміча і Рагулю за іх правакатарства ў адносінах Грамады. Такі манэўр патрэбен Янку Станкевічу дзеля таго, каб прыблізіцца як-небудзь са згодніцкімі путамі да разьюшанае грамадаўскае масы, правадыры і актыў якое былі ўжо засуджаны на доўгія гады катаргі. Фашыстоўскі ўрад пабачыў, што разгром Грамады ня толькі не прачысьціў дарогі для беларускіх згоднікаў, асабліва для Сельсаюзу, але яшчэ больш узбударажыў і варожа настроіў масы да ўраду і яго агентаў—беларускіх згоднікаў. Вось Янка Станкевіч, каб ачысьціць, ачырвоніць сябе перад масамі, каб падладзіцца пад настрой гэтых мас, пачаў бэсьціць палітычных банкротаў з Сельсаюзу.

> „Ярэміч і К-о наважыліся ачарніць як толькі мага грамадаўскіх і прыхільных да Грамады дзеячоў. „Мы павінны зьбіць галовы (кіраўніцтва Грамады—А. С.), дык масы пойдуць да нас“—сталася любою фразаю Ярэміча. Гэтае зьбіваньне галоў пачалося ў пачатку сьнежня 1926 г. ад выдумліваньня і выліваньня на іх памыяў, хоць самы кіраўнікі (Сельсаюзу—А. С.) ведалі, што ў іхняй (кіраўнікоў) лаянцы няма праўды“ („Народ“).

Аднак, уступаючыся за Грамаду, Янка Станкевіч адначасна і крытыкуе яе, стараючыся гэтай крытыкай угробіць усю палітычную спадчыну Грамады. Ён даводзіць, што

> „З гледзішча агульна-нацыянальнага,—а толькі пры такім гледзішчы можна дапяць усестароньняга адраджэньня беларускага народу,—асобныя палітычныя партыі і наагул арганізацыі існуюць дзеля дабра ўсяго народу“ (газэта „Народ“).

А вось Грамада бараніла інтарэсы толькі працоўных—рабочых і сялян, горш яшчэ—працоўных усяго сьвету. А хіба-ж можам мы, беларусы, кажа Янка Станкевіч, памагчы ўсяму сьвету, калі ў нас сіл не хапае перамагчы сваёй злыбяды.

> „Узьнікла Грамада, як арганізацыя беларуска-нацыянальная. У ёй апынуліся за малым выняткам усе старыя беларускія дзеячы, якія патрапілі пры новым сацыяльным кірунку ўтрымаць старыя і вечна жывыя беларускія нацыянальныя лёзунгі. Старыя і вядомыя дзеячы прыдалі Грамадзе аўтарытэтнасьць у масах народных, а беларускі нацыяналізм даў ёй жывучасьць і імпэт“ (газэта „Народ“).

Але дзеячы Грамады інтарэсы „чужыя“ паставілі вышэй інтарэсаў „свайго народу“, яны выкарысталі капітал беларускага нацыяналізму дзеля сваіх інтэрнацыянальных мэтаў, і гэта іх пагубіла (а не фашыстоўскі рэжым!), бо нельга спэкуляваць нацыянальным пачуцьцём масаў, нельга пад беларускай формай праводзіць інтэрнацыянальны зьмест і, такім чынам, адводзіць беларускі народ ад яго змаганьня за нацыянальнае вызваленьне, якое ўмяшчае ў сабе задаваленьне ўсіх

патрэб і зьдзейсьненьне ўсіх мэт. Грамада ў сваёй нацыянальнай частцы была здаровая і патрэбная, і ён, Янка Станкевіч,—яе наступнік і спаборнік. Але Грамада ў сваёй інтэрнацыянальнай частцы (разумей камуністычнай) гібельна для беларускага народу, і Янка Станкевіч аб'яўляе ёй вайну.

Таксама хітра і замаскавана падыходзіць Янка Станкевіч і да лёзунгу саюзу рабочых і сялян, стараючыся яго датарнаваць да настрояў масаў Зах. Беларусі.

> „Собскасьць (уласнасьць), асобны матэрыял працы, асобная псыхіка, асобныя інтарэсы, вынікаючыя з розьніцы вырабу, дзеляць сялянства ад рабочых і прынукаюць яго асобна арганізавацца. Але працоўнасьць іх луча і будзе лучыць датуль, пакуль будуць над імі фактычна панаваць панове (над сялянамі) і буржуазія (над рабочымі). Дзеля таго сяляне і рабочыя часта будуць прымушаны блёкавацца з сабою проціў сваіх няпрыяцеляў" (газэта „Народ").

Далей ідзе тлумачэньне, што блёкаваньне паміж рабочымі і сялянамі павінна ісьці толькі па нацыянальнай лініі. У беларускіх сялян і рабочых адны інтарэсы, і супярэчныя з інтарэсамі іншых нацыянальнасьцяў, асабліва польскай, а таму няхай жыве саюз *беларускіх* рабочых і сялян пад кіраўніцтвам беларускае інтэлігенцыі. Блёк-жа гэты і яго барацьба, паводле Я. Станкевіча, патрэбны дзеля таго, што

> „Немагчыма прадставіць сабе, штосьці цяжэйшае, як нашае беларускае жыцьцё пад Польшчаю. Проціў нас скіравана ўся польская палітыка, „крэсавая", адміністрацыя ходаецца з намі, проціў нас польскі сойм. Але гэта яшчэ ня ўсё: проціў нас усе польскія партыі, усе польскія арганізацыі, наагул усё польскае грамадзянства" (газэта „Народ").

Адгэтуль Я. Станкевіч робіць вывад, што і беларускі народ, бяз розьніцы сацыяльных пластоў, павінен ісьці адным нацыянальным фронтам проціў усяго польскага народу. А ў другім месцы Я. Станкевіч накіроўвае свае нацыяналістычныя стрэлы і проціў „маскоўскага" Ўсходу.

> „У Радавай Беларусі беларусам ня шмат ляпей жывецца, як у Беларусі, што пад Польшчай. Але ня шмат ляпей—ня знача яшчэ, што жывецца тамака добра. Ня шмат ляпей гэта знача, што толькі меней блага, як у нас, у Зах. Беларусі. Жылося-б хіба тамака нішто, каб Радавая Беларусь была асобным беларускім гаспадарствам. Але хоць Радавая Беларусь лічыцца Беларускай Рэспублікай, аднак залежа ад Масквы і ўся пад загадам маскоўскім" (газэта „Народ").

Як бачым, тут той самы шпрыц атруты супроць нацыянальна-вызваленчага руху на Зах. Беларусі, супроць кампартыі і савецкае ўлады, што і ў Сялянскім Саюзе, толькі старанна закручаны ў вату. Тая-ж самая контр-рэвалюцыя, значна замаскаваная нацыяналістычнымі разважаньнямі і левай фразэолёгіяй, тыя самыя шарлятанскія рэцэпты, а ня клясавая няшчадная барацьба.

Апрача падрэмантаванага адзінага нацыянальнага беларускага фронту і сурагатаў рэвалюцыйных лёзунгаў, Янка Станкевіч, каб уцягнуць масы ў сваю згодніцкую мышалоўку, ужывае яшчэ новы мэтад падыходу да масаў, новы спосаб ашукваньня масаў. Пад лёзунгамі „палепшыць матэрыяльнае палажэньне беларускага народу", „гаспадарчай адбудовы Зах. Беларусі". Беларуская Сялянская Партыя імкнецца па лініі гаспадарчай і культурна-прасьветнай узмоцніць беларускага кулака і гарадзкое мяшчанства, каб гэтым стварыць рэкламу

аб лібэральных адносінах ураду ў беларускай нацыянальнай палітыцы каб пасеяць стабілізацыйныя ілюзіі сярод шырокіх мас аб магчымасьці палепшаньня іх становішча пры фашыстоўскай дыктатуры. Пры дапамозе ўраду Беларуская Сялянская Партыя пад маскай апалітычнасьці ў апошнія часы робіць значны націск на арганізаваньне каапэратываў хатняга промыслу, крэдытовае, земляробска-гандлёвае і льняное каапэрацыі, арганізуе каапэратыўныя курсы і школы рознага назначэньня, прыймае ўдзел у гаспадарча-прамысловай выстаўцы ў Вільні, засноўвае беларускія прыватныя школы, кнігарні, арганізуе лекцыі па вёсках, мае кінематограф-перасоўку і г. д. Дзеля кіраваньня і арганізаваньня работы па эканамічна-гаспадарчай лініі Я. Станкевіч засноўвае асобную арганізацыю „Беларускі Гаспадарчы Зьвяз“, які выдае сваю газэту „Беларускі гаспадар“. Апіраючыся на работу Беларускага Гаспадарчага Зьвязу, Я. Станкевічу ўдалося заснаваць у некаторых мясцох Віленшчыны свае апорныя пункты—аддзелы Б. Г. З., у якіх верхаводзяць кулакі. Аб магчымасьці захапіць больш шырокія кругі працоўных мас пад свой уплыў цяжка казаць, каб гэта ўдалося Я. Станкевічу, бо яго Зьвяз па сутнасьці зьяўляецца тым самым кулацкім „Кулкам ральнічым“, аб якіх была гутарка вышэй, толькі ахварбаны ў беларускі нацыяналізм. Зьвяз таксама абслугоўвае толькі кулакоў і заможную верхавіну сераднякоў і зьяўляецца каналам пранікаскаьня фашызму ў вясковую гушчу. Гэтыя арганізацыі сваёю дзейнасьцю хутка дэмаскуюць сваю фашыстоўскую сутнасьць і адпіхаюць ад сябе вясковую беднату.

Дзякуючы таму, што Беларуская Сялянская Партыя ў сваіх эканамічных і культурных арганізацыях дае прылажэньне сіл згаладаваўшай беларускай інтэлігенцыі і сваё згодніцтва моцна здабрае і маскуе беларускім нацыяналізмам,—беларуская інтэлігенцыя, якая ў свой час ішла за нацыянальна-вызваленчым рухам, у падаўляючай сваёй большасьці групуецца цяпер каля Беларускае Сялянскае Партыі. Ёсьць і аб‘ектыўныя прычыны, што паслужылі прыбліжэньню беларускае інтэлігенцыі да фашыстоўскага лягеру. Часовая стабілізацыя капіталізму ў Польшчы, усіленьне кулацтва і жорсткі белы тэрор выклікалі хістаньні ў асяродзішчы інтэлігенцыі і значны яе адыход ад нацыянальна-вызваленчае барацьбы.

Дробна-буржуазная беларуская інтэлігенцыя, прасякнутая утапічнымі дробна-мяшчанскімі ілюзіямі, доўгі час трымалася арыентацый на буржуазны Захад (кайзэр, літоўская тарыба, Пілсудзкі). Аднак пасьля банкроцтва ўсіх гэтых арыентацый і пад напорам рэвалюцыйна-настроеных масаў, а так-жа пад ударамі экстэрмінацыйнае дзіка-полёнізатарскае палітыкі эндэцкіх урадаў у Польшчы, побач з бурным эканамічным і культурным ростам БССР, разьвейваюцца ў значнай частцы інтэлігенцыі і іх дробна-буржуазныя ілюзіі—яна якісь час пляцецца папутчыцай у хвасьце рэвалюцыйнага руху. Цяпер-жа ў выніку усяе палітыкі фашыстоўскага ўраду побач з дыфэрэнцыяцыяй у вёсцы Зах. Беларусі наглядаецца дыфэрэнцыяцыя і сярод беларускае інтэлігенцыі. Адна частка, найцясьней зьвязаная з працоўнымі гушчамі, усьвядоміла сабе сацыяльна-клясавую сутнасьць нацыянальна-вызваленчага руху Зах. Беларусі і, пераварыўшыся ў рэвалюцыйным катле, неадступна ідзе ў рэвалюцыйным лягеры пад сьцягам кампартыі. Другая непамерна большая частка інтэлігенцыі за крохі фашыстоўскага стала прадалася фашызму і імкнецца прывіць нацыянальна-вызваленчаму руху на Зах. Беларусі сваю буржуазную нацыяналістычную ідэалёгію і падпарадкаваць сацыяльна-клясавыя мамэнты гэтага руху сваім нацыяналістычным ідэалам. Свой адыход ад вызваленчае барацьбы яны

запінаюць лёзунгам адзінага нацыянальнага беларускага фронту, які цяпер пры фашызьме з асаблівай сілаю яны высоўваюць. У абставінах павялічанае эксплёатацыі, нацыянальнага ўціску, што выклікае загастрэньне клясавае барацьбы і падымае рэвалюцыйную хвалю, лёзунг адзінага нацыянальнага фронту, які павінен па-іхняму аб'яднаць усе сілы беларускага народу, мае нібы служыць выхадам для працоўных мас з іх цяжкога становішча, а па сугнасьці-ж накіраваны супроць саюзу рабочых і сялян, дыктатуры пралетарыяту і рэвалюцыі.

Аб'яднаньне такіх рэнэгатаў, як Астроўскі, Чатырка і іншых быўшых грамадаўцаў з Я. Станкевічам на нейкі час можа ўзмоцніць палітычныя пазыцыі Беларускае Сялянскае Партыі, пакуль працоўныя масы не ўсьвядомяць сабе іх здрадніцкую ролю і не здэмаскуюць фашыстоўскія махінацыі ў гэтай справе.

* *
*

Апрача разгледжаных сялянскіх партый на Зах. Беларусі існуюць яшчэ ці, лепш кажучы, мадзеюць—Беларуская Народная Дэмократычная Партыя Ўмястоўскага і група быўшых паўлюкевічаўцаў, якія яднаюцца каля газэты „Грамадзянін". Абедзьве гэтыя арганізацыі таксама пратэндуюць на пашырэньне свайго ўплыву сярод сялянскіх мас Зах. Беларусі. Але яны настолькі выразна фашыстоўскія, полёнафільскія і з дэфэнзыўным душком, што ня маюць і ня могуць мець ніякага ўплыву сярод мас і зводзяць сваю работу па арганізацыі дывэрсыйных банд для нападу на тэрыторыю БССР альбо ладзяць тэрарыстычныя акты на прадсгаўнікоў савецкага ўраду ў Польшчы (Войкаў, Ульлянаў, Лізароў).

* *
*

Выходзячы з заложаньня сьпешнае падрыхтоўкі вайны супроць СССР, фашыстоўскі ўрад, даючы дапамогу і творачы новыя беларускія згодніцкія арганізацыі, імкнецца пры іх дапамозе разьбіць рэвалюцыйны рух на Зах. Беларусі, як на пляцдарме ў будучай вайне. Апрача таго, урад, побач з гарачкавым узбраеньнем, выкарыстоўвае і розныя згодніцкія беларускія групоўкі для правядзеньня сваіх мацалаў у БССР, каб на выпадак вайны мець там сваю апору сярод кулацка-нэпманскіх пластоў і нацыяналістычна настроенае інтэлігенцыі. Адгэтуль трэба думаць, што фашыстоўская дыктатура пойдзе на больш значныя падачкі ў культурнай, адміністратыўнай і гаспадарчай галінах для беларускіх згодніцкіх партый, адначасна ўзмацоўваючы белы тэрор у адносінах нацыянальна-вызваленчага руху. Зусім ня выключана, што ўрад, узмацоўваючы беларускіх згоднікаў і іх базу—беларускае кулацтва, пойдзе на стварэньне беларускіх фашыстоўскіх напоўваенных арганізацый (што ўжо рэалізуецца сярод заможных яўрэйскіх пластоў Зах. Беларусі). Для грамленьня „беларускімі" рукамі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і для нападу на БССР—магчыма паўтарэньне стварэньня новае беларускае вайсковае камісіі, якая працавала пры Пілсудзкім у часе акупацыі Савецкае Беларусі. Апрача беларускіх згоднікаў, урад робіць спробы пры польскім фашызьме стварыць беларускі сэктар. Паслы з Беспартыйнага Блёку, прайшоўшыя ў сойм на Зах. Беларусі, выяўляюць значнае ажыўленьне па вёсках Зах. Беларусі, ладзяць мітынгі, прыймаюць скаргі і выносяць рэзалюцыі з шумнымі дамаганьнямі ў галіне беларускага школьніцтва і нацыянальнага пытаньня, а таксама засноўваюць так званыя беспартыйныя сялянскія камітэты па вёсках, як прадстаўнікоў і хадатаяў перад урадам ад імя вёскі.

Дык ці зможа фашыстоўская дыктатура пры дапамозе беларускага кулацтва і яго згодніцкія партыі і праз усю сваю палітыку разьбіць рэвалюцыйны рух на Зах. Беларусі, ці зможа адарваць серадняка ад баявога саюзу рабочых і сялян, ці зможа ўцягнуць асноўную масу сялянства ў арбіту свайго ўплыву?

Бязумоўна, што фашыстоўскай дыктатуры гэта ня ўдасца. Урад *ня можа* пайсьці на такія ўступкі і падачкі, каб палепшыць быт і палажэньне дашчэнту зруйнаваных шырокіх сялянскіх мас Зах. Беларусі. Больш за тое, тыя стабілізацыйныя ілюзіі, якія ўзьніклі ў некаторых пластох сялянства ў зьвязку з цяперашняй гаспадарчай палітыкаю ўраду, ня маюць грунту на пашырэньне, а ў бядняцкіх і ў значнай меры асноўных мас серадняцтва—ідуць на выжываньне. Пры гэтым праслойка беларускае верхавіны і дробнае буржуазіі вельмі нязначная і эканамічна слабая, і яна ня зможа рабіць значнага націску на шырокія масы, адгэтуль і ўрад, прыроўнена да яе магчымасьці і заслуг, будзе даваць і сваю падмогу. Ды галоўнае аружжа беларускіх згоднікаў—нацыяналізм і іх спэкуляцыя на нацыянальным прыгнечаньні ня можа мець ужо таго посьпеху, бо ў нацыянальна-вызваленчым руху працоўных мас Зах. Беларусі ўсё больш выпучваюцца сацыяльна-клясавыя моманты, усё больш выразна ён пераходзіць на рэйкі пралетарскае рэвалюцыі.

Праўда, дыспрапорцыя ў сацыяльным складзе нацыянальна-вызваленчага руху Зах. Беларусі, дзе нязначная пралетарская праслойка нікне ў моры сялянскае масы, а на фоне палітыкі падачак, подкупу, абяцанак, разлажэньня і тэрору з боку фашыстоўскага ўраду,—усё гэта ствараe некаторую небясьпеку для разьвіцьця рэвалюцыйнае барацьбы. Але ва ўмовах Зах. Беларусі гэтая дыспрапорцыя ня страшна, бо пралетарыят праз сваю кампартыю даўно забясьпечыў сабе кіраўніцтва ў нацыянальна-вызваленчым руху і няўхільна вядзе шырокія масы Зах. Беларусі да рэвалюцыі.

Апрача таго, рэвалюцыйная школа 1905 і 1917 г. г., якую прайшло сялянства Зах. Беларусі, і колькігодняя слаўная барацьба пад кіраўніцтвам кампартыі супроць капіталістычна-абшарнічае акупацыі далі асноўнай сялянскай масе высокую клясавую сьвядомасьць, актыўнасьць у барацьбе і рэвалюцыйны гарт. Доўгі досьлед дэмаскаваньня на калейдаскопе розных згодніцкіх і дэфэнзыўных груповак падкавалі гэтыя масы ў шпаркім распазнаваньні і сваечасовым адпоры ўсім ваўком у авечай скуры, усіх фашыстоўскіх агентаў і паслугачоў буржуазіі.

1-ы зьезд КПЗБ, які адбыўся ў гэтым годзе, так акрэсьлівае далейшы ход разьвіцьця рэвалюцыйнае барацьбы на Зах. Беларусі: „Капіталістычна-абшарніцка-кулацкая стабілізацыя нараджае і завастрае клясавыя супярэчнасьці, а палітыка фашыстоўскага ўраду ўзмацняе рост канфліктаў паміж асноўнай сялянскай масай і блёкам абшарнікаў, асаднікаў ды кулакоў па лініі сацыяльных і нацыянальных узаемаадносін. Рост гэткіх канфліктаў няўхільна прыводзіць да ўсё большага завастрэньня клясавай барацьбы рабочых і сялян, восстанаўлівае ўсё больш шырокія масы працоўных проціў фашыстоўскай дыктатуры пад лёзунгамі барацьбы за рабоча-сялянскі ўрад, за дыктатуру пралетарыяту.

*(Канец).*

---

М. Карклін

# Грунтоўныя карані сацыялістычнага будаўніцтва

„За бязумоўнае захаваньне сучаснага тэмпу разьвіцьця індустрыялізацыі!

За масавае каапэраваньне і сацыялістычнае пэратварэньне вёскі!

За саюз рабочых і вясковае беднаты з сярэднім сялянствам, на аснове забесьпячэньня кіруючае ролі рабочае клясы!

Супроць хістаньняў і віханьняў у палітыцы, за цьвёрдае Ленінскае кіраўніцтва!“

(З адозвы ЦК УсеКП(б) да ўсіх членаў Маскоўскае арганізацыі УсеКП(б) ад 18 кастрычніка 1928 г.).

Усякае будаўніцтва, асабліва капітальнае, павінна абавязкова мець моцны грунт, і чым мацней будуць закладзены гэтыя грунтоўныя асновы, тым мацней будзе трымацца і сама будоўля—гэтую аксыёму мы абавязаны асабліва ясна ўявіць сабе цяпер, калі мы ўзмоцненым тэмпам закладваем першыя грунтоўныя карані нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Тут не павінна быць дапушчана ніякае цечы ці апоўзкаў унутры ці паміж частак, з якіх складаецца галоўнейшы матар'ял як грунту, так і самае будоўлі,—усё павінна быць праверана марксыцкім—ленінскім, лябараторным і масавым парадкам.

Жывучы і будуючы ў пэрыяд пераходу ад капіталістычных форм вядзеньня гаспадаркі да сацыялістычных, працуючы ў такіх умовах, мы павінны ўлічыць вялізарную колькасьць рэштак мінулага, якія няўлічаны і не ацэнены яшчэ цяпер, і ўстанавіць на колькі яны, пры пэўных умовах, могуць быць шкоднымі тормазамі пры ўстанаўленьні тэмпаў росту, як і мэтадаў ухіленьня цяжкасьцяў.

Канечне, пры такіх умовах работы, калі ў наяўнасьці маюцца надзвычайна цяжкія гістарычныя дыспрапорцыі ў краіне (усё яшчэ недастаткова разгорнутае прамысловасьці пры пераважаньні сельскае гаспадаркі і г. д.), не магло не атрымацца таго, што мы цяпер назіраем, калі ў некаторых, што знаходзяцца пад дробна-буржуазным уплывам, узьнікаюць апартуністычныя мэлёдыі, якія скланяюцца па розных склонах. Тут і размова аб тэмпе індустрыялізацыі краіны, тут і паслабленьне націску на прыватныя элемэнты вёскі і гораду, іншымі словамі, наогул, жаданьне так ці інакш абмежаваць пачаткі тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Ці можа на гэта пайсьці партыя? На гэтыя тэндэнцыі ўжо дадзены адзінадушны адказ, што не, ня можа. Гэты правы апартуністычны вецер ня менш небясьпечны, чым усялякія ўльтра-левыя ўхілы і віханьні

разьбітае, выведзенае на сьвет і забанкрутаванае апазіцыі, бо ўсялякі перагляд лініі нашых партыйных рашэньняў, г. зн.,—біць проста па каранёх сацыялістычнага будаўніцтва.

*Саюз рабочых з пераважнаю большасьцю сялянства* праводзіцца ўжо ў працягу адзінаццаці-гадовага існаваньня дыктатуры пралетарыяту. Усялякае памягчэньне не пралетарскага рэжыму ў краіне—гэта выпусьціць з рук кіруючую ролю ці, па крайней меры, паслабіць яе. Возьмем хоць-бы леташнюю восеньскую загатоўчую кампанію,—яна самым яскравым чынам паказала нам, як неабходна ў пэўных умовах клясавае барацьбы ня толькі захаваць непарушную ленінскаю лінію ў адносінах захаваньня дыктатуры рабочае клясы, але і ўзмацніць яе дзеяньне для таго, каб ня даць магчымасьці паслабіць саюз рабочае клясы з сялянствам.

Тлумачыць выступленьне ў леташнюю восень вясковых кулакоў, якія зблёкаваліся з гарадзкімі спэкулянтамі, можна ня інакш, як імкненьнем пашкодзіць саюзу рабочых і сялян, а галоўным чынам—імкненьнем выбіць серадняка з-пад нашага ўплыву. І мы бачым, што там, дзе пільнасьць дыктатуры рабочае клясы некалькі паслабавала ці не была забясьпечана, там, хоць на кароткі час, адпаведныя хістаньні мелі мейсца сярод верхавіннае часткі серадняка ў бок да кулака. Кулак імкнуўся зрабіцца правадыром, ён арганізоўваў зрыў хлебазагатовак і сыравіны для прамысловасьці, адным словам, хацеў сарваць ня толькі пляны нашага сацыялістычнага будаўніцтва, але і актыўна шкодзіў саюзу рабочых і сялян.

Захады, якія былі сваечасова ўжыты партыяй, былі накіраваны не на паслабленьне дыктатуры рабочае клясы, а наадварот, на ўзмацненьне яе.

Партыя здолела самым кароткім шляхам усё гэта зьліквідаваць і зноў забясьпечыць нармальнае становішча саюзу рабочых і сялян. Аб гэтым бясспрэчна гаворыць той факт, што ў гэтым годзе вызначаны хлебазагатоўчы плян нармальна выконваецца без ужываньня надзвычайных адміністрацыйных мер, якія ня выходзяць па-за межы забесьпячэньня сапраўднага саюзу рабочых з пераважнаю большасьцю сялян (канечна, пры гэтым ні на хвіліну не паслабляючы палітыка-асьветнае работы паміж сялянства, а ўзмацняючы арганізацыю, самую тэхніку загатовак захоўваючы ўва ўсім клясавы падыход).

І так, усялякія, самыя нікчэмныя хістаньні і сумненьні павінны адпасьці-ж як антыпартыйнае мышленьне, якое дыямэтральна-процілегла разыходзіцца з лініяй ленінізму. Дыктатура пралетарыяту павінна быць захавана непарушанаю,—бо толькі тады яна здольна будзе ахоўваць і кастрычнікавыя заваёвы, і наш плян сацыялістычнага будаўніцтва.

*Аб тэмпе індустрыялізацыі* краіны і, наогул, аб нашым капітальным будаўніцтве таксама можна было спаткаць сумненьні. І тут мімволі даводзіцца задаць пытаньне: няўжо такія ўжо вялікія дасягненьні мы маем у справе стварэньня прылад вытворчасьці, каб можна было хоць на некалькі паслабіць гэтую работу? Калі-б гэта было так, дык няўжо трэба было-б усё яшчэ прывозіць машыны з-за мяжы, выкідаючы такім чынам золата з СССР у кішэні буржуазіі? Калі ўжо так добра абстаіць справа з індустрыялізацыяй краіны, каб яе ўжо можна было паслабіць,—адкуль тады ў нас у краіне маецца ўсё яшчэ досыць гостры недахоп у прамысловых таварах?

Можна было-б яшчэ пашырыць пералік такіх пытаньняў, на якія, можна даць адказ адным сказам, што, калі індустрыялізацыя прамысловасьці ішла-б хутчэй, чым гэтага патрабуе народная гаспадарка, дык

павінна была-б быць зусім іншая карціна, чым тая, якую мы цяпер маем, г. зн. мацнейшы недахоп у мэталю і, дзякуючы гэтаму, недахоп у колькасьці неабходных прылад вытворчасьці, якія рыхтуюцца з таго-ж мэталю, і, канечне, адсюль і вынікі, г. зн. незабясьпечанасьць у належным памеры фондаў прамысловых тавараў для таваразвароту паміж горадам і вёскай.

Калі ў леташнюю восень нам давялося зламаць у вёсцы кулацкае супраціўленьне нечарговымі, надзвычайнымі задачамі, дык сёлета гэтага ня робіцца і не патрабуецца. Мы цяпер дасягаем жаданых вынікаў іншымі шляхамі.

Наша палітыка аб узмоцненым забесьпячэньні вёскі прамысловымі таварамі зьяўляецца цяпер адным з галоўнейшых і рашаючых стымулаў па частцы атрыманьня хлеба і сыравіны для гарадоў і прамысловасьці. Але стварэньне прамфонду магчыма ня толькі тым, каб своечасова загатаваць сыравіну для прамысловасьці,—гэтага мала. Трэба, каб былі і самі машыны, якія-б пераапрацавалі гэтую сыравіну і далі добрай якасьці і танныя прамысловыя тавары, а, г. зн., кажучы іначай, трэба мець у здавальняючым памеры прылады вытворчасьці для прамысловасьці, якая ўсё разгортваецца. Пры гэтым ня трэба выпушчаць з погляду і тых абставін, што наша краіна ўсё яшчэ зьяўляецца краінаю пераважна сельскае гаспадаркі і, для таго, каб кіруючая роля пралетарыяту, як гэгэмону ва ўсіх пытаньнях і палітыкі, і культуры, і эканомікі была-б забясьпечана як мага лепш,—на гэта патрэбна заўсёдышнае ўзмацненьне росту таго самага пралетарыяту, і колькасна і якасна, а гэта магчыма ня інакш, як пры наліччы росту прамысловага будаўніцтва і, наогул, індустрыялізацыі краіны.

Такім чынам, адкідаючы нават у бок такі галоўнейшы фактар, як немагчымасьць пры слабым тэмпе індустрыялізацыі краіны ў бліжэйшыя часы вызваліцца з-пад некаторае залежнасьці ад капіталістычных краін, мы ясна ўбачым, што ўсялякае, хоць-бы і нязначнае, паслабленьне тэмпу росту індустрыялізацыі краіны прыносіць не карысьць сацыялістычнаму будаўніцтву, а наогул б'е па ім, паслабляючы галоўнейшыя карані яго фундамэнту, г. зн. росту пралетарскага асяродку ў краіне, як і саюзу рабочых з сялянствам.

*Працэсы аграмаджаньня* асабліва падпадалі пад усялякія стрэлы сумненьняў, шуканьняў магчымасьцяй, а таксама некалькі сьціснуць рост саўгасаў і калгасаў, кажучы, што лепш пусьціць сродкі на агульны ўздым сельскае гаспадаркі, каб гэтым некалькі паслабіць той правільны клясавы паход, які вызначаны 15 зьездам УсеКП(б) па пытаньні аб рабоце на вёсцы і наогул аб лініі па каапэраваньню і калектывізацыі сялянскіх гаспадарак і ў першую чаргу вясковае беднаты.

Тут таксама даводзіцца зьвярнуцца да нашага вопыту леташніх загатовак і наогул да работы на вёсцы. Няўжо мы не аказаліся надзвычайна слабымі на рынку загатовак хлеба і сыравіны? Наш аграмаджаны сэктар сельскае гаспадаркі зусім ня мог паказаць свае сілы і ўплываць на кулацкую стыхію. Пры ўзмоцненым-жа якасным і колькасным разьвіцьці, аграмаджаны сэктар здолеў-бы ў значным памеры ўплываць на рынкавыя адносіны пры крайняй неабходнасьці забесьпячэньня прамысловасьці і гарадоў сыравінаю і сел. гасп. прадуктамі ў поўным памеры.

Ён, г. зн. аграмаджаны сэктар, дзякуючы слабасьці як у мінулай кампаніі, так і ў гэтым годзе, амаль нічога ня мог зрабіць у гэтым пытаньні. Ён ня здолеў ня толькі ўплываць на цэны і на якасьць, але нават і на тэмп самое хады загатовак. І, калі-б у гэтым годзе дзяр-

жаўным рэгуляваньнем ня былі-б сваечасова ўжыты меры па мабілізацыі і перакідцы ў самыя патрэбныя раёны загатоўкі прамысловых фондаў, як і не пайшлі-б на тое, каб некалькі затрымаць у першым квартале забесьпячэньне прамтаварамі гораду—невядома ці мелі-б мы тыя посьпехі ў хлебазагатоўках, аб якіх ужо сьмела паведамляе наш пэрыядычны друк. Канечне, усяго гэтага можна было дасягнуць толькі пры тых абставінах,—што цяпер вёска праяўляе мацнейшы попыт на прамтавары. Але ўявім сабе, што ўсё гэта (г. зн. узмоцнены попыт на прамтавары) ня мела-б мейсца,—тады, можна зараней сказаць, як надзвычайна цяжка было-б рэгуляваць інтарэсы больш за 25 мільёнаў сялянскіх гаспадарак, якія імкнуцца, кожная па-свойму, вырашыць свае гаспадарчыя інтарэсы.

Але ўсё яшчэ на клясавую барацьбу, якая адбываецца на вёсцы, здолее цьвяроза ўплываць аграмаджаны сэктар як дзяржаўны, так і каапэрацыйны, які ўсё разьвіваецца. Ён з году на год усё больш павінен будзе ўплываць на таварную гаспадарку. Яго простым супраціўнікам у гэтай рабоце будзе прыватны капіталістычны сэктар, і ў гэтым супраціўленьні і нежаданьні здаць свае пазіцыі прыватны капітал будзе праяўляць адчайнае супраціўленьне. Але ўзьнікае пытаньне,—няўжо нам дзеля гэтага супраціўленьня неабходна прыпыніць тэмп калектывізацыі і каапэраваньня, які толькі што пачаўся і маецца цяпер на вёсцы? Пры чым, у выніку, справа ня ў тым, што клясавая барацьба на вёсцы мае месца ў абгостранай форме, калі арганізуюцца адзін за другім сялянскія калектывы і супроць іх кулак накіроўвае цяпер усю сваю злосьць і нянавісьць. Клясавая барацьба мелася і з няменшай гастрынёю і ў мінулым годзе, як у часе перавыбарчае кампаніі, так і ў загатоўчай кампаніі і якраз у той час, калі мы ведаем, тэмп калектывізацыі вёскі быў яшчэ дужа слабы. Значыць, клясавая барацьба на вёсцы няўнікнёна і той, хто радзіць пачакаць і паслабіць калектывізацыю вясковае бедныты і серадняка, проста спужаўся і дае адбой таму няўнікнёнаму фактару, як клясавая барацьба на вёсцы.

Аграмаджаныя элемэнты ў сельскай гаспадарцы, пашыраючыся, павінны забясьпечваць ня толькі меншыя страты для тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва, якія атрымоўваюцца ад няўнікнёнае клясавае барацьбы ў сельскай гаспадарцы, але і дае пэрспэктыву і поўную магчымасьць як беднаце, так і серадняку, калектыўна аб'яднаўшыся, нанесьці апошні сьмяротны ўдар па вясковаму кулаку.

Вось чаму няма ніякіх падстаў да таго, каб хоць нават і ня ў значным памеры затрымаць тэмп росту калектывізацыі і каапэраваньня вёскі і паменшыць дапамогу ў гэтай справе. Прыслухоўвацца да такіх парад азначала-б ударыць па аднаму з самых галоўных каранёў сацыялістычнага будаўніцтва.

Пагэтаму, разьбіраючыся хоць-бы ў гэтых асноўных каранёх і неабходнасьці іх для моцнасьці нашага сацыялістычнага будаўніцтва,—мы павінны з усёю катэгарычнасьцю прысьці да заключэньня, што тут ня можа быць ніякіх і размоў аб якім-небудзь паслабленьні ці пераглядзе ўзятае палітычнае і практычнае лініі. Усялякія рэвізіі партыйных рашэньняў па гэтых пытаньнях ёсьць толькі ня больш ня менш, як нявер'е ў сацыялістычнае будаўніцтва і адбіцьцё дробна-буржуазных настрояў, якія існуюць унутры краіны і часткаю маюць адбітак у выглядзе правага ўхілу ў партыі. З гэтымі настроямі партыяй ужо абвешчана самая няшчадная барацьба, і мы павінны гэтыя настроі з чыйго-б боку яны ня выходзілі, як фактычным матар'ялам, так і ідэолёгічна іх выводзіць на сьвет і разьбіваць у сваёй практычнай штодзённай рабоце.

*Пытаньні тэмпу і ліміты разьвіцьця* зьяўляюцца цяпер у палітычнай і практычнай рабоце адным з галоўнейшых пытаньняў. Бо можна-ж прынцыпова быць адзінадушнымі, але ў практычным зьдзейсьненьні пад уплывам шэрагу абставін адхіліцца ў той ці іншы бок.

Устаноўлены *Ленінымъ* тэмп будаўніцтва гаворыць, што мы павінны ў карацейшы гістарычны час ня толькі дагнаць, але і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў іх вытворчым разьвіцьці. Становішча нашае тэхнікі цяпер такое, што дасягнуць сваечасова ўзроўню вытворчасьці, напрыклад, Амэрыкі пры ўмовах прыкладна 10 проц. штогодняга росту вытворчасьці СССР мы здолеем толькі праз 35 год, а каб дагнаць яе, улічваючы 5 проц. штогодняга росту вытворчасьці Амэрыкі патрабуецца пад 70 год. (Разьлікі ўзяты з матар'ялу генпляну).

Няўжо можа нас задаволіць такая далёкая парспэктыва? Канечне, не. І нам адразу даводзіцца прыняць тэмпы нашага разьвіцьця зусім іншыя, чым аб гэтым можна было-б раней меркаваць. Практыка нам паказвае, што наша прамысловасьць за апошнія гады паказала такія тэмпы разьвіцьця, якія перасягнулі ўсе плянавыя меркаваньні і кантрольныя лічбы, як, напрыклад: мінулагодні тэмп валавое прадукцыі па прамысловасьці ВСНГ СССР быў 21,6 проц., а па каапэрацыйнай прамысловасьці гадавы тэмп дасягнуў 60 проц. росту, г. зн. на 30 проц. больш, чым меркавалася па кантрольных лічбах. Усё гэта дало магчымасьць на 11 годзе Савецкае ўлады па прамысловасьці ВСНГ СССР запраэктаваць з тым, каб мінулагодні тэмп узьняць яшчэ вышэй, чым на 20-21 проц.

І тут да справы будзе ўспомніць словы Леніна, якія сказаны ім у 1922 годзе, што неабходна „самкнуцца з сялянскаю масаю, з радавым працоўным сялянствам і пачаць рухацца ўперад нязьмерна, бясконца марудней, чым мы марылі, але за тое так, што сапраўды будзе рухацца ўся маса з намі. *Тады паскарэньне гэтага руху ў свой час надыйдзе такое, аб якім мы цяпер і марыць ня можам*“ (падкрэсьлена мною—*М.К.*).

Узьнікае пытаньне, ці ня надышоў цяпер ужо гэты час, ці па крайняй меры можа быць мы ўжо блізка ад яго? Вышэйпаданыя факты аб росьце прамысловае прадукцыі аб гэтым ня двухсэнсава кажуць, і калі мы дадамо да гэтага нашы дасягненьні па каапэраваньню і калектывізацыі вёскі, і калі ўлічыць, што гэта пры правільнай устаноўцы можа даць праз год ці два, дык мы павінны сказаць, што нашы пэрспэктывы пры хуткіх тэмпах недалёкія і мы павінны толькі сваечасова падрыхтавацца, каб гэты хуткі колькасны тэмп быў-бы таксама забясьпечаны і якасьцю. Тут будзе вялікае мейсца займаць пытаньне ўжываньня хэмічных працэсаў на практыцы і ўвязденьне іх у будзёнае жыцьцё рабочыхі сялян,—тут і шматгодняя контрактацыя прадуктаў сельскае гаспадаркі і сыравіны і наогул нашы меры па калектывізацыі і аб'яднаньню мільёнаў разрозьненых сялянскіх гаспадарак, што павінны даць такі эфэкт, якога мы і чакаць не маглі.

*Пытаньні аб матар'яльных крыніцах* не раз зрывалі нашы вызначаныя пляны і пэрспэктывы. Часта зараней ужо гаспадарчыя пляны-праэкты вызначаліся тымі грашовымі крыніцамі, якія маглі даць так званыя грашовыя каштарысы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў. Гэта было няўхільна і правільна тады, калі, як гаворыцца, даводзілася „працягваць ножкі па адзёжцы“ для таго, каб не зьвярнуцца назад да таго пэрыяду, калі мы ў першыя дні рэвалюцыі мелі гэтулькі добрых і прыгожых рэзалюцый і праэктаў, але ўсе яны лопаліся, як надзіманкі, дзякуючы праз меру слабай матар'яльнай падставе. Гэты пэрыяд мінуў і варочацца да яго няма чаго.

Але гэтая празьмерная абмежаванасьць у сродках, калі ня ведаеш, на колькі частак падзяліць наш савецкі рубель—пакінула таксама адпаведны адбітак на ўсю нашу пэрспэкцыйна-пляніруючую работу. Кожны сьмелы крок зараней спатыкаў супярэчаньне „адкуль узяць сродкі, няўжо гэта магчыма“. Яшчэ і цяпер літаральна ўладае вызначэньне, мы бедныя, надзвычайна бедныя—„куды нам“. Вось з гэтым вызначэньнем, што мы „бедныя“, неабходна абвясьціць вайну, гэта слова „беднасьць“ часта зьяўляецца шырмаю для людзей кансэрватыйнае думкі, якія не жадаюць пашавяліць мазгамі, каб пакапацца глыбей у нашай народнай гаспадарцы і знайсьці тое жамчужнае зерне, якое павінна ўзмацніць і дапамагчы павялічыць тэмпы нашага гаспадарчага і культурнага росту.

Мы ўжо звыкліся з тэю абставінаю, што нам няма чаго чакаць ад замежных пазык, яны нам за 10 год па БССР нічога не далі і няма пэрспэктыў на тое, каб яны прышлі нам на дапамогу і ў будучым. Значыць крыніца—„амэрыканскі дзядуля“ нас больш спакусіць ня можа, а калі так, дык, значыць, застаецца толькі адна крыніца—наша ўласная „беднасьць“, але ня беднасьць, а багацьце. А што мы багаты і толькі не навучыліся карыстацца нашым багацьцем,—аб гэтым ня раз ужо гаварылася і даказвалася. Мы гаворым, што ў нас зямлі мала і ад гэтага маецца надзвычайная аграрная перанасялёнасьць; так прынята гаварыць і ўсе паўтараюць, што гэта так, але мы ведаем і іншае, што справа ні ў малазямельлі, а якраз у малаўменасьці, г.зн., што мы ня ўмеем яшчэ выкарыстаць тыя вучасткі зямлі, якія мы маем. Тое-ж самае можна сказаць і аб усіх нашых прыродных багацьцях і прыродных перавагах, якія мы маем перад любою капіталістычнаю краінаю. Нашы лясы, балоты, нетры, белы вугаль—толькі-толькі цяпер, у самы апошні час, пачынаюць паказваць, якое вялікае багацьце і эканомію яны ў сабе заключаюць і якія вялікія нявычарпальныя багацьці могуць быць пушчаны ў ход для справы сацыялістычнага будаўніцтва. Але нам могуць сказаць, што гэта зьяўляецца такім багатым здабыткам, якое адначасова патрабуе і вялікіх укладаў, каб іх здабыць.

Возьмем хоць-бы лес, які выкарыстоўваецца пакуль слаба—гэта ўжо ня такая цяжкая справа, каб яна патрабавала вялікіх укладаў, калі ўлічыць тое, што ён зьяўляецца цяпер самым прыбытковым і ходкім таварам для рынкавага попыту, калі разглядаць у раёным парэзе. Але мне хочацца тут паказаць і на такія багатыя крыніцы, якія можна выкарыстаць і атрымаць матар'яльныя выгады без дадатковых укладаў, дзе трэба толькі сябе прымусіць узяць іх, арганізаваць для гэтага сябе і іншых.

Возьмем пытаньне аб нашым будаўніцтве і яго даражыні. Тое, што яно ў нас абыходзіцца дорага, ведаюць усе, але на гэтым далёка не паедзеш; трэба ўжыць меры, каб сапраўды будавалася танна. За пяць год праэктуецца зьнізіць будаўнічы індэкс на 40 проц. (першы год на 15 проц.) і то мы будзем, пры гэтых умовах, будаваць даражэй, чымся да вайны. Узьнікае пытаньне, няўжо гэты тэмп патаненьня нельга ўзмацніць удвое, а гэта дадаткова без асобых укладаў дало-б вялікія матар'яльныя сродкі.

Возьмем другі, адзін з многіх магчымых прыкладаў: нашы добрыя цягнікі ў сярэднім работаюць у суткі так, каля пяці гадзін з хвілінамі, а нашы таварныя вагоны, таксама добрыя, выкарыстоўваюцца ў сярэднім за год каля 11—12 проц. і гэта тады, калі ў іх маецца крайняя патрэба, калі транспарт работае са стратамі і цяжару маецца ў дастатку. Такім чынам, пры лепшай арганізацыі справы эксплёата-

цыі, пры большай сьмеласьці, пры адмаўленьні ад непатрэбных форм работы, якія тармазяць, і выкарыстаньня нават толькі тых багацьцяў, якія ўжо знаходзяцца ў руках пралетарскае дзяржавы,—можна сябе назваць ня „беднымі", а багатырамі.

Такім чынам, мы цяпер стаімо перад такою праблемаю, каб нашы гаспадарчыя пляны пры складаньні ў сваёй першапачатковай стадыі ня былі-б зьвязаны ўжо зараней грашовымі і іншымі абмяжоўваючымі лімітамі. Увязка неабходна павінна быць праведзена пасьля пры балянсыроўцы, пры гэтым цяпер больш трэба ўдарыць і ў саміх плянах па дысцыпліне і арганізацыі працы, мы павінны знайсьці большую магчымасьць уздыму вытворчасьці працы і зьніжэньня сабекаштоўнасьці, больш з'эканоміць там, дзе гэта яшчэ не наглядаецца і наогул сьмялей карыстацца прыроднымі багацьцямі краіны.

Але для ўсяго гэтага неабходна ўстанавіць суровую *пралетарскую дысцыпліну*, дае якое нас заклікаў красавіковы пленум ЦК УсеКП(б) паказваючы, што неабходна „ўстанаўленьне безадгаворачнае рэвалюцыйнае дысцыпліны пры выкананьні агульна-гаспадарчых плянаў, бо пры хуткім тэмпе сацыялістычнага будаўніцтва і разгортваньні ў сувязі з гэтым капітальных работ, пры найвялікшым напруджаньні ўсіх сіл і рэсурсаў пралетарскае дзяржавы, толькі пры зьдзейсьненьні суровае пралетарскае дысцыпліны ва ўсім гаспадарчым апараце можна бяз больш ці менш значных перабояў ісьці ўперад па шляху да сацыялізму".

Сацыялістычнае будаўніцтва, якое ўсё разгортваецца, па сваёй сутнасьці, само па сабе, будзе гэтаму моцна спрыяць, бо калектыўная работа і воля ў вядомым памеры дысцыплінуюцца добраахвотна без асобых прымусаў усіх членаў гэтага калектыву, дзякуючы чаму кожны дзень і месяц павінны прыносіць нам усё новыя і новыя матар'ялы, якія будуць гаварыць аб узмацненьні і паглыбленьні пралетарскае калектыўнае дысцыпліны, якая, у сваю чаргу, павінна даць тыя багацьці, якія цяпер пры меншай калектыўнасьці, пры меншай дысцыпліне часткова ўваходзілі бяз эфэкту і без карысьці для ўзмацненьня каранёў нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

---

Р. Кугель

# Ленин о Бунде*)

## 2. О лозунге „Национальная культура" и о культурно-национальной автономии.

Бундовская линия в еврейском вопросе не была направлена на то, чтобы создать условия для все большего сближения наций. Ленинская линия, наоборот, была направлена на то, чтобы уничтожить все исторически созданные перегородки, резко разделявшие одну нацию от другой. Ленин поэтому ставит перед еврейским пролетариатом следующую задачу его классовой борьбы:

„поддерживать все то, что способствует устранению еврейской обособленности" [1]).

Эти две линии наиболее рельефно вылились в отношении к лозунгу „национальная культура". Бунд был за лозунг „национальная культура" и стремился доказать приемлемость его для классовой борьбы рабочего класса за социализм, Ленин же резко выступил против этого лозунга.

„Лозунг „национальной культуры",—пишет тов. Ленин,—есть буржуазный (а часто и черносотенно-клерикальный)" [2]).

Почему?

„А потому, что

„Лозунгом „национальной культуры" *прикрывается* буржуазная и буржуазно-крепостническая тенденция" [3]).

Буржуазия, утверждающая свое классовое господство в капиталистическом обществе, стремится притупить классовую борьбу. Ее прямой классовый интерес—затушевать классовую структуру капиталистического строя, классовый характер общественных форм и всех надстроек—государства, науки, философии и культуры вообще. Она ищет прикрытий, маскировки своему классовому господству. Такой же маскировкой и является лозунг „национальной культуры". Спекулируя на принадлежности буржуазии и пролетариата к одной нации, буржуазия стремится скрепить национальные узы пролетариата и буржуазии и ослабить интернациональные связи пролетариев всего мира. Этой цели и должен был служить лозунг „национальной культуры".

Тов. Ленин сразу уловил буржуазную сущность этого лозунга. Он пишет:

„Кто защищает лозунг „национальной культуры", тому место среди националистических мещан, а не среди марксистов" [4]).

---

*) Рэдакцыя з некаторымі палажэньнямі артыкулу т. Кугеля „Ленин о Бунде", зьмешчанага ў папярэднім № ня згодна і зьмяшчае працяг артыкулу, каб у наступных №№ асьвяціць гэтыя няправільныя палажэньні.

[1]) Ленин, т. IV, стр. 273.

[2]) Ленин, т. XIX. стр. 42.

[3]) Ленин, там-же.

[4]) Ленин, там-же, стр. 44.

И специально о лозунге еврейской национальной культуры Ленин писал следующее:

„Еврейская национальная культура—лозунг раввинов и буржуа, лозунг наших врагов“ [1]).

„Кто прямо или *косвенно* (наш курсив—*Р. К.*) ставит лозунг еврейской национальной культуры, тот (каковы бы ни были его благие намерения) враг пролетариата, сторонник старого и кастового в еврействе, пособник раввинов и буржуа“ [2]).

Тов. Ленин, таким образом, острым ножем своего марксистского анализа установил контр-революционную суть лозунга „национальной культуры“ в условиях капитализма [3]).

Но тов. Ленин не ограничился только отрицательной критикой этого лозунга. Он дал классовую пролетарскую линию в области культуры.

„Наш лозунг,—пишет тов. Ленин,--есть интернациональная культура демократизма и всемирного рабочего движения“ [4]).

„В каждой национальной культуре есть, хотя бы неразвитые *элементы* демократической и социалистической культуры, ибо в *каждой* нации есть трудящаяся и эксплоатируемая масса, условия жизни которой неизбежно порождают идеологию демократическую и социалистическую.

„Ставя лозунг „интернациональной культуры“ демократизма и всемирного рабочего движения“ мы из *каждой* национальной культуры берем *только ее* демократические элементы, берем их

---

[1]) Ленин. т. XIX, стр. 44

[2]) Там-же, стр. 45.

[3]) Именно в условиях капитализма, ибо в условиях диктатуры пролетариата классовая суть лозунга „национальной культуры“ становится другой. Не сам по себе лозунг „национальной культуры“ буржуазен, а капиталистические условия делают его буржуазным. Об этих исторических рамках при решении какого-нибудь социального вопроса, Ленин писал следующее: „безусловным требованием марксистской теории при разборе какого-нибудь социального вопроса является постановка его в *определенные исторические рамки*, а затем, если речь идет об одной стране (например, о национальной программе для данной страны), учет конкретных особенностей, отличающих эту страну от других, в пределах одной и той же исторической эпохи“. Том XIX, стр. 102.

Приведем известное место из книги Сталина „Вопрос о ленинизме“ по вопросу о лозунге национальной культуры при диктатуре пролетариата“. „Что такое национальная культура? Как совместить ее с пролетарской культурой? Разве не говорил Ленин, еще до войны, что культур у нас две—буржуазная и социалистическая, что лозунг национальной культуры есть реакционный лозунг буржуазии, старающейся отравить сознание трудящихся ядом национализма? Как совместить строительство национальной культуры, развитие школ и курсов на родном языке и выработку кадров из местных людей со строительством пролетарской культуры. Нет-ли тут непроходимого противоречия? Конечно, нет. Мы строим пролетарскую культуру. Это совершенно верно. Но верно также то, что пролетарская культура, социалистическая по своему содержанию, принимает различные формы и способы выражения у различных народов, втянутых в социалистическое строительство, в зависимости от различий языка, быта и т. д. *Пролетарская по своему содержанию, национальная по форме,—такова та обще-человеческая культура, к которой идет социализм. Пролетарская культура не отменяет национальной культуры, а дает ей содержание. И, наоборот, национальная культура не отменяет пролетарской культуры, а дает ей форму*. Лозунг национальной культуры был лозунгом буржуазным, пока у власти стояла буржуазия, а консолидация наций происходила под эгидой буржуазных порядков, лозунг „национальной культуры“ стал лозунгом пролетарским, когда у власти стал пролетариат, а консолидация наций стала протекать под эгидой советской власти. Кто не понял этого принципиального различия двух различных обстановок, тот никогда не поймет ни ленинизма, ни существа национального вопроса с точки зрения ленинизма. Сталин, „Вопросы ленинизма“, стр. 257—258.

[4]) Ленин, т. XIX, стр. 42.

только и безусловно в противовес буржуазной культуре, буржуазного национализма *каждой* нации“ [1]).

„Те евреи-марксисты, которые сливаются в интернациональные марксистские организации с русскими, литовскими, украинскими и проч. рабочими, внося свою лепту (и по-русски и *по еврейски*) (наш курсив—*Р. К.*) в создании интернациональной культуры рабочего движения, все евреи, вопреки сепаратизму Бунда—продолжают лучшие традиции еврейства, борясь против лозунга национальной культуры“ [2]).

Такую же резкую критику встретила со стороны тов. Ленина бундовская „культурно-национальная автономия“, которая должна была быть программой реализации лозунга „национальной культуры“.

В чем сущность этой программы?

„Сущность плана или программы, так называемой, „культурно-национальной“ автономии (иначе: создание учреждений, гарантирующих свободу национального движения),—пишет т. Ленин,—состоит *в разделении школьного дела по национальностям*“.

„Каждая нация, независимо от того, где живет любое, принадлежащее к ней лицо (независимо от территории: отсюда название „экстерриториальной“ внеземельной автономии) составляет единый, государственно-признанный союз, ведущий национально-культурные дела. Главное из этих дел—школьное дело. Определение состава наций вольной записью каждого гражданина, независимо от его места жительства, в любой национальный союз, обеспечивает абсолютную точность и абсолютную последовательность разделения школьного дела по национальностям“ [3]).

Тов. Ленин в другом месте дополняет эту формулу еще следующим, одновременно отмечая непоследовательность Бунда, который это дополнение отбрасывает.

„Каждая нация составляет юридическое целое, с правом принудительного обложения своих членов, с национальными парламентами (сеймами) с национальными „статс-секретарями“ (министрами)“ [4]).

Интересно привести мнения бундовца Медема о „национально-культурной автономии“.

„Что такое национально-культурная автономия?—спрашивает он. Исправленный принцип территориальной автономии. Областная автономия стремится к самостоятельности *наций,* подставляет территорию на место нации. И предназначившаяся для нации самостоятельность достается целому клубку наций, живущих под одной территориальной крышей и сказка об угнетении одной нации другой начинается внутри этой территории сначала. Потому что географическое размежевание наций невозможно, а по мере развития капиталистических отношений, национальная чересполосица все усиливается. Стало быть, *национальному* вопросу не соответствует *территориальный* ответ. Бунд и говорит: воздайте кесарево—кесарю, а божие—богу. Областная автономия нужна для обслуживания нужд края, для централизации государства. Но

1) Ленин, т. XIX, стр. 43.
2) Там-же, стр. 45.
3) Там-же, стр. 68.
4) Там-же, стр. 52.

Досыць падаць некалькі фактаў скажэньня крытыкі з боку ня толькі адных гаспадарчых працаўнікоў, але і партыйных органаў. Напрыклад, ЦКК разглядвала пытаньне няправільнага рэагаваньня на крытыку з боку парт. ячэйкі Белмясгандлю. Сутнасьць гэтае справы зводзіцца да таго, што два камсамольцы за крытыку, за „разаблачэньне“ былі ахрышчаны як бузацёры, як склочнікі. У сілу хатняе сьпетасьці, нецярпімых адносін да крытыкі з боку кіруючага складу парт. ячэйкі і кіраўнікоў Белмясгандлю, навакол камсамольцаў стварылі атмасфэру, быццам указаныя імі факты былі выдуманы. Парт. ячэйка пастанавіла зьняць з работы гэтых двух камсамольцаў, а Кастрычнікаўскі РК КПБ па няўважлівасьці пацьвердзіў пастанову ячэйкі. І толькі дзякуючы ЦКК абедзьве гэтыя пастановы былі адменены і таварышы былі адноўлены на рабоце. Другі выпадак: калі Калінкавіцкі суд правёў працэс па абвінавачваньню рабочых за тое, што яны на агульным сходзе рабочых у рэзкіх выразах крытыкавалі работу мясцовага зубнога ўрача. Хоць даныя рабочыя былі апраўданы, але гэты выпадак характэрны тым, што судзілі іменна за крытыку і тут сказалася „нецярпімае парушэньне рабочае дэмократыі і формальныя бюрократычныя адносіны да рабочае крытыкі“. Ці яшчэ: на заметку „Судьи и преступники“ („Правда“) Мазырскі Акругком КПБ у сваёй пастанове кажа: „прасіць ЦК КПБ зьвярнуць увагу друку і інш. газэт на недапушчальнасьць зьмяшчэньня неправераных матар'ялаў, чым падрываецца аўтарытэт паасобных органаў“. Таксама парт. ячэйка Белдзяржкіно патрабавала прыцягненьня да адказнасьці работнікаў рэдакцыі „Чырвоная Зьмена“ за зьмяшчэньне фэльетону „Таямніцы Белдзяржкіно“. Усе гэтыя факты кажуць аб тым, што, замест сапраўднага хуткага рэагаваньня на ўказаньні таварышоў аб недахопах і дапамогу ў зжываньні іх, некаторыя органы прыцягваюць да адказнасьці т. т., тым самым рашучым чынам прытупляюць актыўнасьць, прыніжаюць усякую зацікаўленасьць за між таго, каб дапамагчы выявіць тыя ці іншыя недахопы. Гэтым ствараюць умовы крытыкабоязкасьці.

Матар'ялы таксама адзначаюць шэраг фактаў, калі з боку кіраўнікоў, адміністрацыі, майстроў выяўляецца нецярпімасьць да крытыкі, якая мяжуецца з зажымам, з пагрозамі. Аб гэтым гаворыць шэраг заяў з боку рабочых, з боку камуністаў, аб гэтым гавораць паведамленьні у друку. Напрыклад, „нас называлі склочнікамі, разлагаючым элемэнтам за тое, што мы выступалі супроць быўш. дырэктара, п'яніцы, які піў, які выпісываўся для фабрыкі“. Ці на ўказаньне аднаго рабочага дырэктар адказвае: „не твая справа, кінь твае контр-рэволюцыйныя штукі“. Старш. фабкому заявіў работніцы, якая была прынята ізноў на работу: „калі ты будзеш зьнята другі раз, каб ты аб гэтым нічога не казала“. Маюць мейсца і зьявішчы, калі пад рознымі зачэпкамі падводзілі пад скарачэньне рабочых, работніц. Значыць, мы яшчэ не гарантаваны, што ня будзе выпадкаў прасьледваньня за крытыку, за разаблачэньні, і гэта пытаньне мае вялізарнае значэньне, яно абавязвае парт. ячэйкі ўважліва сачыць за гэткімі скажэньнямі, а органам пракуратуры і РСІ неабходна абвясьціць рашучую барацьбу гэткім зьявішчам.

Таксама перашкодаю ў справе паглыбленьня і разгортваньня самакрытыкі трэба прызнаць і тое, што на дзелавыя прапановы і ўказаньні мас адміністрацыя заслаба рэагуе, з імі ня лічыцца, а іншы раз ігнаруе іх. Можна прывесьці шмат прыкладаў, калі прапановы, указаньні мас, зьмешчаныя ў насьцен. газэтах, вытворчых нарадах, заставаліся без рэагаваньня, бяз прыняцьця канкрэтных мер палепшаньня і зжываньня паказаных недахопаў. Адміністрацыя сыстэматычна не дае

справаздачы аб выкананьні прапаноў як рабочых ды таксама і вытворчых нарад, агульных сходаў. Справай вучоту прапаноў рабочых, іх пажаданьняў амаль што не займаліся парт. ячэйкі, праформаны і адміністрацыя. Гэта пытаньне трэба ставіць інакш, а менавіта ў роўніцы прыцягненьня да адказнасьці за ігнараваньне выконваньня прапаноў рабочых, рабочых сходаў. Трэба ўвесьці такі парадак, каб адміністрацыя, прафорган рабілі сыстэматычна справаздачы, што імі зроблена па данай заметцы і прапанове і якія канкрэтныя вынікі дасягнуты. Гэта зусім магчыма пры ўмове, калі з боку парт. ячэйкі, прафоргану і адміністрацыі будзе весьціся добры вучот усіх паступаючых прапаноў, пажаданьняў, указаньняў пралетарскіх мас. Па гэтаму пытаньню ў выніках з Бабруйска паведамляюць: „Адзначана шмат выпадкаў халатных і бюракратычных адносін да выкананьня прапаноў вытворчых нарад. У некаторых прадпрыемствах процант нявыконваньня прапаноў дасягае 30—40. Адсутнічае інфармацыя рабочых аб выконваньні прымаемых пастаноў і аб прычынах невыкананьня".

У выніках па агляду савецкіх ячэек па Мазырскай акрузе гаворыцца: „Ня гледзячы на тое, што былі выказаны пажаданьні, прапановы, указаньні мас пры абгаварэньні лёзунгу партыі аб самакрытыцы, але ніякага рэагаваньня па гэтых указаньнях мас не пасьледавала ні з боку парт. ячэек, ні з боку адпаведных органаў". На сходзе (I/VII-28 г.) адзначалі: „Вайсман — майстар фабрыкі „К. О" дае прывілеі адным, прыдзіраецца да другіх. Доктар Футур'янскі вельмі дрэнна адносіцца да хворых. У ЦРК ёсьць шмат бюракратызму" (работніца Л—ц). Прыходзіш перамяніць кніжку ЦРК, яе не пераменьваюць, бо пасьля ўстаноўленага часу" (Ф—н) і г. д.

На заводзе „Бальшавік" (Менск), дзе была праверка разгортваньня самакрытыкі, адзначана: „няма поўнага вучоту ўсіх прапаноў рабочых, няма дастатковае арганізаванае інфармацыі адміністрацыі рабочых аб ступені выконваньня іхных прапаноў". Такіх прыкладаў можна прывесьці поўна, але-ж і гэтыя яскрава гавораць аб тым, што на пытаньне з боку адпаведных органаў на прадпрыемствах, праворганах ня было зьвернута дастатковае ўвагі. Гэта можа ня толькі не павысіць актыўнасьці мас, а прытупіць яе.

Трэба паказаць і на тую акалічнасьць, што ў некаторых выпадках рэагаваньне на заметкі і прапановы рабселькораў мяжуецца з бюракратычнымі адносінамі, скажэньнем самакрытыкі. Досыць падаць некалькі фактаў, якія пацьвярджаюць вышэй паказанае становішча. Так, напрыклад, Шклотрэст у абвяржэньні піша: „што забясьпячэньне заводу Домбаль пяском ня было настолькі катастрафічна і пагражаюча, каб трэ' было ў друку падымаць такую сэнсацыю". Ці Бялыніцкі РВК (Магілеўская акруга) на селькораўскую заметку ў „Крестьянскую газету" піша такое абвяржэньне: „што датычыцца таго, што нехта набрахаў у газэце, то, як відаць, ён чуў звон, але ня ведае, дзе ён, бо школа ня тое што не дабудована, але зусім не будавалася, толькі зроблены фундамант". Інспэктар Менакрана на заметку паведамляе, што „факт пацьвердзіўся". З гэтых адказаў сьведчыць, па-першае—нежаданьне лічыцца з перасьцярогай аб небясьпецы, з запатрабаваньнем рабочых аб сваім заводзе; па-другое—нецярпімасьць да ўказаньняў на безгаспадарчасьць і па-трэцяе—проста бюракратычная адпіска. Такія выпадкі абвяржэньняў ня рэдкія, і яны могуць толькі адсекчы, зацісnуць магчымасьць выяўленьня недахопаў, магчымасьць падачы дапамогі ў нашым будаўніцтве з боку рабселькораў. Пагэтаму, бязумоўна, трэба абвясьціць рашучую барацьбу і даць па руках каму сьлед.

Далей, трэба закрануць і такія недахопы. Партячэйкі недастаткова кіруюць справай разгортваньня самакрытыкі ў тым сэнсе—як змагацца з недахопамі, як рэалізаваць указаньні мас. Таксама і ў тым, што з боку партячэек недастаткова была аказана дапамога ў справе разгортваньня самакрытыкі па лініі масавых арганізацый—прафсаюзы, камсамол, каапэрацыя, сельсаветы, КСУ і дабраахвотныя таварыствы. Асабліва трэба падкрэсьліць, што ў рабоце атрадаў „лёгкае кавалерыі" партячэйкі зрабілі вельмі мала для дапамогі і садзейнічаньня ім. Такім чынам, мы яшчэ ня можам гаварыць аб тым, што лёзунг партыі стаў прыналежнасьцю шырокіх пралетарскіх мас. Крытыка і самакрытыка яшчэ не ўцягнула пагалоўна рабочыя масы батрацтва і беднаты ў работу па барацьбе за сапраўднае спраўленьне недахопаў апарату, барацьбы з бюракратызмам, палепшаньне ўсіх зьвеньняў нашае работы. Пры гэтым, як вышэй было сказана, крытыка зьнізу ўпіраецца ў шэраг недахопаў, перашкодаў, на барацьбу, з чым трэба згуртаваць больш увагі.

У рэзалюцыі Гомельскага партактыву адзначаецца: „што шэрагі крытыкуючых яшчэ не настолькі вялікія, каб можна было сьцьвярджаць, што адозва ЦК аб самакрытыцы зрабілася прыналежнасьцю ўсіх рабочых мас нашае акругі, і на грунце якога ўсе рабочыя масы ўцягнуты ў справу разьвіцьця самакрытыкі. Рабочыя масы толькі яшчэ пачынаюць уцягвацца ў практычнае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб самакрытыцы". Значыць, мы можам гаварыць цяпер толькі аб тым, што самакрытыка пачала разгортвацца, самакрытыка дала нам першыя вынікі, але-ж яшчэ ня досыць мы ўцягнулі ў справу самакрытыкі найшырокія пласты пралетарскіх мас. Гэтая ацэнка ў аднолькавай ступені, можа быць за некаторым выключэньнем, можа быць прыстасавана да ўсіх акруг, да ўсіх зьвеньняў.

Адзначаныя выпадкі аб тэндэнцыях кажуць, што пры самакрытыцы можна „высвободиться, уклониться от партийного руководства". Акрамя непаразуменьня лёзунгу партыі ў гэтым выпадку сказаць нічога нельга. Таксама маюць месца выпадкі, калі многа зьярталася ўвагі на „асабістыя моманты", самакрытыку скарыстоўвалі „для зьвядзеньня асабістых разрахункаў". Зразумела, што гэта вельмі дрэнна, бо яно выпускала з поля зроку крытыку нашых недахопаў у вытворчасьці, у быту, парушэньне працоўнае дысцыпліны, някультурнасьць. Ясна, што гэтыя недахопы павінны быць спраўлены ў бок найбольшага ўцягненьня мас у справу палепшаньня нашага будаўніцтва, у справу выяўленьня недахопаў. Трэба разгарнуць крытыку так, каб паказаць ня толькі недахопы, але і наш станоўчы вопыт, крытыкаваць ня толькі балячкі, але іх прычыны і шляхі ўхіленьня.

## Некаторыя прапановы

1. Асноўную ўвагу партячэйкам трэба зьвярнуць на кіраваньне таго, як ухіляцца недахопаў, на рэалізацыю ўказаньняў мас. Для гэтага неабходна ў кожнай партячэйцы вылучыць спэцыяльную асобу па вучоту ўсіх прапаноў на сходах, у насьцен. газэтах як з боку рабочых сходаў, так і паасобных рабочых. Трэба ўлічваць і тыя прапановы і пажаданьні, якія ня ўвойдуць у адпаведныя рэзалюцыі. Партячэйка на сваіх паседжаньнях павінна разглядваць гэтыя прапановы, прымаць усе меры да таго, каб іх ажыцьцявіць праз адпаведныя органы. Акром гэтага, зьвярнуць асаблівую ўвагу на хуткую, дзелавую праверку фактаў, што выяўляюцца з крытыкі, каб аб прынятых мерах давесьці да ведама мас.

Неабходна ўвесьці ў практыку вылучэньне камісій па праверцы выкананьня асобных пастаноў з тым, каб гэтыя камісіі рабілі садаклады на агульных сходах рабочых і служачых пры справаздачах адміністрацыі. Увесьці ў сыстэму справаздачы адм. гасп. органаў, прафорганаў па выконваньню раней дадзеных пастаноў і ў кожным паасобным выпадку сход, пры заслухоўваньні дакладаў, павінен вызначыць, калі заслухаць справаздачу аб выкананьні гэтых прапаноў.

2. У сувязі з недастатна разгорнутай самакрытыкай, асабліва па лініі камсамолу і грамадзкіх арганізацый, партячэйкі павінны сваім парткіраўніцтвам прыйсьці на дапамогу ў разгортваньні яе ў гэтых зьвеньнях, дамагаючыся палепшаньня і ажыўленьня іхнае работы, іхнае дзейнасьці.

Асабліва сельскім партячэйкам прыдзецца разгарнуць шырокую работу па пад'ёму актыўнасьці беднаты, батрацтва, членаў прафсаюзаў на вёсцы вакол разгортваньня лёзунгу партыі аб самакрытыцы і крытыцы і накіраваньня яе па лініі выяўленьня недахопаў, палепшаньня работы сельсаветаў, КСУ, каапэрацыі і інш. дабраахвотных т-ваў на вёсцы. Крытыка і самакрытыка работы сельсаветаў, КСУ, каапэрацыі прадбачвае сабою тыя формы і арганізацыйныя мэтады, якія сумясьцімы і выцякаюць з нашай пралетарскай савецкай дэмакратыі. Партячэйкам прыдзецца праявіць вялікую ролю арганізатараў па разгортваньню самакрытыкі ў гэтых арганізацыях, унутры іх, найшырокім спосабам прыцягваючы батрацтва, беднату, сераднякоў. Гэта ні ў якім выпадку не павінна выліцца ў крытыку пралетарскай дыктатуры, у крытыку рабочае клясы, бо дробна-буржуазныя, кулацкія сілы вёскі папытаюцца гэта зрабіць.

3. У мэтах палепшаньня зьместу нашае масавае работы ва ўсіх зьвеньнях, неабходна ўвесьці шэраг мэтадаў і форм, якія-б садзейнічалі большаму падвышэньню актыўнасьці мас. Тыя мэтады, якія высунуты і праводзяцца, як—дзеньнікі для прапаноў рабочых, сшыткі пытаньняў і адказаў (Гомель) вечары самакрытыкі (Барысаў), трэба шырэй практыкаваць і ў іншых арганізацыях. Разам з гэтым, неабходна пачаць шырокае наведваньне з боку адказных работнікаў майстэрняў, цэхаў, дзе з рабочымі праводзіць гутаркі, выяўляць недахопы. Шырэй практыкаваць папярэдняе абгаварэньне мерапрыемстваў сярод рабочых, з тым, каб пры канчатковым прыняцьці пастаноў улічыць указаньні мас. Таксама неабходна весьці ўсебаковую падрыхтоўку да сходаў рабочых у сэнсе папярэдняга апавяшчэньня аб парадку дню, практыкуючы пры гэтым, што рабочыя могуць выдвінуць на парадак дню чарговага сходу, і з усяе сумы прапанованых пытаньняў выбраць найбольш паўсёдзенныя, якія хвалююць іх.

4. Тым партыйным арганізацыям, якія яшчэ да гэтага часу не праверылі ступень разгортваньня самакрытыкі, трэба шляхам спэцыяльна вылучаных груп партактыву правесьці праверку ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі. Пры праверцы і ацэнцы ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі трэба выходзіць з таго, што зроблена, якія зрухі і палепшаньні маюцца ў тэй ці іншай арганізацыі.

5. Неабходна дамагацца, каб самакрытыка сапраўды зьявілася асноваю для ўсяе работы ўстаноў і ўсяе арганізацыі. Для гэтага максымальна разгарнуць крытыку зьнізу, з рабочых мас, з найбольшым скарыстаньнем усіх прапаноў рабочых. Трэба весьці самую рашучую барацьбу з тымі, хто пад тымі ці іншымі зачэпкамі, тымі ці іншымі мерамі пытаецца зьвесьці на нуль самакрытыку, хто змагаецца з ёю,

звужвае яе значэньне, ігнаруючы практычныя мерапрыемствы, што высоўваюцца і намячаюцца рабочымі, хто няўважліва ставіцца да пастаноў, прынятых на рабочых і партыйных сходах.

6. Таксама патрэбна з боку партыйных арганізацый праверыць зьмест і мэтады работы з partактывам, выхоўваньне яго і скарыстаньне ў штодзённай канкрэтнай рабоце партыйных органаў. Трэба, каб партарганізацыі зьвярнулі асаблівую ўвагу на справу вылучэньня рабочых і сялян у нашы савецкія, гаспадарчыя, каапэрацыйныя органы. Залабая работа з боку савецкіх ячэек у справе барацьбы з бюракратызмам, цеганінай, і вельмі слаба разгорнутая самакрытыка абавязваюць парторганы праверыць зьмест работы сав. парт. ячэек пад пунктам гледжаньня, што імі зроблена для ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК КП(б)Б.

---

М. Ляўкоў

# Аб самакрытыцы ў вёсцы

У адозве ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы асабліва падкрэсьлена, што галоўнае, на што трэба зьвярнуць увагу пры разгортваньні самакрытыкі—гэта: *„самае сьмелае, самае рашучае, самае пасьлядоўнае ўцягненьне мас у справу сацыялістычнага будаўніцтва, праверка і кантроль з боку гэтых мільённых мас усяго апарату, яго ачыстка ад нягодных элемэнтаў“.*

І далей: „Партыя зрабіла заклік працоўных да жорсткай самакрытыкі на тое, каб гэту самакрытыку зрабіць падважнікам барацьбы за сапраўднае папраўленьне ўсяго апарату, дзеля сапраўднае, а не папяровай,—барацьбы з бюракратызмам, дзеля масавага паходу супроць усіх ворагаў, пачынаючы ад кулака і „шкодніка“ і канчаючы элемэнтамі разлажэньня ў нашых уласных шэрагах“.

Такім чынам, партыя праз самакрытыку ставіць, як галоўную задачу,—гэта *ўцягненьне мас у справу сацыялістычнага будаўніцтва, у справу кіраўніцтва краінай,* што поўнасьцю адпавядае Ленінскаму прынцыпу „выхоўваць масы на жывых і канкрэтных прыкладах“.

Першыя ітогі правядзеньня самакрытыкі паказваюць, што партыя ў сваёй масе, і пад яе кіраўніцтвам рабочая кляса правільна ўспрынялі ўсю важнасьць лёзунгу самакрытыкі. Рабочыя масы ўспрынялі лёзунг самакрытыкі не як нешта кампанейскае і часовае, а як сталае і неабходнае мерапрыемства ва ўсім нашым будаўніцтве, ва ўсёй нашай рабоце.

Шмат якія факты ўжо сьведчаць аб станоўчых выніках самакрытыкі. Аднак, было-б памылковым казаць, што дырэктыва партыі аб разгортваньні самакрытыкі атрымала сваё поўнае вырашэньне. Апошняга сказаць нельга, *асабліва ў адносінах да вёскі.*

У разгортваньні самакрытыкі ёсьць яшчэ надзвычайна поўна недахопаў. Калі ў горадзе „асноўным недахопам самакрытыкі зьяўляецца пакуль што слабыя вынікі яе“, асабліва ў галіне выкананьня прапаноў саміх рабочых мас, дык *у вёсцы яшчэ і разгортваньне самакрытыкі праходзіць надзвычайна марудна.* Там у шэрагу выпадкаў, як паказала практыка, ёсьць неразуменьне лёзунгу самакрытыкі. Некаторыя таварышы камуністы, нават цалкам ячэйкі і арганізацыі ў вёсцы, напрыклад, Заслаўская,—глядзяць на самакрытыку, як на нешта новае ў партыі, зусім ня ведаючы таго, што *самакрытыка зьяўлялася і зьяўляецца адным з асноўных прынцыпаў нашае бальшавіцкае партыі.* Адсюль „недаацэнка значэньня самакрытыкі“ на вёсцы. Адсюль і тыя разважаньні, што самакрытыка патрэбна рабочым у горадзе, а вёска і без самакрытыкі абыйдзецца. Адсюль няўмельнасьць і боязкасьць прыстасаваць самакрытыку канкрэтна да ўмоў вёскі так, як разумее і патрабуе гэтага партыя, адсюль адсутнасьць „рашучасьці“ і „пасьлядоўнасьці“ ў разгортваньні самакрытыкі на вёсцы.

У тэмпе разгортваньня самакрытыкі вёска адстае, гэта трэба сказаць проста. Там, у лепшым выпадку, маем прапрацоўку ў ячэйках адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы і абгаварэньне недахопаў партыйнае работы, а аб тым, каб *прыцягнуць праз самакрытыку батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы да „дзелавое, бязьлітаснае, сапраўдна-рэвалюцыйнае барацьбы з канкрэтнымі насіцелямі зла“*, як казаў Ленін,—мала зроблена, а то і зусім нічога.

Вёска павінна падцягнуцца за горадам і стаць на шлях практычнага „сьмелага“ і „пасьлядоўнага“ разгортваньня самакрытыкі. Гэта ня значыць, што самакрытыка ў вёсцы не павінна адрозьнівацца ад самакрытыкі ў горадзе. Пры разгортваньмі самакрытыкі ў вёсцы абавязкова патрэбна ўлічваць асабістасьць, якою адрозьніваецца вёска ад гораду, *патрэбна ўлічваць клясавую сутнасьць паасобных груп сялянства.*

Калі ў горадзе галоўнаю задачаю ў справе далейшага разгортваньня самакрытыкі павінна быць шырокае ўцягненьне рабочых мас у гаспадарчую і грамадзкую работу, дык у вёсцы пры разгортваньні самакрытыкі ні ў якім разе нельга забываць такія праслойкі, як: батрацтва, беднату, серадняцтва і кулакоў. Пры разгортваньні самакрытыкі ў вёсцы трэба выходзіць з Ленінскае ўстаноўкі: *„апора на беднату, саюз з серадняком, ні на хвіліну не паслабляй барацьбы з кулаком“.*

*Самакрытыку ў вёсцы неабходна падпарадкаваць асноўным задачам работы партыі на вёсцы.* Для гэтага: *„Самакрытыка ў вёсцы павінна сыграць рашучую ролю ў справе барацьбы з праізволам, з скажэньнямі клясавае лініі партыі, з выпадкамі змычкі камуністых з кулацкім і чужым нам элементам. Самакрытыка павінна дапамагчы партыі ўзмацніць яе кіраўніцтва батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі, узмацніць уцягненьне іх у барацьбу з уплывамі кулацтва, з недахопамі нізавога апарату і парушэньнямі савецкае законнасьці з боку прадстаўнікоў партыі і ўлады на вёсцы. У гэтых мэтах партыйныя камітэты павінны ўсямерна ўзмацніць сваё кіраўніцтва вясковымі парт. арганізацыямі“* (Пленум ЦКК УсеКП(б).

Правільнае разгортваньне самакрытыкі ў вёсцы будзе забясьпечана толькі тады, калі вясковыя ячэйкі і райкомы ў першую чаргу добра паставяць самакрытыку свае работы, калі будуць добра ведаць усе станоўчыя і адмоўныя бакі свае работы, свайго кіраўніцтва жыцьцём вёскі, з вучотам прычын усіх недахопаў, і тым забясьпечваць кіраўніцтва крытыкаю з боку батрацтва, беднаты і серадняцтва.

*Ячэйкі пад кіраўніцтвам райкомаў конча павінны быць на чале самакрытыкі ў вёсцы і накіроўваць яе на забесьпячэньне клясавых задач партыі ў вёсцы,* а ня плесьціся ў хвасьце, як гэта часта бывае. Задача райкому, ячэйкі і кожнага камуніста ў вёсцы—*умець знайсьці балючае пытаньне, з'арганізаваць і накіраваць пры дапамозе самакрытыкі актыўнасьць батрака, бедняка і серадняка на перамаганьне гэтага балючага пытаньня, на яго зжываньне.* Таму *самакрытыка павінна быць дзелавою, канкрэтнаю.*

Райкомам і ячэйкам, для забесьпячэньня здаровае, дзелавое і канкрэтнае самакрытыкі на вёсцы *трэба дасягнуць галоўнага ў самакрытыцы—гэта: хуткае праверкі фактаў, хуткага выпраўленьня памылак і недахопаў, вызначаных праз самакрытыку. Дасягнуць таго, каб шырокія масы батрацтва, беднаты і серадняцтва на справе бачылі, якія недахопы, як хутка зьнішчаюцца, як праводзяцца ў жыцьцё іх канкрэтныя прапановы па тэй ці іншай галіне работы.*

Таму правільны падыход да самакрытыкі абавязвае партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і ўсе грамадзкія арганізацыі ўважліва адносіцца

да ўсіх канкрэтных указаньняў на недахопы, якія толькі маюцца ў рабоце савецкіх, гаспадарчых, каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый у вёсцы, да таго, як зжыць гэтыя недахопы.

У вёсцы, ва ўмовах узросшае актыўнасьці варожых сіл (кулак, былыя людзі, папы і інш.), самакрытыка дзе-ні-дзе будзе скарыстоўвацца гэтымі варожымі элемэнтамі для фармаваньня анты-партыйных, анты-савецкіх, непралетарскіх, шкодных для дыктатуры пралетарыяту, настрояў і тэндэнцый. *Партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыі павінны гэта загадзя ведаць і ў кожным канкрэтным выпадку даваць рашучы адпор кулацкім вылазкам, арганізуючы і накіроўваючы супроць яго актыўнасьць батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.*

Пры разгортваньні самакрытыкі ў вёсцы *ўсю ўвагу, увесь „агонь“ накіраваць супроць выкрыўленьня клясавае лініі партыі ў вёсцы, супроць падрыву аўтарытэту партыі і ўлады на вёсцы, супроць бюракратызму, „кумоўства“, „кампанейства“ і цеганіны,* па ўсіх канкрэтных пытаньнях работы ў вёсцы—земляўпарадкаваньня, крэдыту машынаснабжэньня, сельска-гаспадарчага падатку, у разьмеркаваньні насеньня і інш.

Тут патрэбна праз самакрытыку, пры дапамозе батрацтва, беднаты і серадняцтва, канкрэтна, не агульнымі разважаньнямі, *выкрыць усіх „насіцелей зла“ ў нашых вясковых установах, каб у прадстаячую кампанію перавыбараў саветаў ачысьціць нашы савецкія ўстановы ў вёсцы ад нягодных і чужых нам элемэнтаў і на іхняе месца паставіць сапраўдных праваднікоў дырэктыў партыі і савецкае ўлады, сапраўдных абаронцаў дыктатуры пралетарыяту—саветаў, сапраўдных будаўнікоў сацыялістычнае гаспадаркі.*

Пры разгортваньні самакрытыкі ў вёсцы з пункту гледжаньня—забесьпячэньня клясавых задач партыі, важна ўмець з'арганізаваць, уцягнуць і паставіць на сваё мейсца батрака, бедняка і серадняка.

Батрак у правядзеньні самакрытыкі павінен мець максымум магчымасьці ўдзельнічаць у абароне клясавае лініі партыі ў вёсцы па ўсіх галінах работы. *Праз самакрытыку батрак павінен актывізавацца і падымаць сваю клясавую сьвядомасьць. Бядняк, апора партыі ў вёсцы, таксама павінен усямерна ўцягвацца ў барацьбу з скрыўленьнямі партыйнае лініі ва ўсіх галінах работы на вёсцы, актывізавацца і шчыльней арганізавацца навакол партыі, павялічваць свой уплыў на серадняка і садзейнічаць сацыялістычнаму будаўніцтву вёскі.*

*Батрак і бядняк пры разгортваньні самакрытыкі ў вёсцы павінны быць найбольш блізкімі да партыі, дапамагаць партыі выпраўляць памылкі і недахопы работы на вёсцы, дапамагаць партыі весьці барацьбу са злоўжываньнямі, выкрыўленьнямі клясавае лініі ў вёсцы.* Батрацтва і беднату ўцягваць у самакрытыку праз групы беднаты, праз сходы беднаты і раённыя нарады груп беднаты, забясьпечваючы поўным партыйным кіраўніцтвам гэтую работу, умельна падбіраючы на абгаварэньне канкрэтныя пытаньні па паасобных галінах работы савету, каапэрацыі, школы.

*Разгортваньне самакрытыкі сярод серадняцкіх мас вёскі, як і ўся работа партыі на вёсцы, павінна быць накіравана на ўзмацненьне кіраўніцтва партыі серадняцкімі масамі, на ўзмацненьне бядняцка-серадняцкага блёку, на ўзьняцьце і арганізацыю актыўнасьці серадняцтва, на палітычную і эканамічную ізаляцыю кулака, забясьпечваючы тым самым неаслабны тэмп перабудовы вёскі на сацыялістычных падставах, шляхам „няўхільнага пераходу ад дробных адзінаЛічных гаспадарак да грамадзкае апрацоўкі зямлі“ і па зьнішчэньню цяжкасьцяй і недахопаў сацыялістычнага будаўніцтва.*

Серадняцкія масы вёскі ўцягваць у самакрытыку шляхам запрашэньня маламоцнае часткі серадняка і лепшы серадняцкі актыў на сходы беднаты, праз пленумы саветаў з шырокім запрашэньнем серадняцкіх мас і праз агульныя справаздачныя сходы саветаў. Ва ўсіх выпадках абавязкова павінна быць забясьпечана партыйнае кіраўніцтва.

Шырока скарыстаць для разгортваньня самакрытыкі ў вёсцы справаздачна-перавыбарчуюкампанію саветаў, поўнасьцю ўжыць і выканаць тэзіс з рэзалюцыі апошняга Пленуму ЦК КП(б)Б па пытаньню перавыбараў саветаў: „Уся справаздачная і падрыхтоўчая кампанія павінна праводзіцца пры шырока разгорнутай пролетарскай самакрытыцы, мэтавая ўстаноўка самакрытыкі ў горадзе і ў вёсцы павінна быць накіравана на палепшаньне і ўзмацненьне ўсяго савецкага апарату зьверху да нізу, на барацьбу і выкрыцьцё бюракратычных элемэнтаў у савецкім апараце, на барацьбу з выкрыўленьнем клясавае пралетарскае лініі, парушэньнем рэвалюцыйнае законнасьці. Неабходна рашуча перамагчы боязкасьць ад самакрытыкі, што ёсьць яшчэ ў некаторых работнікаў савецкага апарату“.

*Сярод батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі, як і ў горадзе, зрабіць самакрытыку „лёзунгам масавага дзейнічаньня, баявым лёзунгам“, дапамагаючы партыі яшчэ больш актывізаваць батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы вёскі, яшчэ больш арганізоўваць іх навакол партыі і саветаў, уцягваць гэтыя масы ў барацьбу са злоўжываньнямі і выкрыўленьнямі клясавае лініі партыі на вёсцы і тым забясьпечыць неаслабны тэмп сацыялістычнага будаўніцтва вёскі.*

---

І. Дорахаў

# Аб пастаноўцы партыйна-масавае і культурна-асьветнае работы ў калгасах і савгасах

„Ніводнае мерапрыемства ўраду ня будзе так спрыяць узмацненьню калектывізацыі, як посьпехі самое калектывізацыі. Чымся культурней будуць калгасы ў сваёй масе, чым больш прадукцыйна яны будуць працаваць, тым глыбей яны будуць прабівацца ў сялянскую гушчу. Сялянства ня пойдзе ў калгасы, калі ў калгасах будзе мала вытворчае эфэктыўнасьці, калі ў калгасах сялянства ня будзе бачыць вышэйшую ступень ня толькі гаспадараньня, але і культурнасьці“. (М. І. Калінін на Усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў).

Пры сучаснай стадыі разьвіцьця савгаснага і калгаснага будаўніцтва асабліва важнае значэньне набывае пастаноўка на належную вышыню партыйна-масавае і культурна-асьветнае работы ў савгасах і калгасах. Бяз узьняцьця культурнага ўзроўню, бяз узьняцьця грамадзкае актыўнасьці рабочых савгасаў і членаў калгасаў нельга разьлічваць на пасьпяховае разьвіцьцё савгаснага і калгаснага будаўніцтва.

У гаспадарчых адносінах нашы савгасы і калгасы за апошнія два гады маюць шэраг дасягненьняў. 1927-28 гаспадарчы год зьявіўся пераломным у сэнсе стабілізацыі і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня існуючае сеткі калгасаў. Зьменшылася цякучасьць складу іх насельніцтва, ёсьць некаторае разьвіцьцё інтэнсіўных форм вядзеньня гаспадаркі, частковы ўзрост аграмаджаньня аб'ектаў гаспадаркі і г. д. У адносінах савгасаў мы маем спыненьне росту дэфіцытнасьці, паступовы выхад з яе, некаторае падвышэньне ўраджайнасьці і рост агрыкультурнага ўзьдзяйсьненьня на сялянскія гаспадаркі. Маецца таксама значнае ўзмацненьне цягі сялянства да калектыўных формаў гаспадаркі. За час з XV партзьезду па БССР арганізавана 388 новых калгасаў, з іх 52,3 проц. на надзельных сялянскіх землях.

Але як размах калгаснага руху, так і канкрэтныя дасягненьні ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасау і савгасаў зьяўляюцца далёка невыстарчальнымі. Побач з прычынамі арганізацыйнага характару—наяўнасьць вельмі дробных калгасаў, нізкая тэхніка працы, слабасьць арганізацыйнага кіраўніцтва і г. д.—*вельмі буйнай перашкодай для разгортваньня калгаснага руху зьяўляецца нізкі культурны ўзровень насельніцтва калгасаў, слабасьць партработы, неналаджанасьць культурна-масавае работы ў іх.*

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб партмасавай рабоце ў калгасах і савгасах адзначыў: „надзвычайна слабае выкананьне дырэктыў партыі па ўзмацненьню партработы ў савгасах і калгасах: вельмі марудна ідзе рост ячэек за кошт уцягненьня ў партыю рабочых савгасаў і членаў калгасаў, не наладжана работа з беспартыйным актывам, кам-

самольская і прафэсыянальная работа ў большасьці калгасаў пастаўлена дрэнна, адсутнічае работа па выхаваньню новых кадраў работнікаў-кіраўнікоў савгасаў і калгасаў, вельмі слаба пастаўлена культурна-асьветная работа“. Гэта характарыстыка зусім адпавядае сапраўднаму стану партмасавае работы ў калгасах і савгасах.

## Сетка ячэек і партпраслойка

*На 804 калгасы мы маем усяго толькі 15 калгасных ячэек.* Райкомы часта не скарыстоўваюць магчымасьцяй, якія маюцца, для арганізацыі ячэек у калгасах. Напрыклад, у камуне імя Леніна і камуне „Чырвоная Зара“, Полацкае акругі, маецца: у першай 3 члены і 2 кандыдаты, у другой—2 члены партыі і 1 кандыдат; абедзьве камуны знаходзяцца на адлегласьці 1 вярсты адна ад другой. У наяўнасьці ўсе даныя для арганізацыі ячэйкі, а між тым яна тут не арганізавана. Не скарыстаны ў шмат якіх выпадках магчымасьці арганізацыі кандыдацкіх груп у калгасах і савгасах, не практыкуюць таксама вылучэньне партарганізатараў пры наяўнасьці ў калгасе ці савгасе адзінкі-партыйца. Наогул, вясковымі арганізацыямі не ўсьвядомлена канечная патрэбнасьць ператварэньня калгасаў і савгасаў у культурна-палітычныя цэнтры вёскі.

Рэзка кідаецца ў вочы *вельмі тонкая праслойка камуністых і камсамольцаў* у калгасах. З 3.423 камуністых, якія заняты ў сельскай гаспадарцы (па БССР), знаходзяцца ў калгасах усяго 293 чалавекі—8,8 проц. У складзе насельніцтва калгасаў камуністы складаюць: у камунах—9,9 проц., арцелях—1,3 проц., таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі—0,3 проц. За апошнія паўтары гады ўцягнута ў калгасы ўсяго 158 камуністых. Ня лепш абстаіць справа з камсамольцамі, якіх налічваецца: у камунах—3,7 проц., арцелях—4,3 проц., таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі—0,5 проц. У савгасах налічваецца камуністаў—353 чал., КСМ—286 чал. на 3.273 штатных рабочых, 296 сэзонных і 2.610 падзённых.

Гэтыя лічбы гавораць аб няўважлівых адносінах мяйсцовых парторганізацый да пытаньня ўкамплектаваньня калгасаў партыйнымі сіламі, гавораць і аб тым, што сярод вясковых камуністаў яшчэ ня створана належнага настрою вакол справы калектывізацыі, што цяга вясковых партыйцаў у калгасы вельмі слабая, што сельпартячэйкі займаюцца пераважна размовамі аб калектывізацыі і не падыйшлі яшчэ шчыльна да канкрэтнага ажыцьцяўленьня гэтае задачы. Трэба, наогул, канстатаваць, што *работа па калектывізацыі гаспадарак камуністаў-сялян разгорнута вельмі слаба.*

Значная большасьць камуністаў-сялян разумеюць патрэбнасьць і важнасьць калектывізацыі. Ёсьць нямала прыкладаў энэргічнае работы камуністаў у галіне калектывізацыі. Значная частка новых калгасаў арганізавана па ініцыятыве партыйцаў. Але побач з гэтым мы маем поўна выпадкаў, калі работа камуніста па арганізацыі калгасу зрываецца з прычыны недахопу практыкі ў партыйца і адсутнасьці дапамогі з боку ячэйкі і РК. Пры абсьледваньні работы камуністаў-сялян, 83 проц. усіх партыйцаў на пытаньне, якую дапамогу атрымліваюць яны ад ячэйкі ў пытаньнях паляпшэньня і калектывізацыі гаспадаркі, адказалі: „ніякае“. Акром таго ёсьць значная група партыйцаў-сялян, якія не зацікаўлены вядзеньнем сельскае гаспадаркі і якія імкнуцца пайсьці ў горад ці атрымаць службу. Гэта група ў асноўным зусім пасыўная ў пытаньнях калектывізацыі. Маюцца выпадкі выхаду пар-

тыйцаў і камсамольцаў з калгасаў, а таксама нярэдкія выпадкі адкліканьня камуніста райкомам з калгасу.

У выніку слабасьці, ці адсутнасьці канкрэтнае работы ячэек у галіне калектывізацыі, у выніку нявопытнасьці паасобных партыйцаў у практычных пытаньнях калгаснага будаўніцтва, няўменьне іх практычна падыйсьці да справы, наглядаецца такое становішча, што, агітуючы за калектывізацыю, даводзячы „наогул" выгаднасьць калектыўнае гаспадаркі, вясковыя камуністы самі ў калгасы ня ідуць, не падаюць асабістага прыкладу сялянству.

Апрача таго, што партпраслойка ў калгасах надзвычайна слабая і расьце за кошт прыцёку партыйцаў знадворку, яна вельмі марудна павялічваецца і за кошт арганічнага росту, за кошт уцягненьня ў партыю членаў калгасаў і рабочых савгасаў. *Асобна работы па ўцягненьні ў партыю ячэйкі амаль не вядуць.* Нават кастрычнікавы заклік даў вельмі нязначныя вынікі. Так, па Віцебскай акрузе прынята па кастрычнікаваму заклiку 11 рабочых з савгасаў, па Полацкай—3, па Бабруйскай—13.

### Зьмест работы ячэек

Якасьць работы партячэек у калгасах і савгасах нельга прызнаць здавальняючай. Колькасна невялікія, яны маюць слабы, малы актыў і, што асабліва дрэнна, даволі нізкі ўзровень сакратароў ячэек. *Ячэйкі ў далёка невыстарчальнай ступені ажыцьцяўляюць сваё ўзьдзейнічаньне на бытавое жыцьцё калгасаў і савгасаў.* Такія важныя пытаньні, як пытаньне аб узьняцьці прадукцыйнасьці працы, вытворчым выхаваньні рабочых, узьняцьце вытворчае кваліфікацыі партыйцаў, арганізацыя збыту,—знаходзяць сабе слабое адбіцьцё ў рабоце ячэек. Парадак дню сходаў ячэек перагружаецца агульнапалітычнымі пытаньнямі. Так, партячэйка савгасу „Фаніполь", Менскае акругі, за паўтара гады абгаварыла ўсяго толькі 5 пытаньняў, якія тычыліся работы ў савгасе. Уся ячэйка ў цэлым слаба ўцягваецца ў абгаварэньне паасобных пытаньняў гаспадарчага жыцьця савгасу. Нават такое надзвычайна важнае пытаньне, як аб пераходзе на зьдзельшчыну, было пастаўлена на абгаварэньне рабочых без папярэдняе прапрацоўкі яго на бюро і агульным сходзе ячэйкі. Тое-ж самае—у ячэйцы савгасу „Варонічы", Полацкае акругі. Таварыш, які абглядаў гэтую ячэйку, піша: „уплыў партячэйкі на гаспадарчае жыцьцё савгасу слабы. За ўвесь час ячэйка разгледзела толькі адно пытаньне гаспадарчага характару—аб пляне пасеўкампаніі. Слаба таксама ажыцьцяўляецца ўплыў на гаспадарку і праз вытворчыя нарады, якія зьбіраліся толькі два разы".

Дрэнна наведваюцца партдні беспартыйнымі рабочымі савгасаў і калгасаў. Ніякіх мерапрыёмстваў па ўцягненьню беспартыйных на партдні ячэйкі не праводзяць: беспартыйныя дрэнна паведамляюцца аб партднёх, падбор пытаньняў няўдалы. Характэрным прыкладам дрэннае пастаноўкі работы можа служыць ячэйка камуны „Чырвоны Сьцяг", Менскае акругі. У складзе камуны 37 чалавек, з іх 10 камуністых і 7 камсамольцаў. Умовы для гаспадарчага ўмацаваньня камуны добрыя. Пры наяўнасьці добрага кіраўніцтва гэтую камуну лёгка можна было зрабіць узорнай калектыўнай гаспадаркай. А між тым, камуна ўвесь час хварэе і пагаспадарску ня можа стаць на ногі. Асноўнай прычынай зьяўляецца—дрэнны стан ячэйкі. Члены ячэйкі ўвесь час сварацца паміж сабой, на агульных сходах камуны выступаюць супроць пастаноў, якія ўхвалены ячэйкай, падседжваюць адзін

аднаго. А беспартыйныя кажуць:—„Дзе ўжо нам, беспартыйным, дружна жыць, калі камуністыя так грызуцца—ад каго нам вучыцца“.

Але калі ў тых савгасах і калгасах, дзе ёсьць партячэйкі, усё-ж вядзецца, хоць і дрэнна, палітычная работа, дык зусім ня добра абстаіць справа з партработай у калгасах і савгасах, якія абслугоўваюцца бліжэйшай сельскай партячэйкай. Напрыклад, камуна „Свабода“, Віцебскае акругі, абслугоўваецца Старасельскай ячэйкай, якая знаходзіцца за 3 вярсты ад камуны; арцель „Спартак“, Полацкае акругі, знаходзіцца за 3 вярсты ад Дрысенскай ячэйкі. У працягу двух год гэтыя ячэйкі не абгаварвалі ніводнага пытаньня, зьвязанага з работаю ў гэтых калгасах. А вось яшчэ некалькі прыкладаў з матар'ялаў абсьледваньня: „калгасам „Правільны Шлях“, Дрысенскага райёну, Полацкае акругі, няма ніякага кіраўніцтва з боку мяйсцовай партячэйкі, ячэйка ня цікавілася работай калектыву. Ёсьць у калгасе 4 кандыдаты, але іх уплыў на беспартыйных зусім не адчуваецца. Кіраўніцтва з боку РК таксама не адчуваецца“. А між тым, гэты калгас мае вялізарнае палітычнае значэньне, бо ён знаходзіцца на самай мяжы з Польшчай, супроць польскага мястэчка. У гэтай арцелі быў характэрны выпадак: калі калектывісты працавалі на полі, да граніцы падыйшла былая памешчыца—уласьніца маёнтку, у якім знаходзіцца калектыў, і пачала лаяць калектывістаў, кажучы: „будзеце ведаць, камуністыя, пачакайце, хутка мы прыдзем, тады вам скуру зьдзярэм за нашае дабро“.

Не ўважаючы на тое, што арцель „Згода“, Лепельскага раёну, знаходзіцца за 1½ вярсты ад партячэйкі, ячэйка ня цікавілася арцельлю, за час існаваньня ячэйкі ніхто з ячэйкі і сельсавету ў ёй ня быў, прадстаўнікі РК таксама былі вельмі рэдка. За 2 гады ў арцелі ня было ніводнага сходу на палітычную тэму.

Члены с.-г. арцелі „Жэзьліна“, Полацкае акругі, заявілі, што яны ня ведаюць, дзе знаходзіцца бліжэйшая партячэйка.

З прычыны неналаджанасьці партвыхаваўчае работы ў калгасах, сярод часткі камуністых-калгасьнікаў наглядаюцца пэсымістычныя настроі, няўпэўненасьць у магчымасьці перамагчы гаспадарчыя цяжкасьці, няўхільныя ў стадыі разьвіцьця калгасу, жаданьне выйсьці з калгасу. Такое становішча маецца ў камуне „Чырвоная Зара“, Полацкае акругі, ня гледзячы на тое, што камуна складаецца цалкам з камуністаў (акром аднаго беспартыйнага).

## Камсамольская работа

Камсамольская работа ў большасьці савгасаў і калгасаў таксама пастаўлена дрэнна. Уплыў камсамольскіх ячэек як на гаспадарчае жыцьцё, так і на беспартыйную моладзь слаба адчуваўся. Вельмі дрэнна наладжана кіраўніцтва камсамольскімі ячэйкамі як з боку партячэйкі, так і райкомаў КСМ. Шмат якія партячэйкі аж праз цэлы год ня ставяць, не абгаварваюць пытаньняў камсамольскае работы, партпрымацаваныя ставяцца да сваёй работы фармальна. Напрыклад, у камсамольскай ячэйцы савгасу „Фаніполь“ праводзіцца перавыбарчы сход, а бюро партячэйкі нават ня ведае аб ім і не абгаварвала пытаньня аб тым, каго абіраць сакратаром у бюро камсамольскай ячэйкі. Склад сакратароў камсамольскіх ячэек слабы. У выніку ўсяго гэтага, нярэдкія выпадкі развальваньня камсамольскіх ячэек у савгасах і калгасах, вельмі слабы рост іх за кошт саўгаснае моладзі, адсутнічае работа па падрыхтоўцы камсамольцаў да перадачы ў партыю—адсюль

вельмі павольны рост за кошт камсамольцаў. Камсамольскія ячэйкі займаюцца, галоўным чынам, пытаньнямі ўнутрыпартыйнага жыцьця, сярод беспартыйнай моладзі работа амаль адсутнічае, камсамольцы вельмі слаба ўцягнуты ў работу вытворчых нарад.

## Работа сярод жанчын

У калгасах работа сярод жанчын амаль зусім не вядзецца, у саўгасах-жа яна пастаўлена вельмі слаба. Рэдка дзе створаны дзіцячыя ўстановы (ясьлі, пляцоўкі). Ня гледзячы на наяўнасьць вельмі вялікага процанту няпісьменных жанчын, ліквідацыя няпісьменнасьці сярод іх праводзіцца слаба. Ні ў адным з абсьледваных калгасаў ня знойдзена дэлегацкага сходу ці дэлегацкага пункту. Жаночыя куткі, гурткі для жанчын і іншыя формы масавае работы сярод жанчын адсутнічаюць. Для характарыстыкі адносін ячэек да жанработы можна падаць такі прыклад: у саўгасе „Варонічы“ быў арганізаваны жаночы гурток, да якога быў прымацаваны партыец, але апошні не кіраваў гуртком, а быў рэгістратарам наведваньня гуртку. Кіравала-ж гуртком беспартыйная акушэрка. У выніку—ніводнага палітычнага пытаньня ў гуртку не разьбіралася. У ячэйцы даклад аб рабоце гуртку ня ставіўся.

У арцелі „Равенство“, Бабруйскае акругі, ніводнага разу ня было жаночых сходаў, гутарак з жанчынамі ніхто не праводзіў, у добраахвотных таварыствах няма ніводнае жанчыны.

У саўгасе „Забалаць“, Бабруйскае акругі, ніводнага разу не праводзілася ні сходу, ні гутаркі ці чытаньня сярод жанчын.

У арцелі „Згода“, Полацкае акругі, жанработа не вядзецца. Райжанарганізатар быў у арцелі ў 1926 г. і з таго часу больш не зьяўляўся.

Усё-ж у саўгасах якая кольвек работа праводзіцца. Вось, напрыклад, весткі аб жанрабоце ў саўгасе „Чырвоная Зорка“, Бабруйскае акругі: у саўгасе—22 дэлегаткі. За зіму праведзена пяць заняткаў па праграме, 10 жанчын ліквідавалі сваю няпісьменнасьць, працуе гурток кройкі і шыцьця, арганізуюцца дзіцячыя ясьлі на 35 дзяцей. Такое становішча можна адзначыць па некалькіх іншых саўгасах.

Але затое *ні ў водным калгасе ніякіх адзнакаў жанработы ня выяўлена.* Райжанарганізатары ні ў калгасах, ні ў саўгасах амаль зусім ня бываюць. З прычыны адсутнасьці выхаваўчае работы сярод жанчын, у калгасах наглядаецца шэраг хваравітых зьявішч бытавога характару, як, напрыклад: сваркі, плёткі, рэлігійнасьць, бруд у хатнім быту, процідзеяньне аграмаджаньню аб'ектаў гаспадаркі і г. д.

## Прафработа ў саўгасах

Нездавальняюча таксама пастаўлена і прафработа ў саўгасах: агульныя сходы рабочых праводзяцца нерэгулярна, падбор пытаньняў на іх пераважна няўдалы, вытворчыя нарады арганізаваны ня ўсюды, а дзе арганізаваны—праводзяцца рэдка, удзел на іх рабочых невыстарчальны.

Так, у саўгасе „Чырвоная Зорка“, Бабруйскае акругі, за 1927 год праведзена ўсяго 4 сходы рабочых. У рабоце рабачкому—нярухомасьць. Маса рабочых у гаспадарчае жыцьцё і работу прафсаюзу слаба ўцягнута. Камісіі рабачкому працавалі слаба. За зіму былі дзьве вытворчыя нарады, на аднэй заслухалі даклад рэвізора, а ад другой нарады ніякіх сьлядоў не засталося.

У савгасе „Шыпяны“, Менскай акругі, старшыня рабачкому вельмі слабы, з работай зусім не спраўляецца. На агульным сходзе рабочых было пастаноўлена: „работу рабачкому прызнаць слабай з прычыны таго, што яны малапісьменныя“... На другім сходзе пастанавілі: „усяму складу рабачкому паставіць на від на нядбайныя адносіны да саюзных абавязкаў“. Склад старшынь рабачкомаў слабы ва ўсіх абсьледваных савгасах. У савгасе „Чырвоная Зорка“ старшыня рабачкому зьмяняўся ў 1928 г. тры разы. Прысланы райкомам працаўнік канчаткова разваліў работу, сябе не апраўдаў.

У савгасе „Крывое“, Аршанскае акругі, ня было ніводнай вытворчай нарады, у савгасе „Бабынічы“, тэй самай акругі, праведзены дзьве вытворчых нарады без усялякіх практычных вынікаў. Там, дзе вытворчыя нарады склікаюцца, іх пастановы вельмі слаба ажыцьцяўляюцца, адсюль занепад цікавасьці рабочых да вытворчых нарад.

Трэба адзначыць слабое кіраўніцтва рабачкомамі з боку РК саюзу рабземлесу.

## Культмасавая работа

У некалькіх калгасах і савгасах можна адзначыць шэраг дасягненьняў у пастаноўцы культмасавае работы. Так, напрыклад, у с.-г. арцелі „Новае жыцьцё“, Менскае акругі, узімку рэгулярна праводзіцца культдзень. Прыяжджаюць часта дакладчыкі з раёну, у іншыя дні праводзяцца групавыя гутаркі і чытаньне газэт. Выпісваецца 20 экз. газэт. Ёсьць бібліятэчка-перасоўка. Работалі палітгурток і вайсковы гурток. Два разы наладжвалі спэктаклі. Ёсьць ячэйка ТПН, сіламі якой ліквідавана няпісьменнасьць 21 чалавека з бліжэйшых сялян. Вялікая культмасавая работа праводзіцца членамі арцелі „Камсамольская воля“, Менскае акругі. Арганізаваны чырвоны куток з добра падабранай бібліятэчкай. Акрамя таго, у саміх арцельшчыкаў ёсьць добрая бібліятэчка. Узімку працаваў лікпункт, сельгасгурток правёў 15 заняткаў і складае 22 члены, палітгурток—10 чалавек, вайсковы гурток—28 чал., драмгурток паставіў 15 спэктакляў.

Але падобныя савгасы і калгасы зьяўляюцца выключэньнем. У вялізнай большасьці ў савгасах і калгасах культмасавая работа зусім не наладжана. Культурны ўзровень насельніцтва савгасаў і калгасаў нізкі, ёсьць значны процант няпісьменных і малапісьменных. Між тым, ліквідацыя малапісьменнасьці ажыцьцяўляецца слаба; у шэрагу савгасаў дзіцячыя школы знаходзяцца ў няпрыгодных памяшканьнях, дрэнна абсталяваны. Чырвоныя куткі і клюбы надзвычайна дрэнна прыстасаваны для работы. Падбор бібліятэчак дрэнны, а ў шэрагу аб'яднаньняў чырвоныя куткі і бібліятэчкі зусім адсутнічаюць. Раённымі палітасьветустановамі савгасы і калгасы амаль зусім не абслугоўваюцца. Так, у савгасе „Шыпяны“ ёсьць нядрэнныя ўмовы для пастаноўкі культмасавае работы: добрае памяшканьне для клюбу-чытальні, наяўнасьць партыйцаў, камсамольцаў і настаўніка. Вялікая праслойка моладзі. Але гэтыя ўмовы амаль зусім не скарыстоўваюцца. Лікпунк адчыніўся вельмі позна, ня было падручнікаў, работа праходзіла надзвычайна дрэнна. Выпуску з лікпункту ня было. Клюб-чытальня вельмі дрэнна абсталяваны, чытаньне газэт і кніг дрэннае. Насьценгазэта не выдаецца. Радыё-прыёмнік папсаваны.

У савгасе „Фаніполь“ школа знаходзіцца ў абсалютна няпрыгодным памяшканьні, сырым, халодным. Дзеці хварэюць на раматуз, настаўніца—на сухоты. У школе няма падвойных рам, печ не папраўлена, няма наглядных падручнікаў. На рамонт патрабуецца 50—60 руб., але дастаць іх настаўніца ніяк ня можа.

У камуне „Зорка“, Менскае акругі, акром пастаноўкі некалькіх спэктакляў за зімовы час, ніякае культурнае работы не вядзецца. Бібліятэчкі няма, газэты ня выпісваюцца. У арцелі „Надзея“, Бабруйскае акругі, быў створаны лікпункт, але ён паіснаваў толькі адзін дзень (!) і разваліўся. У с.-г. арцелі „Равенство“, Рагачоўскага райёну, адлічаныя на культпатрэбы 35 руб. не скарыстаны. Па ліквідацыі няпісьменнасьці за апошнія два гады ні РК, ні ячэйка, ні самі арцелі нічога не зрабілі. Чырвонага кутку і бібліятэкі няма. Няма таксама ні гурткоў, ні насьценгазэты.

Ні ў водным з калгасаў Парыцкага райёну, Бабруйскае акругі няма клюбаў ці чырвонага кутку.

У савгасе „Забалоць“ работа па ліквідацыі няпісьменнасьці не праводзілася, чырвоны куток быў, але цяпер заняты пад кватэру. Зімою ў савгасе ўсё-ж праводзілася даволі ажыўленая масавая работа.

У савгасе „Чырвоная Зорка“ з 30 дзяцей школьнага ўзросту наведваюць школу толькі 9 чалавек. Да 1926 году ў савгасе была школа, але РВК яе закрыў. Колькасць дзяцей у савгасе і бліжэйшых пасёлках выстарчальная для таго, каб адчыніць школу. Як і ў шэрагу іншых галін работы, культмасавая работа лепш пастаўлена ў савгасах. У калектывах-жа, як правіла, культмасавая работа амаль зусім не праводзіцца.

## Арганізацыя быту

Слабасьць, а мейсцам поўная адсутнасьць культурна-выхаваўчае работы прыводзіць да неналаджанасьці ўнутраных узаемаадносін паміж членамі калгасаў, да хваравітых зьявішчаў бытавога характару і нездаровых настрояў сярод часткі рабочых і калгасьнікаў. Усё гэта нярэдка прыводзіць да развалу калгасу.

У паасобных савгасах і калгасах усё-ж можна адзначыць паросткі новага быту, што выяўляецца ў невыкананьні рэлігійных абрадаў некаторымі рабочымі і калгасьнікамі (у савгасе „Пачэевічы“, Віцебскае акругі, 8 дзяцей ня хрысьцілі ў папа; камуна Леніна, Полацкае акругі, у вялікдзень рабіла палявыя працы). Але ўсё-ж рэлігійныя настрої яшчэ моцны, а тым больш што ніякае антырэлігійнае прапаганды ў савгасах і калгасах не праводзіцца. У камуне „Чырвоны Барацьбіт“, Віцебскае акругі шалёным сабакам была ўкушана карова, камунары наладзілі дэлегацыю і з хлебам-сольлю накіраваліся да знахара, каб ён „налечыў хлеб“ і выратаваў карову ад шалёнства, а ў арцелі „Равенства“, Бабруйскае акругі было праведзена „самаабкладаньне“ на ўтрыманьне папа па 5 ф. хлеба з душы, у ліку плацельшчыкаў была сям‘я аднаго партыйца. У шмат якіх савгасах і калгасах наглядаецца п‘янства. У арцелі „Жэзьлена“, Полацкае акругі, ёсьць такі выпадак: члены арцелі езьдзілі ў Полацак па справах арцелі і падалі рахунак за выпіўку, які быў аплочаны.

Да ліку другіх бытавых скажэньняў належаць плёткі, сваркі па дробязных пытаньнях, якія звычайна пачынаюцца сярод жанчын. На глебе неправільнае арганізацыі працы ёсьць нездавальненьне адзін адным сярод членаў калгасаў. Мерапрыёмствы па бытавым вызваленьні жанчын (грамадзкае харчаваньне, пральня, дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі) ня маюць распаўсюджаньня ў савгасах і калгасах.

## У чым асноўная прычына ўсіх недахопаў

Асноўных прычын нездавальняючага становішча партмасавае работы ў калгасах і савгасах дзьве: 1) слабасьць жывога практычнага кіраў-

ніцтва і дапамогі акруговых і раённых партарганізацый і сельпартячэек і 2) недаразуменьне і недаацэнка ячэйкамі ўсяе важнасьці работы ў калгасах і савгасах, а ў шмат якіх выпадках адсутнасьць у ячэек вопыту гэтае работы.

Райкомы ня вылучылі задачу кіраўніцтва работай у калгасах і савгасах як асабліва-важную, першачарговую задачу. Кіраўніцтва калгаскімі і савгаскімі ячэйкамі пастаўлена вельмі дрэнна. А самі ячэйкі ў большасьці слабыя, ня маюць вопыту калгаснага будаўніцтва і, без належнае дапамогі з боку РК вялікая частка іх ня можа справіцца з задачаю ажыцьцяўленьня парткіраўніцтва савгасам ці калгасам.

Таму *першачарговай задачай акруговых і раённых партарганізацый зьяўляецца задача максымальнага ўзмацненьня кіраўніцтва ячэйкамі калгасаў і савгасаў і тымі сельпартячэйкамі, якія абслугоўваюць гэтыя аб'яднаньні.* Васеньні пэрыяд (у прыватнасьці кампанія перавыбараў у ячэйках) павінен быць скарыстаны для праверкі работы ячэек пад кутом гледжаньня выяўленьня іх удзелу ў пастаноўцы партмасавае работы ў калгасах і савгасах. Гэтая праверка павінна суправоджвацца інструктаваньнем ячэек па масавай рабоце. АК і РК павінны вылучыць для гэтае справы лепшыя кадры работнікаў, якія ўмелі-б ня толькі праверыць работу, але, галоўным чынам, *дапамагчы* ячэйкам наладзіць паасобныя галіны партмасавай работы. Выезды ў ячэйкі, таму, павінны быць больш доўгімі (5—7 дзён).

Вялікае значэньне мае *задача пашырэньня сеткі партячэек* у калгасах і савгасах. Якім чынам гэтая задача можа быць вырашана? Папершае, шляхам больш правільнага разьмеркаваньня партыйцаў па ячэйках, падругое, за лік узмацненьня прыцёку новых членаў з ліку рабочых савгасаў і членаў калгасаў. Ёсьць шмат выпадкаў, калі 2—3 партыйцы з калгасаў прымацоўваюцца да бліжэйшай сельячэйкі, замест таго, каб арганізаваць ячэйку ў самым калгасе. Трэба пераглядзець склад сельячэек з пункту гледжаньня выяўленьня магчымасьці адмацаваньня партыйцаў калгасьнікаў і рабочых савгасу ад сельячэек і стварэньня з іх ячэек у калгасах і савгасах. Нават пры наяўнасьці ў калгасе 2—3 партыйцаў мэтазгодна арганізаваць калгасную ячэйку, прымацаваўшы да яе некалькі сельскіх камуністых. У шмат якіх калгасах і савгасах могуць быць арганізаваны кандыдацкія групы. Пры надыходзячых перавыбарах ячэек, трэба аформіць кандыдацкія групы ва ўсіх калгасах і савгасах, дзе маецца некалькі кандыдатаў партыі. Пры наяўнасьці ў калгасе-савгасе аднаго члена партыі яго трэба вылучыць партарганізатарам (на аснове палажэньня аб сельпарторгах), пашырыўшы сетку ячэек і кандыдацкіх груп, стварыўшы інстытут партарганізатараў у калгасах і савгасах, мы павялічым гэтым лік апорных пунктаў партработы ў калгасах і савгасах. *Задачы пашырэньня сеткі партячэек цесна пераплятаюцца з задачай узмацненьня партыйнае праслойкі ў савгасах і калгасах.*

Спосабаў узмацненьня партпраслойкі два: 1) узмацненьне работы па ўцягненьню ў партыю рабочых савгасаў і лепшых членаў калгасаў і 2) пераразьмеркаваньне партыйцаў унутры вясковых арганізацый на карысьць калгасаў. У штодзённым кіраўніцтве ячэйкамі калгасаў і савгасаў райкомы павінны падвойную ўвагу зьвярнуць на дапамогу ім у наладжваньні работы па ўцягненьню ў партыю рабочых савгасаў і калгасаў. У першую чаргу трэба разгарнуць усе формы работы з беспартыйным актывам, наладзіць індывідуальна-групавую агітацыю. Трэба зьвярнуць больш увагі на пастаноўку партвыхаваньня ў камсамольскіх ячэйках, узмацніўшы прыцёк у партыю за кошт камсамольцаў. Лепшая арганізацыя партдзён, падбор гаспадарча-бытавых пытань-

няў на іх, прыцягненьне беспартыйных на партдні, больш шырокае ўцягненьне беспартыйных у работу грамадзкіх арганізацый, пастаноўка індывідуальна-групавое агітацыі, уцягненьне беспартыйных у політшколы і палітгурткі,—вось тыя важнейшыя мерапрыёмствы, якія павінны быць праведзены для ўзмацненьня прыцёку ў партыю.

Але гэтым яшчэ ня вычэрпваецца задача ўзмацненьня партыйнае праслойкі ў калгасах. Райкомы і сельпарторгі павінны думаць аб тым, *каб перасунуць частку камуністаў, якія вядуць індывідуальную гаспадарку,—у калгасы.* Трэба стварыць у вясковых партарганізацыях актыўную грамадзка-партыйную думку, якая штурхала-б вясковых камуністых на шлях уваходжаньня ў калгасы. З гэтай мэтай трэба ўзмацніць растлумачальную работу па пытаньнях калгаснага будаўніцтва, перш за ўсё сярод саміх камуністых і камсамольцаў. У партыйных і камсамольскіх ячэйках арганізаваць дакладную прапрацоўку пастаноў 15 партзьезду па рабоце ў вёсцы, дырэктыў партыі па калгасным руху *дамагацца падвышэньня калгаснае пісьменнасьці партыйцаў* і камсамольцаў, шляхам: арганізацыі ў раённых цэнтрах кароткатэрміновых курсаў па пытаньнях калектывізацыі, арганізацыі гурткоў і груп для вывучэньня розных форм калектывізацыі, вывучэньня статутаў, прынцыпаў і тэхнікі арганізацыі калгасаў, даваць індывідуальныя заданьні паасобным партыйцам па вывучэнью асобных пытаньняў калгаснага будаўніцтва. Сельячэйкам трэба рэкамэндаваць калектыўную выпіску часопісі „Коллективист“. На партднёх трэба ставіць больш часта практычныя пытаньні калгаснага будаўніцтва (даклады партыйцаў, якія працуюць у калгасах, аб практыцы іх работы па арганізацыі і ўмацаваньню калгасу, у прычынах слабага ўцягненьня камуністых у калектывы, даклады партыйцаў, якія ўжо вядуць работу па арганізацыі новых калгасаў, і г. д.).

*Трэба пашырыць практыку склікаvньня раённых і куставых (дробнараённых) вытворчых нарад партыйцаў* і камсамольцаў-гаспадароў, дакладна падрыхтоўваючы іх і забясьпечваючы агранамічным абслугоўваньнем. Зьнішчыць недахваты ў рабоце гэтых нарад, як, напрыклад: пастаноўка вельмі агульных, неканкрэтных пытаньняў, ухваленьне абстрактных, неканкрэтных пастаноў, адсутнасьць праверкі выкананьня гэтых пастаноў і г. д. Вытворчыя нарады камуністых і камсамольцаў павінны стаць інстытутам падрыхтоўкі арганізатараў і прапагандыстых будаўніцтва.

Акром таго, трэба практыкаваць правядзеньне ў раёным маштабе нарад савгаскіх і калгаскіх ячэек і камуністых-адзінак, якія працуюць у калгасах спэцыяльна па пытаньнях арганізацыйна-гаспадарчае і партыйна-масавае работы ў калгасах і савгасах. Віцебскі акругком правёў такія нарады ў акруговым маштабе і яны далі станоўчыя вынікі.

Усе пералічаныя мерапрыёмствы будуць спрыяць замацаваньню партыйцаў у калгасах, узмацненьню іх кіруючае ролі і ўзмацненьню партыйнае праслойкі ў калгасах.

*Вялічэзнае значэньне мае задача выхаваньня новых кадроў працаўнікоў—кіраўнікоў буйное сацыялістычнае гаспадаркі ў вёсцы.* Недахват умелых, вопытных кіраўнікоў рэзка дае сябе адчуваць і ў калгасах і ў савгасах. Райкомы КП(б)Б павінны правесьці адпаведную перасоўку партыйцаў з іншых вучасткаў работы на работу ў калгасы і савгасы. Работніка сельсавету, П. О., Райземаддзелу лягчэй падрыхтаваць, чым старшыню камуны, арцелі ці кіраўніка савгасу. Таму, будзе правільна, калі некаторых, лепшых работнікаў сельсавету, спажыўкаапэрацыі ці РВК перавесьці на работу ў калгасы і савгасы. Але

гэтым абмежавацца нельга. Галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на выхаваньне кіраўнікоў з асяродзішча камуністаў, што працуюць у савгасах і калгасах. Раней за ўсё трэба наладзіць работу па падвышэньню вытворчае кваліфікацыі гэтых партыйцаў шляхам: арганізацыі спэцыяльных курсаў (у акруговым і рэспубліканскім маштабе), скліканьня нарад па гаспадарчых пытаньнях у райённым маштабе, наладжаньня самаадукацыі па паасобных галінах і відах гаспадаркі, выяўленьню найбольш здольных рабочых для падрыхтоўкі і вылучэньня іх на кіруючую работу.

Дрэнная *пастаноўка камсамольскае работы* ў калгасах і савгасах патрабуе максімальнага ўзмацненьня кіраўніцтва гэтым надзвычайна важным вучасткам работы з боку партыйных і камсамольскіх арганізацый. У першую чаргу павінен быць умацаваны склад сакратароў камсамольскіх ячэек, трэба ўзмацніць падрыхтоўку і вылучэньне на сакратарскую работу камсамольцаў рабочых савгасаў. У парткіраўніцтве камсамольскімі ячэйкамі цэнтр цяжару трэба згуртаваць на вытворчым выхаваньні і ўзьняцьці вытворчае кваліфікацыі моладзі: дамагчыся пагалоўнага і актыўнага ўдзелу камсамольцаў у вытворчых нарадах, уцягненьня ў с.-г. і вытворчыя гурткі і г. д. Узмацніць работу па ўцягненьню ў камсамол моладзі савгасаў і батрацтва з бліжэйшых вёсак. АК і РК КСМ пры актыўным удзеле партыйных ячэек павінны зараз-жа ўжыць меры па ўмацаваньню камсамольскае работы у калгасах і савгасах: пасылка моцных работнікаў з акруг і райёнаў на тыдзень-паўтары ў калгасы і савгасы для наладжваньня камсамольскае работы, для інструктаваньня, пашырэньня сеткі ячэек, падбор сакратароў, уцягненьне камсамольцаў-сялян у калгасы і г. д.

У галіне *прафработы* ў савгасах упор павінен быць зроблены на разгортваньне самакрытыкі і самадзейнасьці рабочых, на больш шырокае ўцягненьне рабочых у вытворчае жыцьцё. Трэба павясьці рашучую барацьбу з парушэньнямі рабочае дэмакратыі. Палепшыць справаздачнасьць рабачкомаў і адміністрацыі перад рабочымі. Максімальна ўзмацніць вытворчае выхаваньне рабочых, ажывіць работу вытворчых нарад, узмацніць кантроль за выкананьнем іх пастаноў, прыцягваючы да адказнасьці адміністратараў, якія ігнаруюць гэтыя пастановы.

Партыйныя арганізацыі павінны аказаць дапамогу органам саюзу рабземлес у падборы кіруючых работнікаў рабачкомаў.

Асабліва трэба завастрыць увагу партарганізацый на задачы *ўмацаваньня жанработы ў калгасах і савгасах.* Папершае, трэба наладзіць рэгулярнае, жывое інструктаваньне гэтае работы з боку райжанарганізатараў. Нельга больш цярпець такое становішча, калі райжанарганізатар па два-тры гады ніводнага разу ня бывае ні ў адным калгасе свайго раёну. Ва ўсіх савгасах і калгасах павінны быць вылучаны жанарганізатары і арганізаваны дэлегацкія пункты. Трэба арганізаваць работу па ўзьняцьці вытворчае кваліфікацыі жанчын па паасобных галінах гаспадаркі (малочная справа, птушніцтва, гародніцтва і г. д.) шляхам арганізацыі спэцыяльных гурткоў, курсаў, куткоў, забясьпечаньня адпаведнаю літаратурай. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю актыўнасьці і ініцыятывы жанчын вакол правядзеньня мерапрыёмстваў па калектывізацыі і паляпшэньню быту: арганізацыя ясьляў, дзіцячых пляцовак, грамадзкага харчаваньня, прален і г. д. Энэргічнейшым чынам трэба павесьці работу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод жанчын.

Выхаваўчая работа сярод жанчын у калгасах павінна быць пастаўлена на належную вышыню, інакш мы няўхільна будзем сустракацца з буйнымі недахватамі ў быце калгасаў.

Вялізная работа павінна быць праведзена ў галіне *разгортваньня ўсіх відаў культурнае і палітыка-асьветнае работы ў савгасах і калгасах.* Гэтая работа павінна будавацца з такім разьлікам, каб ператварыць калгасы і савгасы ў культурныя базы для данага раёну. Партыйныя арганізацыі і органы Наркамасьветы, саюзу рабземлес, с.-г. каапэрацыі павінны неадкладна заняцца гэтаю работай.

Наркамасьветы павінен ужыць меры да якаснага паляпшэньня складу настаўнікаў і пастаноўкі навучальнае справы ў школах савгасаў і калгасаў, разгарнуць сетку школ з такім разьлікам, каб у надыхоўшым навучальным годзе забясьпечыць поўны ахоп школай дзяцей рабочых савгасаў і членаў калгасаў.

Пры наяўнасьці ўмоў, якія забясьпечваюць нармальнае абслугоўваньне ваколічнага насельніцтва, новыя школы і другія культурна-асьветныя ўстановы пераважна і ў першую чаргу арганізаваць у калгасах і савгасах. Павінна быць значна пашырана сетка палітасьветных устаноў у савгасах і калгасах: клюбаў, чырвоных куткоў, бібліятэк, радыё-установак і г. д. Павінна быць выканана дырэктыва ЦК КП(б)Б аб тым, каб да зімовага сэзону гэтага году былі абсталяваны чырвоныя куткі ў тых калгасах і савгасах, дзе іх няма да гэтага часу. Наркамасьветы, саюз рабземлес, РВК пры пабудове сваіх бюджэтаў павінны ўзмацніць асыгнаваньні на даабсталяваньне існуючых культасьветных устаноў і на папаўненьне бібліятэчак у савгасах і калгасах, асабліва літаратурай па пытаньнях калгаснага будаўніцтва.

ЦК КП(б)Б даў дырэктыву: „у працягу двух год поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць у калгасах і савгасах“. Каб выканаць гэтую дырэктыву, трэба пашырыць сетку стацыянарных лікпунктаў у калгасах і савгасах, шырэй арганізаваць індывідуальна-групавое навучаньне.

Раённыя палітасьветныя арганізацыі павінны ўзмацніць абслугоўваньне калгасаў-савгасаў кіно-перасоўкамі, бібліятэчкамі-перасоўкамі, пастаноўкай спэктакляў, аказаць дапамогу ў арганізацыі насьценгазэт, куткоў, ячэек добраахвотных таварыстваў. Трэба часьцей камандыраваць у калгасы дакладчыкаў, лектароў, палітасьветпрацаўнікоў для правядзеньня эпізодычных гутарак, дакладаў, лекцый і для аказаньня дапамогі ў наладжваньні масавае работы.

Трэба імкнуцца да ўзмацненьня адлічэньня ў калгасах на культурныя патрэбы, на паляпшэньне быту, на грамадзкае выхаваньне дзяцей.

У кіраўніцтве калгасамі РК і ячэйкі ні ў якім разе не *павінны дапушчаць мэтадаў камандваньня і адміністраваньня.* Не загад, а цярплівае тлумачэньне карысьці мерапрыёмства, якое рэкамэндуецца, практычная, дзелавая дапамога калгасу, абарона яго інтарэсаў у розных арганізацыях,—вось якімі павінны быць мэтады парткіраўніцтва калгасамі.

Акрамя таго, ячэйкі павінны дапамагаць разгортваньню ўнутрыкалгаснае дэмакратыі, дамагацца актыўнага ўдзелу ўсіх членаў калгасу ў кіраваньні гаспадаркай, арганізацыі справаздачнасьці праўленьням калгасаў, выбарнасьці, абгаварэньня на агульных сходах вытворчых плянаў і другіх важнейшых гаспадарчых пытаньняў.

Трэба, каб нашы РК і ячэйкі сур'ёзна заняліся вывучэньнем пытаньняў калектывізацыі не „наогул“, а канкрэтна, па сутнасьці. РК і ячэйкі павінны падтрымліваць цясьнейшую сувязь з калгасамі, ведаць іх гаспадарчае становішча, бытавыя ўмовы, вывучаць практыку іхнае работы, прычыны цяжкасьцяй, каб своечасова прыйсьці на дапамогу.

Мы павінны, чаго-б гэта не каштавала нам, дамагацца, каб савгасы і калгасы сталі ня толькі ўзорамі новае гаспадаркі, але і ўзорамі новага быту.

І. Шайн

# Вынікі перавыбараў бюро парт'ячэек у Гомельскім гарадзкім раёне

## I. Падрыхтоўка да перавыбараў бюро

На падставе дырэктыў райкому КП(б)Б парт'ячэйкі правялі вялікую падрыхтоўчую работу да перавыбараў бюро ячэек. Да перавыбараў ставілі пытаньне на партдні аб формах актыўнага ўдзелу членаў партыі ў перавыбарах бюро, дзе падкрэсьлівалася, у чым павінен быць удзел члена партыі ў перавыбарах. У шэрагу ячэек праводзіліся гутаркі ў часе сьнеданьняў аб значэньні перавыбараў бюро (фабрыка „Труд" і інш.). Амаль ва ўсіх ячэйках выпушчаўся спэцыяльны нумар насьценнае газэты, прысьвечаны рабоце партыйнае ячэйкі. Дасягнута, што ня толькі распрацоўваліся і зацьвярджаліся тэзісы на бюро, але гэтыя тэзісы зацьвярджаліся за чатыры—шэсьць дзён да сходаў, тым самым была дадзена магчымасьць членам партыі іх прадумаць і лепш падрыхтавацца да агульных сходаў. Амаль ва ўсіх ячэйках у працягу двух тыдняў працавалі камісіі па праверцы выкананьня дырэктыў і абгляду паасобных галін работы ячэйкі. Наогул, у гэтым годзе падрыхтоўку з боку ячэек да перавыбараў бюро і ўдзел партыйнае масы можна лічыць здавальняючымі.

З боку некаторых ячэек падрыхтоўка да перавыбараў бюро была слабая. Так, у шэрагу ячэек слаба працавалі камісіі (Аўтагужтранспарт, Прасьвет, Міліцыя, ЦРК і інш.), у некаторых ячэйках тэзісы справаздачнага дакладу зацьвярджаліся перад сходам (міліцыя).

## II. Актыўнасьць і самакрытыка

У гэтым годзе, на падставе правільнага разгортваньня самакрытыкі і пашырэньня ўнутрыпартыйнае дэмакратыі (адмаўленьне ад папярэдняга склікаяньня актыву па пытаньню аб сэкратары і апоргу ячэйкі), падвысілася актыўнасьць партыйнае масы і павялічылася адказнасьць усіх членаў партыі за работу і дзейнасьць ячэйкі. На падставе гэтага пры сучасных перавыбарах актыўнасьць на сходах па абгаварэньню справаздачы бюро, цікавасьць да гэтых сходаў былі значна большымі, чымся на папярэдніх перавыбарах. Па 44 ячэйках выступала ў спрэчках 583 таварышы. У паасобных ячэйках выступленьне даходзіла да 50—60 проц. усіх прысутных. Процант актыўнасьці ў спрэчках такі: Нарсувязь—66,7 проц., шчацінная ф-ка—58,8 проц., камунальны аддзел—58,8 проц., скурзавод 35,7 проц., хлебапякарня—51,5 проц., „Прасьвет"—53 проц., „Пралетары"—18,4 проц., жывёлабойня—65 проц., і г. д. Мелі месца выступленьні такіх таварышоў, якія рэдка калі выступалі ў спрэчках. Выступалі і беспартыйныя рабочыя. На сходах прысутнічала членаў партыі 86,5 проц., што таксама здавальняюча.

Крытыка была здаровая. Гэта сведчыць аб правільным ужываньні самакрытыкі. У галіне ўжываньня самакрытыкі маецца вялікае паляпшэньне ў асаблівасьці па вытворчых ячэйках, але ў цэлым шэрагу ячэек з самакрытыкаю справа ня зусім добрая, у асаблівасьці гэта адчуваецца на электрастанцыі і ў шэрагу савецкіх ячэек. На электрастанцыі быў такі факт, калі рабочы заявіў: „Не даюць гаварыць як хочаш, цябе асажаюць, абрэжуць як належыць, што і ахвота адпадае больш гаварыць“. У савецкіх ячэйках слаба ўжываецца самакрытыка. Маюцца моманты чынаўслаўленьня (Акрземаддзел і міліцыя), моманты, калі баяцца крытыкі. Парт'ячэйкі вызначылі практычныя шляхі да зьнішчэньня гэтых момантаў.

Партыйная маса сыгналізавала хваравітыя зьявішчы ў ячэйках з тым, каб ужыць рашучыя меры па зьнішчэньню іх.

Станоўчым бакам перавыбараў бюро належыць лічыць, што ў цэлым шэрагу ячэек сходы праходзілі пад знакам барацьбы з правым і левым ухілам, а таксама і з прымірэнцтвам. У шэрагу ячэек таварышы прысьвячалі свае выступленьні пытаньням барацьбы з рознымі ўхіламі ад правільнае лініі партыі („Пролетары“, друкары, дзяржмлыны, „Двигатель Революции“, будаўнікі, краўцы і інш.). Асноўны сэнс усіх рэзалюцый зводзіцца да таго, што ячэйкі выносяць поўнае ўхваленьне лініі ЦК партыі і заяўляюць:—ні кроку ад ленінскае лініі і рашэньняў зьезду партыі. Гэта сьведчыць аб ідэялёгічнай моцы арганізацыі.

Перавыбары бюро ячэек паказалі, што ў асноўным ячэйкі разгарнулі вялікую работу па частцы ўнутранага ўзмацненьня, барацьбы з хваравітымі зьявішчамі, палепшана сувязь з беспартыйнымі рабочымі, палепшылася кіраўніцтва гаспадарчаю работаю, прафсаюзным жыцьцём і г. д.

## III. Якія адмоўныя моманты выяўлены?

У працэсе абгаварэньня справаздачных дакладаў бюро парт'ячэек выяўлены шэраг адмоўных момантаў у рабоце паасобных ячэек. У шэрагу ячэек маюць месца склочныя зьявішчы (ф-ка „Прасьвет“, скурзавод „Сацыялізм“, шчацінная ф-ка). Яны грунтуюцца на тым, што асобныя таварышы не спрацаваліся паміж сабою, пераносілі гэта на асабістую глебу і, на падставе гэтага, абвастралі свае ўзаемаадносіны і даходзілі да таго, што не размаўлялі паміж сабою, і ўсё гэта пераносілася на агульную работу ячэек. Заміж прадукцыйнае работы, былі часам склокі („Прасьвет“). На шчаціннай фабрыцы мы мелі падзяленьне ячэйкі на групы, адсюль і групавая барацьба і перанясеньне гэтае групавое барацьбы ў асяродак беспартыйных рабочых. Сходы ячэек рэзка рэагавалі на такія зьявішчы. На сходзе ячэйкі ф-кі „Прасьвет“ прызналі агульнае кіраўніцтва слабым, нездавальняючым прызналі становішча работы бюро ячэйкі шчаціннае ф-кі, паслабленьне ў агульнай рабоце маецца ў ячэйцы Аўтагужтранспарту, хлебапякарні. Перад гэтаю групаю ячэек стаіць, як галоўнейшая задача, унутранае ўзмацненьне іх.

Асабліва рэзка амаль ва ўсіх ячэйках былі пастаўлены наступныя пытаньні:

1) Партыйная і працоўная дысцыпліна, 2) нагрузка, 3) выкананьне дырэктыў сходу ячэйкі, бюро і райкому. Па гэтых трох пытаньнях справа стаіць ня зусім добра. У шэрагу ячэек маецца паслабленьне партыйна-працоўнае дысцыпліны. Гэта выказваецца ў тым, што сходы і пасяджэньні адчыняюцца пазьней за ўстаноўлены тэрмін, нерэгулярны выплатак членскіх партузносаў, ня зусім прыкладныя паводзіны на вытворчасьці. Бюро парт'ячэек не вядуць з гэтымі зьявішчамі рашучае барацьбы.

Горш стаіць справа з партыйнаю нагрузкаю. Адсутнічае праверка выкананьня партнагрузкі з боку бюро парт'ячэек і, на падставе гэтага, у часткі членаў партыі няма адказнасьці за выкананьне партыйных абавязкаў. Гэта мае свой адбітак на правільнай пастаноўцы ячэйковае работы. Як правіла, хваробы ў ячэйцы атрымоўваюцца ад таго, што члены партыі ня выконваюць партыйнае нагрузкі („Прасьвет“, хлебапякарня, Дзяржжывёлабойня, „Сацыялізм“ і інш.). Што тычыцца пытаньня аб праверцы выкананьня дырэктыў, дык у гэтай адносіне справа дрэнная. Рэзалюцыі прымаюцца добрыя, райком дасылае дырэктывы, а ў шэрагу ячэек гэта ўсё застаецца на паперы, што адбіваецца на рабоце. Маецца цэлы шэраг фактаў, калі важныя ўказаньні райкому, як пытаньне аб рабоце савецкіх ячэек, аб рабкораўскай рабоце, аб перавыбарах фабкому і г. д., далучаецца да спраў. Неабходна падняць адказнасьць бюро за выкананьне дырэктыў райкому і ячэек, і па адносіне да тых, якія ня выконваюць, ужываць меры партыйнага спагнаньня, зьняцьця з работы і г. д. Адсутнічае сыстэматычная праверка выкананьня дырэктыў па асобных галінах работы. Зусім правільна паасобныя таварышы ў ячэйках ставілі пытаньне: „што нам патрэбны ня прыгожыя рэзалюцыі, а жывое і канкрэтнае правядзеньне пастаноў у жыцьцё“.

Вялікая ўвага была зьвярнута ў спрэчках на работу апо-камісій. Амаль, як агульнае зьявішча, апо-камісіі не працуюць (скурзавод, „Прасьвет“, „Двигатель“, „Труд“, хлебапякарня, Окрзо). Бюро парт'ячэек слаба кіруюць гэтаю галінаю работы, слабая работа праведзена ў галіне беларусізацыі ў шэрагу ячэек. У некаторых дакладах нават нічога ня было адзначана аб беларусізацыі („Прасьвет“ і інш.).

Яшчэ да гэтага часу ўдзел шырокае масы членаў партыі ў прафрабоце, асабліва ў прафмасавай, адзначаўся як слабае мейсца ў рабоце ячэек. У некаторых ячэйках слаба кіравалі фабкомаўскаю работаю (скурзавод, шчацінная ф-ка, хлебапякарня і г. д.). Ёсьць факты, калі ні на бюро, ні на сходзе ячэйкі на працягу 6 месяцаў не заслухоўваюць асобныя пытаньні прафработы.

У значнай частцы ячэек адзначалася, што партыйныя арганізатары ў цэху не адчуваюцца, што іх работы ня відаць, адзначалася і слабае кіраўніцтва імі з боку бюро ячэек, адсутнічаньне дастатковае цікавасьці, інструктаваньня і штодзённае дапамогі парт'арганізатарам з боку бюро і работнікаў ячэек. На аснове слабае работы парт'органаў і масавае работы, у прыватнасьці, некаторыя ставілі пытаньне аб тым, што няма базы для росту. Такая пастаноўка пытаньня няправільная.

У працэсе абгаварэньня справаздачных дакладаў была адзначана слабасьць работы па сатаварыству з Чырвонаю арміяй (Грашавы аддзел, „Двигатель“, скурзавод і інш.). Слабая ўвага была зьвярнута ў працэсе спрэчак на жаночую работу.

## IV. Якасьць работы і ўнутрыпартыйная дэмакратыя

Якасьць работы ячэек і ўжыцьцё ўнутрыпартыйнае дэмакратыі бясспрэчна палепшылася. Аб гэтым сьведчыць ход перавыбараў бюро парт'ячэек. Але ў некаторых ячэйках маем цэлы шэраг ухілаў у бок парушэньня ўнутрыпартыйнае дэмакратыі. У ячэйцы хлебапякарні і ў Акрза камісіі па праверцы дырэктыў райкому ператварылі сваю работу ў рэвізію работы ячэйкі і па сканчэньню работы склалі поўны праэкт рэзалюцыі, і папярэдні праэкт рэзалюцыі быў абгавораны на бюро. У ячэйцы Белпэдтэхнікуму быў такі факт, калі камсамольская ячэйка павінна была правесьці перавыбары бюро, парт'ячэйка паставіла

пытаньне на бюро і вызначыла поўны склад бюро камсамольскае ячэйкі. Гэта ёсьць парушэньнем партыйнае дэмакратыі. Мае мейсца парушэньне рабочае дэмакратыі. Пры перавыбарах фабзаўмясцкомаў бюро неабходна толькі мець думку аб старшыні фабкому, а потым па выяўленьню настрою рабочае масы папярэдняе абгаварэньне сярод груп рабочых, а на справе склікаецца сход парт'ячэйкі і вызначаецца склад фабкому. У нас маецца шэраг скажэньняў, якія знаходзяцца ў тым, што проста на бюро парт'ячэйкі ставяць пытаньне аб усім складзе членаў фабкому (шчацінная ф-ка, Аўтагужтранспарт, Белпэдтэхнікум). Неабходна супроць гэтых момантаў вясьці рашучую барацьбу.

У некаторых ячэйках якасьць работы кульгае. У ячэйцы 1-ае савецкае больніцы на павестцы дню былі пастаўлены наступныя пытаньні. 1) Зацьвярджэньне рэзалюцыі па дакладу бюро. 2) Перавыбары бюро. 3) Зацьвярджэньне пляну на 3 месяцы. 4) Абежнік ЦК КП(б)Б. 5. Вынікі камісіі па вывучэньню быту членаў партыі. 6) Бягучыя справы. У ячэйцы пякарні ставяць пытаньне на бюро: *слухалі* ліст ЦКК аб самакрытыцы і выяўленьні хварававітых зьявішчаў (размова павінна ісьці аб п'янству); выносяць такую пастанову: паставіць даклад на сходзе ячэйкі аб гаспадарчым становішчы краіны і правесьці гутарку з рабкорамі. У Дзяржбанку такі факт: на сходзе ячэйкі было пастаўлена пытаньне аб беларусізацыі і сход выносіць такую пастанову: згадзіцца з пераходам работы ячэйкі на беларускую мову з 1-га лістапада г. г., што тычыцца членаў партыі, якія ня ведаюць беларускае мовы, такім падаць заявы ў бюро на конт устанаўленьня ім тэрмінаў.

Можна было-б прывесьці яшчэ цэлы шэраг фактаў. На ўсіх справаздачных сходах вялікае мейсца было аддадзена пытаньню палажэньня якасьці работы. Шэраг ячэек ставілі пытаньне аб скарачэньні нарад і сходаў з мэтаю паляпшэньня якасьці работы. Чарговая задача—ня гнацца за колькасьцю, а патрабаваць якасьці работы па ўсіх лініях.

## V. Вынікі перавыбараў бюро

Павялічыўся агульны склад за лік рабочых ля варштату, палепшыўся сацыяльны склад бюро ячэек: рабочы асяродак складае—76,4 процантаў, у мінулы раз быў—69 проц. Склад бюро парт'ячэек абнавіўся на 59,2 проц.

Сакратарскі склад абнавіўся на 45,5 проц. Вялікае абнаўленьне сакратароў ячэек тлумачыцца тым, што ў частцы ячэек сакратары аказаліся непрацаздольнымі, а ў частцы сакратары працавалі аж па 3-4 скліканьні і, натуральна, павінны былі быць заменены.

Наогул, трэба канстатаваць, што падыход з боку членаў партыі да перавыбараў бюро быў надзвычайна сур'ёзны. Найлепшая перадавая частка членаў партыі ўвашла ў бюро. Абнаўленьне кіруючага асяродку бюро ячэек ставіць перад райкомам задачу аб узмацненьні інструктаваньня і дапамогі ў штодзённай рабоце новых абраных таварышоў.

---

**Б. Найман**

# Дзесяць год таму назад

*(З успамінаў аб працы ў беларускім падпольлі ў 1918 годзе)*

## I

Па справах Бабруйскае раённае арганізацыі КП(б) Л. і Б. выпадала іншы раз бываць у „Расіі"—Воршы і Смаленску (мы-ж знаходзіліся за граніцай у акупаванай немцамі Беларусі). Галоўным чынам езьдзілі па агітацыйную літаратуру, для чаго існаваў знарок інстытут кур'ераў (трэба ўспамянуць Гулякова, Залкінда, Гэклера і Сасноўскага (Соркіна). Але ўсякі, які езьдзіў туды і па іншых партыйных справах, лічыў сваім абавязкам узяць максымальную колькасьць партыйнае літаратуры і, у прыватнасьці, якая намячалася для нямецкіх салдат газэты „Der Rote Soldat" („Чырвоны салдат"—орган нямецкае сэкцыі камуністычнае партыі ў Смаленску).

Праз арганізаваную намі ў Бабруйску легальную кнігарню (пад шыльдаю прыватнага кніжнага гандлю таварыша Агола) было наладжана атрыманьне ў значнай колькасьці з РСФСР марксыцкае літаратуры, у прыватнасьці вышаўшых твораў Леніна. Масавую агітацыйную літаратуру, каб ухіліцца ад правалу магазына, які скарыстоўваўся і дзеля іншых мэт (мейсца яўкі і г. д.), прыходзілася дастаўляць іншымі шляхамі.

Правоз літаратуры быў зьвязаны з небясьпекай правалу, але звычайна ніхто не адмаўляўся ад таго, каб браць яе з сабою. А на яе ў падпольлі быў гэткі попыт.

Бывала сумна кожны раз выяжджаць ізноў з Савецкае Расеі, дзе крыніцай біла палітычнае жыцьцё і праца па ўзмацненьню маладое дыктатуры пролетарыяту, і зварачацца зноў туды, дзе цябе чакае паліцэйскі вокліч, вышук і іншыя „пякноты" акупацыйнага рэжыму і нелегальнае працы. Але-ж разам з гэтым цягнула пакінутая праца, і гостра адчувалася адказнасьць перад таварышамі, якія з нецярплівасьцю чакалі сьвежых вестак і новае літаратуры.

У гэты раз было асабліва цяжка выяжджаць з Смаленску: цераз некалькі дзён у Савецкай Расіі будзе сьвяткавацца першая гадавіна Кастрычнікавае рэвалюцыі. Горад рыхтаваўся да сьвяткаваньня, аздабляўся аркамі, сьцягамі і лёзунгамі.

Вуліцы ужо мелі сьвяточны выгляд. Але-ж затрымліваца нельга было, трэба было сьпяшацца, каб яшчэ да самага лістападу быць у Бабруйску і прывезьці патрэбныя арганізацыі для сьвяткаваньня ў нелегальным становішчы матарыялы: літаратуру, газэты, а таксама чырвоную матэрыю, якую нельга было, бяз рызыкі зьвярнуць на сябе ўвагу, купіць у Бабруйску.

У друкарні Абліскамзапу атрымоўваю жмут сьвежа-аддрукованае нямецкае газэты ад знаёмага нямецкага камуніста-ваеннапалоннага. Ён

моцна цісьне мне руку, жадае шчасьлівае дарогі і паведамляе, што нямецкай сэкцыяй атрыманы з Нямеччыны весткі аб блізкіх там рэвалюцыйных падзеях. У ягоных словах гучыць непарушная ўпэўненасьць.

Я ўспамінаю гутарку, якую меў усяго некалькі дзён таму назад з другім немцам—прадстаўніком другое клясы. З Воршы ў Смаленск я ехаў у адным купэ з членам аднае з расейска-нямецкіх камісій г-нам Эберам, тыповым нямецкім афіцэрам-мілітарыстым, у мінулым каленіяльным авантурыстым; ён быў затрыманы аршанскай надзвычайнай камісіяй пры спробе правозу за межы ў дыплёматычным багажы каштоўнасьцяў уцякаўшай расійскай арыстакратыі на вялізарную суму (больш за мільён рублёў) і цяпер накіроўваўся ў Смаленск. Злоўлены на сьвежым учынку Herr Eber усё яшчэ трымае сябе паважна, але ахвотна вядзе гутарку на палітычныя тэмы. На маё запытаньне аб тым, калі, па яго думцы, запалае рэвалюцыя ў Нямеччыне, ён упэўнена адказвае: „Ніколі“. У Нямеччыне магчыма эвалюцыя, але не рэвалюцыя.

Як хутка гісторыя спраўдзіла прагноз салдата і ашукала надзеі афіцэра!

## II

У Воршы, як звычайна, пападаю да тав. Рывіна, загадчыка транспартам нелегальнага становішча. Тут ужо ўсё падрыхтована для праезду цераз граніцу (пад знакам рэпатрыянта-беларуса і г. д.). Кароткі адпачынак, выкананьне неабходных фармальнасьцяў у беларускай рэпатрыяцыйнай камісіі і ў нямецкага камэнданта, і я пераходжу граніцу—лінію драцяных загародак паміж пасажырскай і таварнай станцыяй Воршы.

Небясьпека яшчэ ня тут. У дворыку каля таварнае станцыі, які абнесены калючым дротам і які вартуе нямецкі вартавы, сярод народу пахаджвае Militär Polizei—жандар у салдацкай вопратцы з чырвонай павязкай на рукаве. Вачыма мацае ён публіку, адводзячы падазроных у бок дзеля паўторнае паверкі дакумэнтаў і ператрускі. Большасьць публікі, якая „вырвалася з бальшавіцкага пекла“, буржуазія і былая арыстакратыя—выказваюць адзін аднаму сваю радасьць з прычыны таго, што дарваліся ўрэшце да „культурных немцаў“. Усюды выцягваюць лепшую вопратку, аздабляюць пальцы залатымі пярсьцёнкамі, чапляюць залатыя гадзіньнікі і г. д. (тое, што не затрымана аршанскай чрэзвычайкай) альбо проста разьбіраюць правезеную кантрабанду (скуру, мануфактуру і г. д.). Пануе агульнае ажыўленьне. Але вось адбываецца маленькая сцэна. Адзін з пасажыраў хоча чамусьці выйсьці за браму і, калі на словы вартавога не застанаўліваецца, дык атрымоўвае добрага штуршка ботам ззаду і словы: „Donner wetter, zurück“ („чорт вазьмі, назад“) і вяртаецца назад. Настрой зараз-жа робіцца кепскім, чугна гутарка: „вось дык культурныя немцы, яны ня лепш за бальшавікоў“.

Сьцюдзёна. Зьвечарэла, і пасажыраў упушчаюць, урэшце, у станцыйны будынак. Ужо некалькі разоў міма мяне праходзіць жандар. Мая простая кашэлка, відаць, зьвярнула на сябе яго ўвагу (навокал усё такія надзвычайна прыгожыя чамаданы). Я адчуваю, што ён хутка зацікавіцца зьместам, і тады ўсё прапала. Таму я прашу суседа „на хвілінку“ паглядзець кашэлку, а сам выходжу на двор і цераз вакно наглядаю, што будзе. Вось жандар,падыходзіць да майго суседа, паказвае пальцам на кашэлку, аб чымсьці запытваючы ў яго, але, відаць, задаволены адказам, ён адыходзіць. Я палегчана ўздыхаю, але ўсё-ж пады-

ходжу да свае кашэлкі толькі перад самай пасадкай у цягнік, калі канчаткова ўпэўнен у тым, што паліцыянт больш не падыйдзе.

О, гэтыя недахопы нашае тэхнікі. Колькі жудасных хвілін прыходзілася з-за іх перажыць. Памятаю апавяданьне Гэклера (нелегальнага працаўніка, забітага ў 1918 годзе). Яму давялося правозіць нямецкую літаратуру ў зусім нікуды ня вартай кашолцы. Нямецкія лістоўкі проста высоўваліся з шматлікіх яе дзірак. Ужо на таварнай станцыі з Гэклерам па-сяброўскі размаўляў якісьці нямецкі салдат. У часе размовы той выпадкова апушчае вочы і спрабуе разглядзець зьмест прыкмечаных ім нямецкіх лістовак. Тады Гэклер, каб адцягнуць яго ўвагу, раптам павярнуўся ў другі бок і паказаў размоўцу на праходзячы міма цягнік. Размоўца заглядзеўся на цягнік, і, такім чынам, труку гэтаму на шчасьце пашанцавала.

У другі раз усе нелегальныя рэчы ледзь не загінулі з-за несамавітага выгляду правозіўшага іх таварыша (ці-то Залкінда, ці Катловіча—абодвы загінулі на заходнім фронце ў 1919 годзе). Таварыш зьвярнуў на сябе ўвагу жандара, і яму зрабілі пэратруску, якая прымусіла яго зьнішчыць багажны квіток (рэчы былі здадзены ў багаж). Выкрываньне грузу (адрасаванага на станцыю Жлобін) было вельмі непажадана, але пашанцавала яго атрымаць пры дапамозе хабара—сродку надзвычайна добрага, сапраўднага сярод нямецкіх чыноўнікаў.

Было-б куды больш канспыратыўна і больш бясьпечна апранацца лепей у часы такіх падарожжаў, і вазіць з сабою добрыя чамаданы. Але дзе было ўзяць сродкаў, калі іх ня мела партыйная арганізацыя.

З шумам, які асабліва ўласьцівы мяшочнікам і спэкулянтам, разьмяшчаецца публіка ў вагоне. Нас трывожыць па дарозе толькі дватры разы ваенна-чыгуначны кантроль, павяраючы білеты і прапускі.

5-га лістападу раніцою я ўжо быў у Бабруйску.

### III

Бабруйскі РК (у склад якога ўваходзілі Серабракоў, Равінскі, Капылоў, Вайнер, Блюма і я) абгаварваў парадак сьвяткаваньня першае Кастрычнікавае гадавіны.

Прапанавалі два варыянты. Першы—абмежавацца выпускам лістовак і распаўсюджваньнем іх па горадзе, гэта хоць і пашырыла небясьпеку ўзмацненьня пошукаў арганізацыі нямецкай ваеннай паліцыяй, але мела тую перавагу, што яно зьяўлялася фактычным выступленьнем арганізацыі перад масаю працоўных, пры ўмовах нелегальнага становішча зусім мала ведаўшых аб бальшавіцкай рабоце. Другі—правесьці масаўку дзе-небудзь за горадам; гэта было вельмі небясьпечна ў сэнсе расканспіраваньня і не магло насіць масавага характару (выключэньне складала наша праца сярод яўрэйскай працоўнай моладзі, якая шырока праводзілася цераз „Юген бунд“ і якая насіла фактычна масавы характар).

Пасьля майго прыезду пытаньне абгаварвалася яшчэ раз, і быў прыняты першы варыянт. Таварыш Серабракоў прачытаў тэкст складзенай ім адозвы, якую тут-жа прынялі і тут-жа перапісалі з дапамогі хэмічнае стужкі (пасяджэньне адбывалася на кватэры тав. Вайнэра). З Вайнэрам у той самы дзень тав. Серабракоў павінен быў на сваёй кватэры (ён жыў у Агола) распаўсюдзіць лістоўку на шапірографе. Лістоўка пачыналася гэткімі словамі: „Захістаўся трон каранаванага грабежніка Вільгельма“ і казалі аб блізкай рэвалюцыі ў Нямеччыне пад уплывам Кастрычнікавага перавароту.

## IV

Сьвяткаваньне першае гадавіны Кастрычніка, аднак, было сарвана. Раніцою 6-га лістапада з памяшканьня вайсковае паліцыі вышаў невялікі атрад жандараў на чале з начальнікам палітычнае паліцыі. Афіцэр, які гутарыў досыць добра парасійску, а гэтак сама размаўляў і на яўрэйскім жаргоне, пытаўся ў праходзячых па вуліцы пра адрас Агола. Сын кніжнага гандляра дагодліва праводзіў атрад.

Серабракоў, які працаваў у сьлясарнай майстэрні, зьбіраўся на працу, калі зьявіўся атрад. Калі ён сказаў на запытаньне афіцэра сваё нелегальнае прозьвішча, апошні сказаў, што ведае, хто ён. У паліто Серабракова былі знойдзены некалькі дзесяткаў аддрукованых ужо адозваў; быў знойдзены і шапіrограф—усе доказы былі відавочны. Серабракоў кажа, што ўсе гэта яго праца, і просіць не турбаваць гаспадароў, якія да гэтага ня маюць ніякага дачыненьня.

Якімсьці цудам удалося ўцячы з Аголавага дому зайшоўшаму у час пeратрускі да Серабракова тав. Малаковічу, які прыехаў у гэты час з павету (тав. Малаковіч быў зьвязаны з арганізацыяй і партызанскімі атрадамі ў Рудабельскім, цяпер Кастрычнікавым раёне). Аголава жонка на яго запытаньне „Ці тут жыве Паўлюк" (мянушка Серабракова), адказала яму, што ён памыліўся і зайшоў не па тым адрасе, а сама знакамі дала яму зразумець, што неабходна хутчэй уцячы. Нямецкі жандар, які стаяў пры гэтым, палічыў яго за выпадкова ўвайшоўшага чалавека і не затрымаў яго.

Ад Малаковіча я даведаўся аб арыштаваньні, і мы, не марнуючы часу, прыймаем усе захады да таго, каб унікнуць ад магчымых будучых арыштаў. Мы не сумняваліся наконт цьвёрдасьці Паўлюка, але-ж магчыма было дапушчаць правакацыю. На крайні выпадак выносім пастанову перанесьці райком у Рудабельскі раён, дзе ўмовы былі лепшыя.

Аднак, далейшых арыштаў ня было. Разам з Серабраковым былі адведзены ў паліцыю дзьве Аголавы дачкі, але пад вечар яны былі вызвалены. Яны перадалі словы Серабракова, што ён будзе „немы, як рыба". У той самы дзень паліцэйскія затрымалі Капылова, які праходзіў блізка каля паліцыі з мэтаю даведацца што-небудзь ад арыштованых; яго, відаць, палічылі, па падабенстве за аднаго з Аголавых сыноў, фатаграфічныя карткі якіх былі ўзяты пры пeратрусцы. Скарыстаўшы слабасьць варты, Капылоў у хуткім часе няпрыкметна вышаў з памяшканьня паліцыі і схаваўся.

Пeратруска, якая адбылася ў кнігарні Аголавай, немцам гэтак сама нічога не дала; яны шукалі нашу тэхніку (пішучую машынку), і на асобныя агітацыйныя выданьні, якія былі ў магазыне, не зьвярнулі ўвагі.

Сьвяткаваньне ня вышла. Ува ўсіх быў прыгнечаны настрой. Бо-ж нямецкае камандаваньне не малімонілася з бальшавікамі. Ува ўсіх на памяці быў нядаўны расстрэл селяніна, які ўчыніў адпор у час рэквізыцыі. Перад расстрэламяго павялі па вуліцах у суправаджэньні барабаншчыкаў і флейцістаў.

7-га верасьня на галоўнай вуліцы былі выстаўлены куляметы. Відаць, чакалі нашага выступленьня.

Трэ' было прыняць нейкія захады, каб далей наладзіць працу і выратаваць Паўлюка, і з гэтаю мэтаю я быў камандыраваны цераз два-тры дні ў Менск, у краявы камітэт кампартыі Літвы і Беларусі.

## V

Раніцою я зьлез з поезду і накіраваўся на яшчэ пустыя менскія вуліцы. Не зважаючы на раньні час, я, аднак, застаў ужо на яўцы (каапэратыў будаўнікоў непадалёку ад Саборнае плошчы) патрэбнага мне чалавека Ходаша. Ён апрануўся ў запэцканае ў муку гандлярова паліто. Ад яго я атрымаў далейшы кірунак—у фатаграфію непадалёку ад турмы—да тав. Славінскага.

Я, аднак, ня мог адразу атрымаць канчатковага адказу, таму што ў гэты дзень адбыліся сур'ёзныя падзеі, якія адразу зьмянілі ўсе палітычныя абставіны. Напярэдадні яшчэ былі атрыманы зьвесткі аб рэвалюцыі ў Нямеччыне. Я быў накіраваны ў каапэратывную сталоўку будаўнікоў і там чакаў загаду.

Па дарозе я дастаў „Vorwärts" і прачытаў невялічкія паведамленьні аб рэвалюцыі, якая толькі што пачыналася ў Гэрманіі. У іх былі Эбэртавы адозвы да салдат, каб яны слухалі афіцэраў і захоўвалі дысцыпліну, і да афіцэраў—аб падтрыманьні рэвалюцыі. Відавочна, што газэты былі затрыманы, і салдаты хадзілі натоўпам каля вайсковых нямецкіх кіёскаў, чакаючы газэты. Горад нязвычайна ажыўляўся; паўсюды хадзілі кучкамі салдаты, у шмат якіх на грудзёх зьявіліся чырвоныя банцікі.

У сталоўцы я разам з аднэй партыйкай-студэнткай быў адразу-ж накірованы раздаваць лістоўкі, пры чым мы павінны прайсьці ў Белую залю, дзе па чутках быў намечаны мітынг нямецкіх салдатаў. Салдацкія настроі яшчэ ня былі выяўлены, і таму прыходзілася дзейнічаць вобмацкам. Рабілі мы гэта вось як: групу салдатаў, якая ідзе насустрач, застанаўлівалі і пыталіся: „колькі гадзін?". Пасьля адказу, калі ён больш-менш прыемны і ласкавы, мы неспадзявана прапануем лістоўку са словамі: „Bitte" („Просім"). Звычайна ў такіх выпадках чулася ў адказ: „Danke" („Дзякуй"). Гэтак мы распаўсюдзілі некалькі дзесяткаў лістовак. Толькі ў адным альбо ў двох выпадках мы, калі аглядаліся назад, бачылі нездаволеныя пагражаючыя твары.

Пару слоў пра гэтыя лістоўкі. Яны былі надрукованы пасьпешна, у нелегальнай друкарні. Набор быў расійска-польска-нямецкі з дзесятку розных шрыфтоў, так што часта ў сярэдзіне слова стаяла вялікая літара. Мова была хутчэй яўрэйская, чымся нямецкая. У правым кутку, напр., красавалася: „Proletarier won alle Länder wereinigt sich".

Каля Белае салі мы нікога не знайшлі і таму вярнуліся ў сталоўку. Там у гэты час у розных пакоях у праўленьні абгаварвалі тактыку ў камітэтах бальшавікоў і паалей-цыоністых.

Увесь потны з аднаго пакою ў другі лётаў правадыр паалей-цыоністых Бляхер, відавочна прапануючы ўсё новыя і новыя кампрамісы. Тут-жа рыхтаваўся штандар для дэманстрацыі.

У гэты час паведамілі што каля гасьцініцы „Эўропа", дзе быў штаб генэрала Фалькэнгайна, адбываецца мітынг. Нас некалькі чалавек накіравалі туды. Тут мы ўбачылі грандыёзнае відовішча. Уся вуліца між гасьцініцай і бульварам поўнілася шэраю масаю салдат. Ля ўваходу ў гасьцініцу і на бальконе над ім відаць былі бледныя твары афіцэраў. Выступалі спачатку толькі салдаты. З урыўкаў сказаў, якія далятаі да задніх радоў, мы здолелі ўчуць вымаганьні неадкладнага міру, дэмабілізацыі старэйшых узростаў. Кожнае з вымаганьняў суправаджалася спагадным гудам натоўпу. Адзін з афіцэраў, які выступіў, паказаў на прыклад Расіі, якую „бальшавіцкія банды" прывялі да згубы, і гаварыў, што гэткі-ж лёс чакае Гэрманію, калі вымаганьні,

накшталт выстаўленых перад ім, будуць падтрымліваццa; маса ў паўтары—дзьве тысячы салдат у адказ загула „далоў“.

Слухаць нам доўга, аднак, не давялося. Салдацкія шэрагі энэргічна ачышчаліся ад пабочных слухачоў. Да мяне падышоў унтэр-афіцэр і прапанаваў мне выйсьці, сказаўшы: „Da braucht man keine bolschewistisch-judische agitatoren“. („тут не патрэбны бальшавіцка-яўрэйскія агітатары“).

Вестка пра мітынг каля штабу арміі, відаць, паскорыла пастанову пра дэманстрацыю, да якое цяпер далучыліся і поалей-цыоністыя. Ужо пачало зьмяркацца, калі пасьпешна пастроіліся на вуліцы. У шэрагах было чалавек 50—60. Сьпераду несьлі сьцяг з надпісам панямецку. Засьпявалі „Інтэрнацыянал“.

Мітынг, відаць, ужо скончыўся. Насустрач нам трапляліся невялікія групы салдатаў. Некаторыя з іх бурна віталі нас голасна: Hoch die rote Fahne!“ і махалі шапкамі. Далей, пад сабор, салдатаў было яшчэ больш. Відаць, частка накіроўвалася ў каталіцкі сабор, дзе пачыналася вячэрняе набажэнства і куды ішло шмат цывільных. З боку цывільных чуліся варожыя выгукі. Здаецца крычалі: „Жыды ідуць рабаваць сабор“. У гэты час нейкі фэльдфэбэль ці унтэр-афіцэр з рэвальвэрам у руцэ схапіў сьцяг, спрабуючы яго вырваць; на дапамогу яму кінуліся яшчэ некалькі ўзброеных салдатаў. Сьцяг зьнік, некага схапілі. У пярэдніх шэрагах пачалося замяшаньне і ўсе кінуліся ўцякаць. Побач са мною, трымаючы мяне пад руку, кульгаючы, ішоў тав. Славінскі. Я цягнуў яго за сабою. Дабеглі да бульвару. Далей можна было ісьці больш спакойна [1]).

Увесь вечар быў патрачаны на зьмену канспыратыўных кватэр, на перасоўваньне друкарні і г. д. Былі затрыманы тав. Бампэ-Крыніцкі і яшчэ нехта. Вечарам, атрымаўшы патрэбныя інструкцыі, я выехаў у Бабруйск. Пытаньне аб Паўлюку адпадала: гэта ж у Гэрманіі рэвалюцыя, яна яго вызваліць. Разгон дэманстрацыі і арышт нашых таварышоў, праўда, наводзіў на сумныя меркаваньні. Але-ж гэта былі першыя дні рэвалюцыя.

VI

Проста з поезду сьпяшаюся на кватэру Равінскага (уласна кажучы, канспыратыўная кватэра—камуна, у якой мы ўсе харчаваліся прыпасамі, што прывозілі вясковыя таварышы). Равінскі яшчэ ня ведае навін папярэдняга дню, бо тут цэнзура яшчэ затрымлівае паведамленьне пра рэвалюцыю. Я коратка перадаю яму весткі пра рэвалюцыю ў Гэрманіі і з ім раптам адбываецца нешта дзіўнае: ён зрываецца з мейсца і ляціць, нібы шалёны ў сад з крыкам: „Гаспадыня, гаспадыня! Рэвалюцыя ў Гэрманіі“. Як гэта Равінскі раптам запамятаваў пра канспырацыю, з якою ён нас звычайна ўсіх мучыў і крычыць так, што за вярсту чутна. Толькі пасьля таго, як гаспадыня выказвае яму сваё спачуваньне (хоць і не разумее чаму яе кватарант так задаволены), ён вяртаецца назад і пачынае ў мяне распытваць аб падрабязнасьцях учарашняга дню.

VII

З пачаткам нямецкае рэвалюцыі мы чакалі асноўных перамен у становішчы; усё ўяўлялася ў ружовым сьвятле. У хуткім часе, аднак, выявілася, што нашы надзеі ня спраўдзіліся. Ужо створаны „Soldaten-

---

[1]) Карыстаюся выпадкам, каб растлумачыць тав. Бампэ-Крыніцкаму, які ў артыкуле ў „Пролетарской революции“ зьдзіўляўся, як гэта мог схавацца ад прасьледаваньняў кульгавы тав. Славінскі.

тат“ (салдацкая рада) вельмі неспагадна аднёсься да нашага хадайніцтва аб вызваленьні Паўлюка, і нават потым адмовіўся аб гэтым гаварыць. Наадварот, праз некаторы час у крэпасьць быў укінуты яшчэ адзін наш працаўнік тав. Катловіч, затрыманы ў часе пашырэньня сярод нямецкіх салдатаў літаратуры. І толькі ў канцы лістападу пад пагрозаю нашых часьцей, якія займалі тыя раёны, што пакідаліся немцамі, Серабракоў і Катловіч былі вызвалены.

Аднак, пасьля рэвалюцыі наша агітацыя сярод нямецкіх салдатаў была непамерна лягчэйшаю. Бадай адкрыта вялі мы вусную агітацыю праз гутаркі і распаўсюджалі нямецкія газэты і лістоўкі. Распад ішоў з неймавернаю хуткасьцю і ў формах, якія паўтаралі наш 1917 г. Салдаты распродвалі перад эвакуацыяй рэвальвэры, кулямёты, аўтамабілі. Сярод тых, хто адыходзіў, былі паасобныя атрады, якія несьлі чырвоныя сьцягі, падараваныя ім арганізацыямі камуністычнае партыі Літвы і Беларусі. Гэтыя атрады прысягалі змагацца на бацькаўшчыне паводле прыкладу расійскіх бальшавікоў.

## VIII

28-га лістападу ў будынку думы адбывалася пасяджэньне рэўкому. Думцы пакінулі будынак, нават ня здаўшы спраў. Уласна кажучы, уладаю ў горадзе рэўком быў ужо некалькі дзён. Нават нямецкае камандаваньне змушана было прызнаць гэтую падвойнасьць улады; яно выдала нам (праз думу) 200 стрэльб для аховы гораду. Імі былі ўзброены партызаны, якія сьцягваліся ў горад з валасьцей. У валасьцёх Савецкая ўлада існавала з тыдзень.

Працы было шмат, галоўным чынам, у справе змаганьня з разрабаваньнем шматмільённае вайсковае маемасьці, якую нават немцы ня здолелі выкарыстаць у часе іх паўгадовага быцьця ў горадзе.

Вечарам таго-ж дню мы сустрэлі радаснымі абдымкамі вызваленых з крэпасьці таварышоў. Серабракоў надзвычайна сьмешна апавядаў пра тое, як начальнік палітычнае паліцыі хваляваўся і круціў вусы ад абурэньня ў часе чытаньня адозвы, у якой Вільгэльм абзываўся „каранаваным злодзеем“. У вастрозе да яго ў адзіночку пасадзілі нейкага расійскага афіцэра, арыштаванага за крымінальную справу для таго, каб ён выпытаў весткі пра нелегальную арганізацыю. Апошні, аднак, ня толькі не справіўся з сваёй задачаю, але сам прызнаўся пра мэту, з якою яго туды пасадзілі.

Пачалася зноў цяжкая праца па стварэньні новае ўлады Саветаў у Бабруйскім павеце, спыненая паўстаньнем Доўбор-Мусьніцкага немаль год таму назад.

---

Б. Н—н.

# Арганізацыя Рагачоўскага падрайёну кампартыі Літвы і Беларусі ў 1918 годзе

З аднаўленьнем у 1918 годзе партыйнае работы ў Беларусі паўстала пытаньне аб адраджэньні партыйных арганізацый у паветах. Прадугледжвалася, што на мясцох засталася значная колькасьць быўшых сяброў РС-ДРП(б) яшчэ з 1917 году, якія ўтрацілі сувязь з партыяй пасьля нямецка-польскае акупацыі. Сярод іх была значная колькасьць т. т., якія шчыра жадалі аднаўленьня работы ў нелегальных умовах. Дзякуючы значнае колькасьці работы бальшавікоў у 1917 годзе на Беларусі, можна было з ўпэўненасьцю чакаць адраджэньня арганізацыі ва ўсіх раёнах, дзеля чаго ў Краёвым камітэце Літвы і Беларусі і было зроблена разьмяркоўваньне раёнаў з такімі ўмовамі, каб ахапіць па магчымасьці ўсю тэрыторыю Беларусі.

Беларускі раён, які меў тады вельмі моцных работнікаў, павінен быў ахапіць сваёй працай, за выключэньнем Бабруйскага павету, Рагачоўскі і Слуцкі. Таварышу, які пісаў гэтыя радкі, было даручана тады аднавіць партыйную работу ў Рагачоўскім павеце, ахапіўшы таксама і раён Жлобіну.

Ня маючы асабовае сувязі з мясцовымі быўшымі бальшавікамі, даводзілася дзейнічаць рознымі вакольнымі шляхамі, каб знайсьці тых бальшавікоў, якія засталіся вернымі партыі і жадаюць павесьці работу і ў далейшым. У даным выпадку прышлося зьвярнуцца за дапамогаю да мяйсцовых арганізацый Поалей-Цыон, лепш кажучы, да яе лідэра тав. Карпа (у сучасны момант старш. СНГ Беларусі), які працаваў ужо тады ў цеснай сувязі з намі. Гэтым самым быў даны мне адрас мяйсцовых поалей-цыаністаў, да якіх я павінен быў зьвярнуцца за паказаньнямі адносна мяйсцовых бальшавікоў і ўжо потым самому завязаць з імі сувязь.

Добра памятаю, што ў мяне ніякага лісту ад Карпа ня было, але т. т., да якіх ён мяне рэкамэндаваў, сёстры Гэльфанд (адна з іх зубны доктар), сустрэлі мяне добра, не паказаўшы падазронасьці, якую я чакаў спаткаць. Яны мелі магчымасьць мне паказаць толькі нейкага Эвэнчыка—студэнта з мяйсцовае буржуазнае сям'і, быўшага актыўнага мяйсцовага бальшавіка і ў некаторых адносінах іх лідэра, які сядзеў некаторы час у турме ў палякаў.

Спатканьне з Эвэнчыкам спачатку мяне вельмі расчаравала, і я ўжо адчайваўся ці выканаю сваю місію. Перш за ўсё да мае асобы была выяўлена нейкая падазронасьць з боку сям'і Эвэнчыка. Далей за прыходжы пакой мяне не хацелі пусьціць і, мусіць, не хацелі, каб я спаткаўся з маладым Эвэнчыкам. Я заходзіў некалькі разоў, а пад канец пакінуў запіску, у якой паказаў, што маю яму перадаць нешта важнае.

Праз некаторы час я з ім спаткаўся і меў магчымасьць да яго загаварыць. Добра памятаю, што я гаварыў з ім два разы і абодва не на кватэры, куды, мусіць, мяне не хацелі ўпусьціць, а на вуліцы.

Я вельмі асьцярожна даў яму намёк аб сваім прыезьдзе, пры чым сказаў, што я да яго напраўлены т. т. поалей-цыоністамі. Тады, калі я яму выказаў коратка арганізацыйны плян работы і палітычныя заданьні, ён адразу павярнуўся скэптычна да пачынаемае працы. Думаючы, што тут адыгравае некаторую ролю страхата перад рэпрэсіямі ці змардаваньне пасьля перажытага (здаецца, што Эвэнчык знаходзіўся пад наглядам польскага акупацыйнага атраду, які толькі што быў заменены нямецкім вайскам) і паспрабаваў упэўніць яго ў патрэбнасьці распачаць работу. Вось для гэтага я і прасіў яго, каб спаткацца яшчэ раз.

Другое наше спатканьне вылілася ў палітычную дыскусію. Эвэнчык значна паправеў, лепш кажучы зрабіўся ярым меншавіком і крытыкаваў жорстка тое, што робіцца ў Савецкай Расіі. Уся работа бальшавікоў характарызавалася ім як „арганізаваны распад рабочае клясы мэтадам сацыяльнага забясьпечаньня і прыгнечаньня яго клясавае існасьці“. Памятаю, што ён спасылаўся на Маркса, Энгельса і Каўцкага, цытуючы іх. Будучы тады вельмі слабым у частцы марксысцкае тэорыі, я меў магчымасьць толькі паказаць яму на контр-рэвалюцыйнасьць такое ідэолёгіі. Ясна было відаць, што ён ужо безнадзейны як тыповы і з хістаньнямі інтэлігент. У канцы нашае размовы ён мне парадзіў зьвярнуцца да мяйсцовага рабочага бальшавіка тав. Рыськіна. Заставалася толькі адна надзея, якая на гэты раз спраўдзілася, як ня трэба лепш.

Тав. Рыськін, якога я застаў на працы з бацькам у майстэрні (кравецкай), у кватэры вельмі беднай, мізэрнай—сустрэў мяне з некатораю падазронасьцю. Але калі я яму расказаў аб маім даручэньні і аб сустрэчах з Эвэнчыкам, ён вельмі зарадаваўся і з энтузыязмам прыняўся за працу. Мая місія фактычна была выканана.

Неўзабаве склалася досыць вялікая група бальшавікоў. Памятую з іх, акрамя тав. Рыськіна, т. т. Хаськіна (працаваў пасьля прафэсыяналістым у Гомелі і па лініі НКЗС), яго жонку, Сасонко, Соскіна. Асабліва прыемна ўспомніць аб сям'і Кузьняцовых, дзе я жыў; уся сям'я была бальшавіцкая; дзеці—рабочыя, за выключэньнем дачкі, усе выехалі пасьля польска-нямецкае акупацыі; стары—бацька рабочы хаваў у сябе ўсе канспыратыўныя матар'ялы і зброю. Уся гарадзкая арганізацыя ўяўляла сабою ў вышэйшай ступені зьяднаную групу.

Мне ўласна давялося некаторы час працаваць у Рагачове, а пасьля падтрымліваць сувязь з арганізацыяй ў Бабруйску. Помню некалькі сходаў на другім баку Днепру. Поруч з афармленьнем гарадзкое арганізацыі былі створаны групы ў Жлобіне, Страшневе і Ціхінічах. У Жлобіне ў гэты час стварылася з некалькіх бальшавікоў-чыгуначнікаў, з якіх памятую тав. Троцкага, які быў зьвязаны самастойна з Бабруйскім раённым камітэтам па адрасе, які ён атрымаў у Гомелі ад кампартыі Украіны (Гомель быў зьвязаны ў часе нямецкае акупацыі з Украінскім падпольлем).

Асабліва важным мы лічылі сувязі з сялянствам. У кароткі час мы мелі працаўнікоў з сялян, якія працавалі па стварэньні вясковых ячэек і партызанскіх атрадаў. Трэба яшчэ адзначыць працу на наладжваньні сувязі з Савецкай Расіяй праз Рагачоў. Літаратура і зброя правозілася тады праз Прапойск. У адзін з гэткіх рэйсаў быў арыштаваны немцамі тав. Сасонка (Пятроў, які быў адпраўлены за правоз у спэцыяльна абстаяваным возе літаратуры і, здаецца, зброі) у Брэст-Літоўск і ўрэшце вызвалены рэвалюцыяй у Гэрманіі.

Да моманту гэрманскае рэвалюцыі арганізацыя была зусім падрыхтавана. Гор. Рагачоў адным з першых быў пакінуты немцамі і там адразу арганізаваўся Рэўком. Тое-ж самае было ўва ўсіх буйных пунктах павету. Да моманту эвакуацыі Беларусі немцамі сярод салдатаў пачаўся распад. Агітацыя наша сярод салдатаў была палегчана. Памятаю, што адна з прышоўшых у Бабруйск адходзячых нямецкіх частак, увайшла з чырвоным сьцягам з надпісам прыблізна гэткага зьместу: „Нямецкія салдаты, нясеце пралетарскую рэвалюцыю ў Гэрманію“. А ўнізе подпіс: „Рагачоўскі камітэт Кам. Партыі Бальшавікоў Л. і Б“.

---

# У ЦК КП(б)Б

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб выніках дыскусіі па тэатральным пытаньням.

*Ад 17 сьнежня 1928 г.*

1. У сувязі з рашучым разгортваньнем сацыялістычнага культурнага будаўніцтва пачалі прасочвацца, асабліва за апошні час, у нашае культурнае будаўніцтва нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі, як адна з форм супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў нашаму рашучаму наступленьню на іх; тэндэнцыі, зьвязаныя з абвастрэньнем клясавай барацьбы. Гэтыя тэндэнцыі выявіліся і ў апошняй дыскусіі па тэатральных пытаньнях.

2. Бюро ЦК КП(б)Б канстатуе, што ў гэтай дыскусіі яскрава выявіліся, у артыкулах Тодара Глыбоцкага, нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі, якія сыгналізуюць аб наяўнасьці правай небясьпекі ў культурным будаўніцтве.

3. У артыкулах Глыбоцкага былі:

а) Захады адмежаваньня беларускай культуры ад культур другіх нацыянальнасьцяў СССР і ў першую чаргу ад рускай культуры, што зьяўляецца ні чым іншым, як супроцьстаўленьнем двух культур адна аднэй, што вядзе да адыходу ад яскравай фармуліроўкі Леніна:

„Калі гутарка ідзе аб пралетарыяце, супроцьстаўленьне украінскае культуры ўцалку велікарускай культуры, таксама ўцалку, значыць самае бессаромнае здрадніцтва інтарэсам пралетарыяту на карысьць буржуазнага нацыяналізму".

„Калі украінскі марксыст дасьць сабе падпасьці пад уплыў зусім законнай і натуральнай нянавісьці да велікарусаў-прыгнятацеляў да таго, што ён перадасьць хоць-бы частачку гэтай нянавісьці, *хоць-бы толькі адчуждзеньне на пралетарскую справу велікарускіх рабочых*, дык гэты марксыст скоціцца тым самым у балота буржуазнага нацыяналізму" (Ленін, том XIX „Нацыянальны жупел асімілятарства").

Супрацьстаўленьне беларускай культуры культурам іншых народаў СССР, у даным выпадку рускае культуры, ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту тым больш шкодна, што справа ідзе аб супроцьстаўленьні адна аднэй, якія будуюцца зараз, сацыялістычных культур.

б) Спробы супроцьстаўленьня нацыянальнай формы пролетарскаму зьместу шляхам высоўваньня так званай тэорыі „самабытнасьці", зьяўляецца скажэньнем формулы партыі: „Культура нацыянальная па форм і пралетарская па зьместу" і прадстаўляюць сабой нацыянал-дэмакратычную ўстаноўку.

4. Тав. Жылуновіч, выступіўшы з артыкуламі ў гэтай дыскусіі, як кандыдат у члены ЦК, ня толькі ня стаў на абарону лініі партыі ў культурным будаўніцтве, ня толькі ня выступіў супроць тэндэнцый Тодара Глыбоцкага, але і не адмежаваўся ад шкодных палітычных установак Глыбоцкага і тым даў падставы кваліфікаваць выступленьне Жылуновіча, як салідарызаваньне з думкай Глыбоцкага.

Такім чынам, тав. Жылуновіч аб'ектыўна даў падставы лічыць, што ён стаў на пункт погляду Тодара Глыбоцкага, а гэтыя погляды рашуча разыходзяцца з лініяй партыі.

5. Гэта правая небясьпека ў культурным будаўніцтве была своечасова заўважана і сустрэла рашучы адпор партыі. У органе нашае партыі „Зьвязда“ быў зьмешчан цэлы шэраг артыкулаў і выступленьняў, у прыватнасьці тав. Баліцкага, Міронычка і іншых, у якіх наогул правільна вялася абарона партыйнай лініі ў культурным і нацыянальным будаўніцтве.

6. Аднак, Бюро ЦК адзначае, што яскравая ўстаноўка партыі, што: „партыя стаіць за самастойны шлях разьвіцьця беларускай культуры, за выяўленьне ўсіх творчых сіл беларускага народа, за шырокае выкарыстаньне беларускай сацыялістычнай культуры, якая будуецца, усіх каштоўнасьцяў міравой культуры, за рашучы яе разрыў з традыцыямі правінцыяльнай абмежаванасьці *і рабскага перайманьня,* за стварэньне новых культурных каштоўнасьцяў, што варта творчасьці вялікае клясы. Але партыя гэта робіць ня шляхам супроцьстаўленьня беларускае культуры культурам іншых народаў, а шляхам братэрскага супрацоўніцтва рабочых і працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў у справе будаўніцтва сусьветнай пралетарскай культуры, у якую беларуская рабочая кляса здолее ўкласьці сваю частку“; гэтая лінія партыі не знайшла дастатковага адбітку і растлумачэньня ў тэй частцы артыкулаў тав. Міронычка, дзе ён гаворыць аб нацыянальнай форме беларускай культуры.

7. Бюро ЦК канстатуе палітычную памылку тав. Жылуновіча і выносіць вымову тав. Жылуновічу за тое, што ён, як кандыдат у члены ЦК і кіраўнік галоўмастацтва НК Асьветы, выступаючы ў друку па прынцыповых пытаньнях, вырашаных партыяй, не вызначыў у сваіх артыкулах маючыхся пастаноў па гэтаму пытаньню ЦК КП(б)Б.

---

# У ЦКК КП(б)Б

## IV Пленум ЦКК КП(б)Бел.

IV Пленум ЦКК адбыўся 1—3 сьнежня 1928 г. У парадку дню Пленума стаялі наступныя пытаньні: 1. Даклад Прэзыдыуму ЦКК. 2. Плян працы ЦКК-РСІ на 1928/29 г. 3. Даклад аб працы Мазырскай АКК і 4. Даклад транспартнай групы НК-РСІ Бел.

Пленумам прыняты наступныя пастановы:

Па дакладу тав. Калніна „Аб выніках працы за год і далейшых задачах ЦКК РСІ".

1. Пленум ЦКК асноўнымі дасягненьнямі ў рабоце органаў ЦКК-РСІ за мінулы год лічыць:

Пасьпяховыя вынікі прыцягненьня мас у работу РСІ (рабочыя засядацелі, добраахвотнікі, прыцягненьне да праверкі рабочых, выбіраемых рабочымі сходамі, удзел у праверцы дырэктыў нізавых прафарганізацыяў) і адданьне шырокай галоснасьці работы і мерапрыемстваў КК-РСІ па барацьбе з бюрократызмам праз друк і масавыя сходы.

Сыстэматычная праверка выкананьня дырэктыў партыі і ўлады па забесьпячэньню тэмпу капітальнага будаўніцтва, па рацыяналізацыі прамысловасьці і дзяржапарату і па ўзмацненьню сацыялістычнага сэктару ў вёсцы.

Рашучае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб самакрытыцы шляхам барацьбы са спробамі звузіць і абмежаваць самакрытыку, барацьбы з праследваньнямі рабселькораў за самакрытыку, з ігнарываньнем прапаноў рабочых, а таксама шляхам ачышчэньня партыі ад разлажыўшыхся, адарваўшыхся ад партыі і мас элемэнтаў і барацьбы супроць астаткаў троцкісцкай апазыцыі.

2. Аднак ва ўмовах стаячых перад партыяй і рабочай клясай задач паскораньня тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва, лютай барацьбы з наступленьнем варожых клясаў і скажэньнямі палітыкі партыі, якія паслабляюць тэмп нашага будаўніцтва, барацьбу з бюрократызмам і за арабачэньне дзяржапарату, дасягнутыя вынікі патрабуюць у далейшым яшчэ больш рашучага ўзмацненьня дзейнасьці органаў ЦКК-РСІ праз разгортваньне масавага кантролю на падставе самакрытыкі, дамагаючыся бязумоўнага і хуткага выкананьня дырэктыў XV Зьезду і апошняга пленуму ЦК УсеКП(б), павышаючы адказнасьць КК-РСІ за своечасовае выяўленьне недалікаў і бюрократычных балячак і пастаноўку іх перад вышэйшымі парторганамі. Барацьба з правай небясьпекаю па лініі КК-РСІ, не аслабляючы барацьбы з астаткамі троцкісцкай апазыцыі, павінна выказацца ў рашучым накіраваньні агню супроць „імкненьняў зьнізіць тэмп і затрымаць далейшае будаўніцтва буйнай індустрыі, нядбайных ці адмоўных адносін да кал. гаспадарак і сав. гаспадарак, недаацэнкі і *затушоўваньня клясавай барацьбы, у прыватнасьці, барацьбы з кулаком, бюрократычнай няўважлівасьці да патрэб мас, недаацэнкі* барацьбы з бюрократызмам (з рэз. Пленума ЦК УсеКП(б).

3. У далейшай рабоце лічыць неабходным:

У справе ўцягненьня шырокіх мас у работу РСІ, лічачы маючыся вынікі толькі першымі крокамі, Пленум ЦКК, у падцьверджаньне пастановы 3-га пленуму ЦКК, даручае Прэзыдыуму ЦКК і ўсім АКК асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізатарскую работу з прыцягваемымі

і іх навучаньню, на больш шырокае прыцягненьне праз вытворчыя нарады і эканомкамісіі і абіраемых на агульных сходах рабочых, справаздачнасьць перад рабочымі масамі і вылучэньне рабочых, выявіўшых сябе актыўна ў справе барацьбы з бюрократызмам.

Важнейшай і асноўнай задачай КК-РСІ павінна быць—сыстэматычная, неаслабная праверка выкананьня дырэктыў аб самакрытыцы, партыйнай, савецкай (рабочай) дэмакратыі, барацьба з глушыцелямі самакрытыкі і з няўважлівымі адносінамі, ігнарыраваньнем прапаноў і самакрытыкі мас, рашучае садзейнічаньне і заахвочваньне ініцыятывы мас зьнізу па зьнішчэньню недахопаў і бюрократычных скажэньняў, узмацненьне барацьбы са скажэньнямі палітыкі партыі ў вёсцы, ажыцьцяўляючы сувязь з батрацтвам, беднатой праз арганізуемыя сэкцыі РСІ пры саветах, упаўнаважаных Бюро Скаргаў.

З ускладненьнем работы КК-РСІ, пленум даручае Прэзыдыуму асобна зьвярнуць увагу на ўдасканаленьне апарату і ўсяе дзейнасьці КК-РСІ, дабіваючыся хутчэйшага рэагаваньня на запросы мас і зьнішчэньня шматлікасьці кантролю. Пленум адабрае рашэньне Прэзыдыуму аб пэрыядычных выездах членаў Прэзыдыуму на мейсца для дапамогі і інструктаваньня ў рабоце КК. Побач з гэтым пленум даручае весьці кіраваньне дзейнасьцю АКК-РСІ такім чынам, каб былі рашуча зжыты зьявішчы нясьмеласьці і несваечасовага, недастатковага рэагаваньня на буйнейшыя парушэньні, адзначаныя па паасобным КК (Мазырская і Аршанская).

Шэраг грубых парушэньняў рэвалюцыйнай законнасьці, выкрытых расьсьледваньнямі Прэзыдыуму ЦКК, патрабуюць далейшага аздараўленьня дзейнасьці судова-сьледчых органаў і Пракуратуры, спыніўшы ўсялякія спробы замазваньня віны і незаконнага ўмяшацельства ў работу суда, дабіваючыся ўзмацненьня і хуткасьці дзейнасьці суда ў барацьбе з грубейшымі праяўленьнямі бюрократызму, валакіты і скажэньняў дырэктыў партыі.

Працягваючы далейшае сьмелае і рашучае правядзеньне рацыяналізацыі дзяржапарату ў бліжэйшы пэрыяд, аднэй з галоўнейшых задач павінна быць чыстка апарату ад чуждых і злосна-бюрократычных элемэнтаў і рашучае арабачэньне апарату, прычым Пленум ЦКК выказваецца за неабходнасьць правядзеньня гэтай работы гласна, з шырокім прыцягненьнем рабочых мас, друку, партыйна-савецкай грамадзкасьці, устанавіўшы стражайшую адказнасьць кіраўнікоў устаноў за прыём вычашчаных.

Адзначаючы станоўчыя вынікі прыцягненьня прафсаюзаў, у асаблівасьці паасобных нізавых ячэек, да непасрэднай праверкі выкананьня дырэктыў (праверка 20% зьніжэньня), Пленум ЦКК, не здавальняючыся гэтым, лічыць неабходным яшчэ ў большай меры прыцягненьне прафсаюзаў да масавай праверкі зьніжэньня выдаткаў, зьніжэньню сабекаштоўнасьці і рацыяналізацыі прамысловасьці, у суадпаведнасьці з рашэньнямі жнівеньскага пленуму ЦКК УсеКП(б), вядучы барацьбу са зьявішчамі няўважлівасьці, без ініцыятыўнасьці паасобных прафсаюзных органаў да гэтай важнейшай задачы ўдзелу мас у дзейнасьці Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі. Пленум ЦКК заклікае прафсаюзныя арганізацыі да ўзмацненьня сувязі з органамі РСІ, да пастаноўкі пытаньняў і прапаноў перад імі і праверкі выкананьня пастаноў РСІ. Абавязаць КК-РСІ устанавіць сыстэматычную праверку выканаючых пастаноў шляхам даручэньня парт'ячэйкам, праворганам, вытворчым нарадам і эканомкамісіям.

Справа праверкі і садзейнічаньня па выкананьню дырэктыў і мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню пасеўнай кампаніі набывае асо-

бую значнасьць. Неабходна ў далейшым, асабліва ў надыходзячую вясеньнюю пасеўкампанію, згрупаваць увагу на праверку правядзеньня ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў па падняцьцю ўраджайнасьці і павялічэньню пасеўнай плошчы, па ўмацаваньню і пашырэньню сацыялістычнага сэктару на вёсцы (саўгасы, калгасы і інш. вытворча-каапэрацыйныя арганізацыі), на падставе рашэньняў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б), зьвярнуўшы асобую ўвагу на правільнае прымяненьне—кантрактацыі, як адзін з мэтадаў узьдзейнічаньня на індывідуальную гаспадарку.

У барацьбе за адзінства партыі, супроць парушэньняў партдысцыпліны і парт'этыкі, задачай КК зьяўляецца рашучая барацьба з ухіламі ў партыі „на два фронта", асабліва з правым ухілам, найбольш небясьпечнымі ў сучасны момант і прымірэнчаскімі адносінамі да яго, чыстка партыі ад перарадзіўшыхся элемэнтаў.

4. Зьвярнуць асобую ўвагу на:

Узмацненьне выхаваўчых мэтадаў барацьбы ў ячэйках з хваравітымі зьявішчамі шляхам праверкі якасьці ідэёвага выхаваньня, утварэньня грамадзка-партыйнай думкі навакол іх асьвятленьня ў друку.

Прыцягненьне да адказнасьці за праяўленьні сямейственасьці, падхалімства.

Узмацненьне барацьбы за правільнае правядзеньне нацпалітыкі і супроць парушэньняў інтэрнацыянальнага адзінства як у партыі, так і ў рабочай клясе, з праяўленьнем шовінізму, асобую ўвагу зьвярнуўшы на барацьбу з антысэмітызмам.

Узмацненьне мер ідэёва-палітычнага характару па барацьбе з выхадамі з партыі больш адсталых рабочых, работніц, батракоў, беднаты.

Узмацненьне сувязі з ЛКСМБ у накіраваньні дапамогі і садзейнічаньня ў барацьбе з хваравітымі зьявішчамі ў ЛКСМБ.

5. Даручыць Прэзыдыуму ЦКК і АКК распрацаваць падрыхтоўчыя мерапрыемствы ў адносінах да правядзеньня чысткі партыі на падставе вопыту мінулых праверак.

## Рэзалюцыя па дакладу аб рабоце Мазырскай АКК КП(б)Б.

Заслухаўшы даклад і вывады абсьледваньня, Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што разам з некаторымі станоўчымі бакамі, галоўным чынам, у галіне савецкай работы, АКК-РСІ ня было ўдзелена належнай ўвагі ўнутры-партыйным пытаньням.

Сваечасовыя паказаньні з боку ЦКК як на падставе леташняга абсьледваньня, таксама ў парадку дачы дырэктыў на працягу году, паказваючыя на паасобныя балючыя зьявішчы ў партарганізацыі (п'янства, недысцыплініраванасьць, мэханічныя выхады кандыдатаў партыі—сялян ад сахі), заставаліся нявыкананымі, ня было належнага завостраньня ўвагі партарганізацыі з мэтай іх зьнішчэньня і папярэджаньня.

Таксама ня было ўдзелена ўвагі пытаньням гаспадарчага будаўніцтва ў горадзе, КК-РСІ спэцыяльна не займалася пытаньнямі рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту прамысловай прадукцыі, надвышэньня вытворчасьці працы. Пытаньнямі, зьвязанымі з сельскай гаспадаркай, хаця і АКК займалася, але матар'ялы абсьледваньня ня былі скарыстаны з мэтай зьнішчэньня і выяўленьня недахопаў.

У рабоце АКК ажыцьцяўленьне дырэктывы партыі аб разгортваньні і ўзмацненьні самакрытыкі не займала належнага месца. Ня прымалася мер да таго, каб завострыць увагу ўсяе партарганізацыі навакол разгортваньня самакрытыкі, шырокага ўцягненьня рабочых у барацьбу з недахопамі ўсяго апарату.

У штодзённай рабоце КК недастаткова і несваечасова рэагавала на недахопы паасобных устаноў і адказных кіраўнікоў, выяўляемых у друку, заявак партыйцаў і беспартыйных рабочых; ня прымалася дастатковых і рашучых мер да зьнішчэньня выяўляемых недахопаў.

АКК-РСІ зусім недастаткова праводзіла работу па праверцы выкананьня дырэктыў партыі і ўраду аб пастаноўцы рацыяналізацыі адміністрацыйна-гаспадарчага і каапэрацыйнага апарату; дапусьціла няправільныя адносіны пры абгаварэньні матар'ялу абсьледваньня па пытаньню аб савецкай дэмакратыі; нерашуча вяла барацьбу з бюракратызмам, цяганінай, пратэкцыянізмам, безгаспадарчасьцю, не вывучала і ня ставіла перад парт. і савецкімі органамі пытаньне аб аздараўленьні і ачыстцы значна засьмечанага апарату, ня прыцягваліся шырокія масы ў гэтую барацьбу з недахопамі апарату.

З боку КК-РСІ праяўлена нячулае і несваечасовае рэагаваньне і адносіны да рабселькораўскіх заметак, КК не заўсёды прымала сваечасовыя і дастатковыя меры да зьнішчэньня паказаных у заметках недахопаў, ня прымала рашучых мер супроць паасобных кіраўнікоў, вінаватых у прасьледваньні асоб, выяўляючых недахопы—безгаспадарчасьць і інш. Маюць месца выпадкі, калі КК не аказвала дастатковай абароны рабселькораў ад прасьледваньня.

Ня гледзячы на пастанову сакавіковага Пленуму ЦКК КП(б)Б і красавіковага Пленуму ЦКК УсеКП(б)—суровага кантролю над фактычным правядзеньнем скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў, АКК-РСІ пры нездавальняючым выкананьні гэтай дырэктывы з боку ўстаноў за першае паўгодзьдзе не забясьпечыла правядзеньня ў жыцьцё 20-проц. скарачэньня, амаль зусім не закранула абсьледваньнем прадпрыемстваў, што і да гэтага часу не дало ніякіх вынікаў.

Пры агульнай здавальняючай сувязі з АПБ і Саюзам Савгандльслужачых недастаткова ўцягваліся рабочыя масы і актыў КК-РСІ у штодзённа-праводзімую работу, пры зусім нездавальняючым скарыстаньні жыцьцём праверaных форм і мэтадаў масавай работы КК-РСІ, з прычыны чаго пастановы красавіковага Пленуму ЦКК УсеКП(б) і ліпеньскага Пленуму ЦКК КП(б)Б аб масавай рабоце зьяўляюцца выкананымі зусім недастаткова.

Адсутнасьць чоткасьці і плянавасьці ў рабоце АКК-РСІ пры амаль што поўнай неналаджанасьці сыстэмы кантролю і самаправеркі, прыводзіла да стыхійнасьці ў рабоце. З гэтае прычыны плян работы па савецкай галіне выканан нездавальняючы, а па партлініі зусім ня выканан.

Пагэтаму, на падставе ўсяго вышэйпаказанага, Пленум ЦКК КП(б)Б лічыць работу АКК-РСІ нездавальняючай.

Асноўнымі прычынамі нездавальняючай работы АКК-РСІ зьяўляюцца:

а) няглыбокае ўсваеньне асноўных задач партыі і ролі КК-РСІ у іх разьвязаньні, адсюль—нерашучасьць у правядзеньні лініі партыі;

б) неўсваеньне таго, што асноўным мэтадам у працы КК-РСІ павінна быць *арганізацыя масавага кантролю* і няўменьне правільна арганізаваць прыцягненьне рабочых, а таксама слабае садзейнічаньне з боку прафсаюзаў для ажыцьцяўленьня гэтай задачы;

в) няправільныя ўзаемаадносіны паміж АКК і АК;

г) няўважлівыя адносіны да ўнутранай арганізацыі працы, адсутнічаньне самакрытыкі сваіх недахопаў і самакантролю за ажыцьцяўленьнем сваіх пастаноў.

У далейшым работа АКК-РСІ у садзейнічаньні партыі ў разьвязваньні чарговых задач павінна быць накіравана на: барацьбу за ідэёвую чыстату партыі і ачышчэньне яе радоў ад чужых, разлагаючыхся

і хістаючыхся элемэнтаў, вядучы рашучую барацьбу з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі ў напрамку рашэньняў лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б); на садзейнічаньне партыі ў разьвязваньні гэткіх гаспадарчых задач—як павышэньне ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі і зьніжэньне сабекошту прамысловай прадукцыі; патаненьне кошту прамысловага і жыльлёвага будаўніцтва; ачышчэньне дзярж. апарату ад чужога элемэнту, яго палепшаньне і ўдасканаленьне і патаненьне, шляхам правільнай арганізацыі кіраваньня самарацыяналізатарскай работай сваіх установ і прадпрыемстваў, на падставе самога сьмелага і рашучага прыцягненьня прафсаюзаў да масавага ўдзелу і кантролю за ажыцьцяўленьнем дырэктыў партыі і ўраду.

Пленум прапануе ажыцьцявіць наступнае:

1. З прычыны слабага разгортваньня самакрытыкі як у самой КК, таксама і ў арганізацыі ў цэлым, асабліва недастатковасьць разгортваньня самакрытыкі на вёсцы, КК-РСІ павінна ў большай меры завострыць увагу партарганізацыі, камсамолу, беспартыйных рабочых на пытаньні вытворчага жыцьця, вядучы рашучую барацьбу з усімі перашкодамі разгортваньня самакрытыкі, забясьпечыўшы крытыкуючых ад усялякага роду нападкаў, а таксама весьці барацьбу з няўважлівымі, бюрократычнымі адносінамі да прапаноў рабочых з боку кіраўнікоў, вядучы рашучую барацьбу з прасьледваньнем рабселькораў.

Самакрытыка ў вёсцы павінна адыграць рашучую ролю ў справе барацьбы з сваявольлем, з скажэньнем клясавай лініі партыі дзяржаўным апаратам, з выпадкамі змычкі камуністых з кулацкімі і чужымі элемэнтамі. Самакрытыка ў вёсцы павінна садзейнічаць партыі ўмацаваць кіраваньне батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі праз саветы, барацьбе з недахопамі нізавога апарату і парушэньнем рэвалюцыйнай законнасьці.

Больш уважліва і своечасова адносіцца да расьсьледваньня газэтных заметак, прыцягваючы да гэтага рабселькораў, своечасова даваць па ім адказы і аб выніках асьвятляць у друку.

2. Забясьпечыць у пляне работы АКК прапрацоўку правядзеньня шэрагу партпраблем, гэтым самым выяўляючы і дапамагаючы зьнішчаць асобныя балючыя зьявішчы ў арганізацыі. Прапануецца правесьці ранейшую дырэктыву ЦКК аб вывучэньні мэханічных выхадаў кандыдатаў партыі, асабліва беднякоў і батракоў, а таксама забясьпечыць у пляне праверку дырэктывы ЦК і ЦКК аб кандыдацкім складу савецкіх ячэек, аб унутрыпартыйнай і савецкай дэмакратыі.

3. У барацьбе з балючымі зьявішчамі ў партарганізацыі і паасобных кіраўнікоў КК-РСІ павінна не абмяжоўвацца палавінчатымі мерамі, а рашуча весьці барацьбу, выпраўляючы недахопы на месцы, ня глядзячы на асобы і займаемыя пасады.

АКК устанавіць у практыцы такі парадак, які выключаў-бы магчымасьць пераводу ў інш. акругі, альбо ў цэнтр, тых партыйцаў, якія сябе скампрамэтавалі, на рабоце праявілі сябе з адмоўнага боку, як работнікі і члены партыі.

Прапанаваць АКК больш уважліва расьсьледваць партсправы, зьвяртаючы ўвагу ня толькі па сутнасьці партпраступку, але наогул на партыйную дзейнасьць, праходзячыя ў партсправах дакумэнты, каб пазбавіцца паўтарэньня дапушчаных памылак (справа авантурніка Скаржэўскага).

4. Выканаць дырэктыву, дадзеную пры леташнім абсьледваньні аб вывучэньні і зьнішчэньні балючых зьявішчаў ў Камсамоле, больш поўнай сувязі і садзейнічаньня ў рабоце АКК ЛКСМ, шляхам заслухоўваньня дакладаў АКК ЛКСМ аб становішчы Камсамолу, асобных хва-

равітых зьявішчах, а таксама наладжваньні кантакту ў рабоце ў сэнсе ўцягненьня Камсамолу ў садзейнічаньне ў правадзімай рабоце КК-РСІ.

5. Забясьпечыць у пляне работы КК-РСІ праверку становішча прамысловасьці і будаўніцтва, завострыўшы сваю ўвагу і ўвагу ўсіх арганізацыяў на рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньні сабекошту прадукцыі, падвышэньні вытворчасьці працы, кватэрным будаўніцтве, грамадзкім харчаваньні і хлебапячэньні. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на маючыся ў будаўніцтве бесплянавасьць, несваечасовае забясьпечаньне будаўнічымі матар'яламі, тэхнічную і фінансавую беспадстаўнасьць.

6. КК павесьці ўзмоцненую барацьбу з бюракратызмам, цяганінай і наглядаючымся пратэкцыянізмам і кумаўством у дзяржаўным, каапэрацыйным, гаспадарчым апараце, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на ачышчэньне яго ад чужых і злачынных элемэнтаў і на хуткае рэагаваньне на скаргі працоўных, прыцягваючы да гэтай барацьбы шырокія колы рабочых і ў першую чаргу актыў КК-РСІ—рабочыя засядацелі, лёгкая кавалерыя, дэлегаткі Жан. Аддзелу і г. д.

7. Прапанаваць АКК рашучымі мерамі забясьпечыць выкананьне дырэктывы аб зьніжэньні 20 проц. адм.-гасп. выдаткаў, уцягваючы вытворчыя нарады і эканомкамісіі ў напрамку рацыяналізацыі і далейшага спрашчэньня апарату. Правесьці ў жыцьцё пастанову Прэзыдыуму АКК аб прыцягненьні да адказнасьці парушыўшых і зусім нявыканаўшых гэтую дырэктыву кіраўнікоў установ.

8. У барацьбе з безгаспадарчасьцю, растратамі і інш. адмоўнымі зьявішчамі ў апараце, у асаблівасьці ў каапэрацыйных арганізацыях— АКК-РСІ узмацніць сувязь з рэвізійнымі і крамнымі камісіямі (як у горадзе, так і на вёсцы), шляхам скліканьня спэцыяльных нарад, усямернай дапамогі і скарыстоўваньня іх матар'ялаў.

9. Зьвярнуць увагу АКК на неабходнасьць больш рэгулярнага скліканьня Пленумаў АКК, з пастаноўкай на Пленумах справаздач Прэзыдыумаў (не радзей як 1 раз у 3 м-цы), важнейшых пытаньняў працы з дастатковай іх падрыхтоўкай.

Зьнішчыць такія зьявішчы, калі пачатыя ці вырашаныя пытаньні не даводзяцца да канца.

Узмацніць плянавасьць працы АКК шляхам вызначэньня тэрмінаў паасобных пытаньняў пляну паміж сталымі працаўнікамі Прэзыдыуму, уцягваючы членаў КК і існуючы актыў РСІ і самыя ўстановы.

10. Наладзіць кантроль і праверку выкананьня ўстановамі і арганізацыямі як пастаноў Прэзыдыуму КК, так і дырэктыў ЦКК-НК РСІ, шляхам устанаўленьня тэрміну для выкананьня пры вынясеньні сваіх пастаноў і даручэньняў аб праверцы выкананьня партыйным, савецкім, прафэсійным і грамадзкім арганізацыям.

11. У масавай рабоце КК-РСІ неабходна дабіцца, каб нізавыя прафарганізацыі — ФЗМ, вытворчыя нарады, камісіі, эканомкамісіі былі асноўнымі дапаможнікамі ў рабоце КК-РСІ. Наладзіць пастаноўку вучоту актыву КК-РСІ, яго ўцягненьня ў практычную работу, вылучэньня на работу ў гаспадарчым, каапэрацыйным, савецкім і праф. апаратах, праводзячы гэтую сваю работу ў цеснай сувязі і пры непасрэдным удзеле праф. арганізацыяў.

12. Удзяліць больш увагі рабоце сэкцыі РСІ Гарсаветаў, арганізацыйна дапамагаючы ім у мэтадах штодзённай працы і ў належным скарыстаньні іх матар'ялаў як самастойных абсьледваньняў сэкцыяў, так і па даручэньням КК-РСІ з пастаноўкай дакладаў абсьледвацельскіх груп у КК-РСІ і Прэзыдыуму Гарсавету.

Вывучыць і абагуліць вопыт работы ўпаўнаважаных Бюро Скаргаў АКК-РСІ на раёнах, узмацніўшы кіраўніцтва іх работай. Падрыхтаваць арганізацыю Сэкцый РСІ пры РВК і найбольш буйных сельсаветах.

13. Работу Бюро Скаргаў праводзіць пры шырокім удзеле рабочых, практыкуючы разбор скаргаў, маючых агульна-грамадзкае значэньне, непасрэдна на прадпрыемствах, праводзячы расьсьледваньні праз рабочых засядацеляў у Бюро Скаргаў пэрыядычна ставячы справаздачы аб дзейнасьці Бюро Скаргаў, на агульных сходах рабочых і сялян праф., камсамольскіх і дэлегацкіх сходах жанчын.

14. АКК устанавіць большую сувязь і правільныя ўзаемаадносіны з АКК пры праходжаньні пытаньняў АКК на Бюро і Сакратарыяце АК, каб пытаньні прынцыповага характару, выцякаючыя з асноўных дырэктыў партыі, абавязкова прапрацоўваліся Прэзыдыумам, а таксама па пытаньням, па якім праводзілася абсьледваньне АКК, пры пастаноўцы іх у АК, ставіць садаклады АКК.

15. З судовымі органамі і пракуратурай і ДПУ АКК-РСІ павінна ўстанавіць такую сувязь, якая-б забясьпечыла сваечасовае інфармаваньне АКК аб руху праступкаў і выкрываньня балючых зьявішчаў па ўсіх галінах будаўніцтва з тым, каб АКК магла сваечасова прымаць меры да іх ліквідаваньня і папярэджаньня.

16. Прапанаваць АКК на чарговых партканфэрэнцыях у дакладах АКК завострыць увагу партарганізацыі навакол маючыхся недахопаў з мэтай мабілізацыі партыйна-грамадзкай думкі і іх рашучага зьнішчэньня.

---

Акрамя прыняцьця гэтых пастаноў Пленум зацьвярдзіў плян працы ЦКК-НКРСІБел. на 1928-29 г., а таксама рэзалюцыю па дакладу транспартнай групы НКРСІБел.

## Вынікі праверкі кандыдацкага складу савецкіх ячэек КП(б)Б.

ЦКК КП(б)Б прыняў наступную пастанову па выніках праверкі кандыдацкага складу савецкіх ячэек.

1. Азначыць, што праведзенай Кантр. Камісіямі праверкай кандыдацкага складу сав. ячэек дасягнуты наступныя вынікі:

Выяўлены значныя недахопы, слабая работа ячэек па выхаваньню кандыдатаў, з прычыны чаго аказалася, што 30,2 проц. правераных кандыдатаў не прайшлі школы палітграматы і гэткае-ж чысло іх не ўцягнута ў партыйную і грамадзкую работу, а 53 проц. кандыдатаў пратэрмінавалі свой кандыдацкі стаж.

Праверкай значна дасягнута ачышчэньне кандыдатаў радоў КП(б)Б ад староньніх і ідэолёгічна няўстойлівых элемэнтаў, балясту і нявытрымаўшых кандыдацкага іспыту (121 або 12,6 проц. правераных) пераважна з ліку служачых і інш. (70,2 проц.).

Побач з гэтым, у выніку праверкі кандыдацкага складу ў правераных ячэйках удалося ўтварыць пералом у справе больш уважлівых адносін ячэек да работы з кандыдатамі, што зьяўляецца найбольш станоўчым бокам праверкі.

2. Недахопы савецкіх ячэек у рабоце з кандыдатамі, выяўленыя праведзенай праверкай, заключаюцца ў наступным:

Побач з правільным асноўным падыходам савецкіх ячэек пры прыёмцы ў кандыдаты служачых, калі значная частка прыймаемых, або 48 проц., падае на служачых з рабочых і сялян, аднак у асобных выпад-

ках ячэйкамі недастаткова ўлічваліся індывідуальныя якасьці прыймаемых, адданасьць іх да партыі і палітразьвіцьцё, у выніку чаго прыём у кандыдаты неправераных служачых утварыў такое становішча, што гэтыя кандыдаты праходзяць іспыт у працягу шэрагу лет, нярэдка губляючы пэрспэктывы пераводу ў члены партыі.

Большасьць праверaных ячэек зусім слаба ўдзялялі ўвагі пытаньню пераводу з кандыдата ў члены партыі, дастатковых мер к папаўненьню палітзнаньня кандыдатаў не прыймалі, не ўцягвалі іх у партыйную і грамадзкую работу і не правяралі вынікі іх работы; вывучэньнем і ўхіленьнем прычын пратэрміноўкі кандыдацкага складу бюро ячэйкі таксама не займаліся.

Выхаваўчая работа з кандыдатамі ў асаблівасьці была слабай у частцы праверaных ячэек, дзе бюро ячэек праяўлялі „семейственность“ у адносінах да неэтычных паступкаў асобных членаў партыі (п‘янства і інш.), не вялі сыстэматычнай барацьбы з імі і не прыймалі мер асуджэньня гэтых паступкаў шляхам галоснага іх абгаварэньня на сходах ячэек, што дзейнічала разлагаючым чынам на асобных найбольш няўстойлівых кандыдатаў, утвараючы ў іх асяродку розныя парушэньні камуністычнай этыкі.

У абсалютнай большасьці савецкіх ячэек зусім нездавальняючы была пастаўлена сыстэматычна-плянавая работа з членамі ячэйкі, у выніку чаго кандыдаты часта прадстаўляліся самі сабе.

Парт‘ячэйкі слаба кіравалі выхаваньнем і партразьвіцьцём кандыдатаў партыі, у асаблівасьці гэта мела месца ў ячэйках абслугоўваючых некалькі ўстаноў альбо арганізацый.

Неапраўдвае сябе практыка прымацаваньня Райкомамі кандыдатаў партыі служачых да вытворчых і інш. ячэек, з якімі яны не зьвязаны па рабоце і якіх яны пагэтаму ня могуць падрыхтаваць да пераводу ў члены партыі. Таксама адмоўна адбіваецца на выхаваньні кандыдатаў і частыя перaброскі кандыдатаў з аднэй ячэйкі ў другую.

3. Пагэтаму, на падставе вынікаў праверкі кандыдацкага складу савецкіх ячэек—Парткалегія ЦКК КП(б)Б прапануе ў далейшым:

1. Парткамітэтам і партячэйкам асабліва дакладна адносіцца да праверкі прыймаемых у кандыдаты партыі служачых, прынімаючы ў партыю толькі праявіўшых сябе на практычнай грамадзкай рабоце, сапраўды праверaных і падрыхтованых, улічваючы ў кожным асобным выпадку каштоўнасьць і адданасьць яго да партыі, у строгай суадпаведнасьці з дырэктывамі ЦК УсеКП(б)Б і ЦК КП(б)Б аб рэгуляваньні сацыяльнага складу партыі.

Партарганізацыі неабходна ўтварыць суадпаведныя ўмовы к своечасоваму пераводу з кандыдатаў у члены партыі ва ўстаноўлены статутам тэрмін, пры нягрунтоўнасьці пратэрміноўкі кандыдацкага стажу своечасова ставіць пытаньне аб далейшым застанаўленьні кандыдатаў у партыі, у асаблівасьці прад‘яўляючы павышаныя патрабаваньні ў адносінах да служачых; вытрыманым-жа і станоўча праявіўшым сябе кандыдатам партыі аказваць неабходнае садзейнічаньне к пераводу (садзейнічаньне ў падшуканьні рэкамэндацыі і інш.).

АК, РК і ячэйкам у мэтах падняцьця палітузроўня кандыдатаў партыі, побач з абавязковым праходжаньнем кандыдатамі партыйных і агульна-адукацыйных школ, узмацніць уцягненьня іх у партыйную і грамадзкую работу, устанавіць сыстэматычную праверку вынікаў работы з кандыдатамі партыі і іх пасьпяховасьці і выкананьні імі розных партыйных даручэньняў, садзейнічаючы ў падшуканьні літаратуры і аказваючы іншую дапамогу ім у падрыхтоўцы, у асаблівасьці ў адносінах да найбольш адстаючых кандыдатаў. Прадугледзіць у пляне

работы ячэек сыстэматычную работу з кандыдацкім складам для абмену вопытам і кіраўніцтва работай з кандыдатамі,—Райкомам пэрыядычна склікаецца нарада сакратароў ячэек і правяраецца работа ячэек з кандыдатамі пры абсьледваньні ячэек.

Улічваючы, што пры праверцы ўстаноўлены шэраг выпадкаў прыёму ў кандыдаты чуждых элемэнтаў, з прычыны няўважлівых адносін ячэек да праверкі іх мінулага і іх работы, а таксама з прычыны безадказных і фармальных адносін да сваіх рэкамэндацыяў асобных членаў партыі, прапанаваць усім партарганізацыям устанавіць дакладную праверку даных, характарызуючых уласнажыцьцяпіс і мінулую дзейнасьць уступаючых у кандыдаты партыі служачых, даючых нягрунтоўныя рэкамэндацыі прыймаемым кандыдатам.

Побач з палітычнай падрыхтоўкай кандыдатаў ячэйкам узмацніць праверку работы кандыдатаў ва ўстанове і прадпрыемстве, своечасова рэагуючы на іх асобныя памылкі і выносячы на абгаварэньне партячэек іх некамуністычныя ўчынкі, каб гэткім шляхам садзейнічаць выхаваньню кандыдатаў праз узьдзейнічаньне грамадзкай партыйнай думкі.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу АК і РК на ўзмацненьне работы з кандатамі ў ячэйках полумілітарызаваных устаноў (міліцыя, ахрана і інш.), дзе пры асобых умовах гэтых устаноў назіраецца крайняя палітычная адсталасьць кандыдатаў і слабае разьвіцьцё партыйнай грамадзкасьці ў іх, што не садзейнічае належнаму камуністычнаму выхаваньню кандыдатаў.

Прапанаваць усім АКК КП(б)Б у плянавым 1928-29 годзе правесьці праверку ажыцьцяўленьня гэтых прапаноў аб палепшаньні працы з кандыдатамі.

4. Пры практычным ажыцьцяўленьні праверкі былі дапушчаны наступныя недахопы:

Была слаба праведзена растлумачальная праца аб задачах праверкі і г. д.), паасобныя раёны абмежаваліся выключна рассылкай абежніка аб праверцы або паказаньнем аб гэтым несуадпаведным ячэйкам, што прывяло да фармальных адносін да праверкі з боку часткі савецкіх ячэек, не разгарнуўшых самакрытыкі, зацікаўленасьці і дапамогі членаў партыі ў выяўленьні паасобных недахопаў правяраемых кандыдатаў.

У сувязі з супаданьнем праверкі з адпускным пэрыядам, знаходжаньнем у тэр. зборы і інш частка кандыдатаў ня былі сваечасова правераны (падлягае дадатковай праверцы 77 кандыдатаў).

На падставе гэтага прапанаваць АКК адзначаныя недахопы ўлічыць і зьнішчыць пры праверцы Вузаўскіх ячэек, прыняўшы ўсе меры да шырокага ўцягненьня ў праверцы членаў партыі правяраемых ячэек і ў самы кароткі тэрмін закончыць праверку не прайшоўшых праверку кандыдатаў саўячэек.

Лічыць праверку кандыдацкага складу савецкіх ячэек закончанай і з 1 лістапада г. г. спыніць прыём апэляцый правераных (выключна дадаткова правераных).

## Да праверкі 20-проц. зьніжэньня адм.-кіраўнічых выд. за ўвесь 1927-28 г.

### Аб удзеле ячэек КП(б)Бел. у працы па патаненьню дзяржаўнага і каапэр. апарату.

Па гэтаму пытаньню ад імя ЦК і ЦКК КП(б)Б у сьнежані м-цы г. г. паслан усім партячэйкам, Райкомам, АК і АКК ліст наступнага зьместу.

XV Зьезд па дакладу ЦКК УсеКП(б) даў дырэктыву „давесьці да канца па ўсім без выключэньня зьвеньням кіраваньня і гаспадаркі скарачэньне адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў у 1927-1928 г. ня менш, чым на 20 проц., строга правяраючы фактычнае правядзеньне яго ў жыцьцё“.

Апошні IV Пленум ЦКК УсеКП(б) адзначыў усю актуальнасьць задачы па патаненьню дзяржаўнага апарату ў сучасны момант: „Цяжкасьці, з якімі сустракаецца савецкая дзяржава на цяперашнім этапу свайго гаспадарчага разьвіцьця ня могуць быць пераможаны без далейшага разьвіцьця і пашырэньня работы па сапраўднаму ажыцьцяўленьню рэжыму эканоміі. Паколькі разьвіцьцё нашай сацыялістычнай прамысловасьці, а таксама разьвіцьцё калектывізацыі земляробства можа абапірацца толькі на рост накапленьня ў народнай гаспадарцы нашай савецкай краіны,—правядзеньне эканоміі на ўсялякім вучастку, вялікім ці малым, нашай работы зьяўляецца задачай усяе партыі і савецкае ўлады“.

20-проц. зьніжэньне адм.-кір. выдаткаў павінна было даць па аднэй БССР каля 8 млн. руб. эканоміі—гэта палавіна каштоўнасьці Асінбуду. Між тым, пры паўгадавой праверцы высьветлілася пагроза зрыву 20-проц. зьніжэньня, асабліва па прамысловасьці.

Уся праца па патаненьню і спрашчэньню дзяржаўнага апарату можа даць належны эфэкт толькі пры ўмове, калі ў ёй прымуць удзел шырокія масы рабочых і служачых, бо адзін апарат КК-РСІ ня зможа ні пракантраляваць выкананьне дырэктывы аб 20-проц. зьніжэньні адм.-кір. выдаткаў, ні вывучыць і намеціць па ўсім установам і прадпрыемствам шляхі і магчымасьці патаненьня апарату.

У справе арганізацыі грамадзкага кантролю і мабілізацыі мас вакол пытаньня аб спрашчэньні і патаненьні апарату галоўную ролю павінны адыграць ячэйкі КП(б)Б.

Як паказаў вопыт мінулай праверкі выдаткаў за 1-е паўгодзьдзе 1927-1928 г., амаль што ўсе ячэйкі КП(б)Б зьвярталі мала ўвагі на гэтую працу, не прасачылі за тым, як уцягваюцца масы ў кантроль, як правяраюць выдаткі вытворчыя і эканомкамісіі. Нездавальняючы ўдзел ячэек значна адбіўся на посьпеху мінулай кампаніі (аб недахопах яе гл. артыкул т. т. Элькінда і Бірыла ў час. „Бальшавік Беларусі“ № 8).

ЦК і ЦКК КП(б)Б прапануюць усім парткомам і ячэйкам *прыняць актыўны ўдзел у надыходзячай кампаніі па праверцы адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў за ўвесь 1927-1928 г.* і выкананьню дырэктыў аб максымальным патаненьні кіраўнічага апарату і аб 20-проц. скарачэньні выдаткаў. Пастановаю ЦКК-НК РСІ БССР і ЦСПСБ гэтая кампанія будзе праводзіцца з 20 сьнежня г. г. па 20 студзеня 1929 г.

Трэба дабіцца таго, каб вытворчыя і эканомкамісіі дэталёва праверылі выдаткі, выявілі ўсе факты немэтазгодных выдаткаў, невыкананьня і абыход дырэктывы, каб калектывы рабочых і служачых азнаёміліся з вынікамі праверкі камісіяў па праверцы і высунулі свае прапановы адносна шляхоў далейшага зьніжэньня адм.-кір. выдаткаў. Трэба пры гэтым дабівацца:

1) каб прапановы рабочых і служачых не абмяжоўваліся дробязямі, а выносіліся-б і радыкальныя прапановы па сапраўднаму зьніжэньню выдаткаў (скарачэньне лішніх аддзелаў, пасад, зьмена форм і мэтадаў работы і г. д.);

2) каб усе заўвагі і прапановы рабочых і служачых наконт зьніжэньня выдаткаў былі абгавораны ў камісіях і на сходах.

Пры гэтым Парткомы і ячэйкі павінны пераважна праводзіць усю працу праз фракцыі адпаведных прафарганізацыяў і праз асобных пар-

тыйцаў, працуючых у вытворчых і эканомкамісіях, шляхам заслухоўваньня іх інфармацыі аб ходзе кампаніі, дачы ім адпаведных дырэктыў, дапамогі ў правядзеньні прапаноў і прыцягненьня да партадказнасьці партыйцаў, вінаватых у нядбайных адносінах да выкананьня дырэктыў аб 20-проц. зьніжэньні выдаткаў і аб прыцягненьні мас да кантролю і працы па патаненьню апарату.

Трэба імкнуцца да таго, каб ячэйкі ня дубліравалі працу агульных сходаў рабочых і служачых, таксама працу вытворчых і эканомкамісіяў, каб яны не замяшчалі іх, а кіравалі і дапамагалі разгортваньню кампаніі па праверцы выдаткаў.

Па сканчэньні кампаніі ячэйкі КП(б)Б пасылаюць Парткомам даклады аб удзеле іх у кампаніі і выніках яе, Парткомы з свайго боку дасылаюць сводныя даклады ў Акруговыя КК-РСІ.

# ЗЬМЕСТ





# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 год

НА ЧАСОПІСЬ

**Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. ЛЕНІНА, Наркамзему і Саюзу С.-г. і Лясных Працаўнікоў**

# „Сельская і Лясная Гаспадарка“

ў форме двухмесячных выпускаў кніжнага формату.

**МЭТА ЧАСОПІСІ:** асьвятляць пытаньні сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых устаноў Беларусі і паасобных дасьледчыкаў, на апошніх дасягненьнях сусьветнае навукі.

**ЧАСОПІСЬ РАЗЬЛІЧАНА:** на масавага зямельнага спэцыялістага (агранома, жывёлавода, лясьнічага, каапэратара, каморніка, мэліаратара і г. д.).

**ЧАСОПІСЬ ПРЫСЬВЕЧАНА:** орыгінальным экспэрымэнтальным працам па асобных галінах аграноміі, жывёлазнаўства, лясной справы і па сумежных галінах прыродазнаўства; агляду найгалоўнейшых прац у гэтых галінах і рэфэратам саюзных і чужаземных навукова-агранамічных прац; навуковай інформацыі; сельска-гаспадарчай хронiцы; бібліографіі і інш.

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:** загадчыкі аддзелаў, вучоныя спэцыялістыя Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, прафэсары, дацэнты і выкладчыкі Беларускай с.-г. Акадэміі, працаўнікі дасьледчых станцый, зямельныя працаўнікі, эканамісты і аграномы БССР, сяляне-дасьледчыкі, сяляне-культурнікі і інш.

Артыкулы памерам каля ½ друкаванага аркушу прымаюцца ад аўтараў на ўсіх мовах і друкуюцца на беларускай мове. Рукапісы павінны быць выразна напісаныя на аднэй старонцы аркушу.

Рысункі і малюнкі павінны быць выкананы выразна на асобных лістках у павялічаных памерах, альбо зьнятыя дужыя фотографіі. Месца малюнкаў у тэксьце павінна быць сьцісла вызначана і лік іх не павінен перавышаць аднаго на чатыры старонкі тэксту.

## Падпісная плата:

| | |
|---|---|
| На год (6 нумароў) 5 р. | За ўвесь 1927 год (3 нумары) . . . 2 р. 50 к. |
| На 6 м-цаў . . . 2 р. 50 к. | Паасобны нумар. . 1 р. 20 к. |

За ўвесь 1928 год (6 нумароў) 5 руб.

## Падпіска прымаецца:

у Выдавецтве НКЗ (Савецкая, 71, Менск) і на кожн. пошце.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Шырокая, № 28.

ЦАНА 25 кап.

**Кожная акруговая і раённая арганізацыя КПБ, кожная ячэйка, кожны камуніст і камсамолец павінны выпісваць і чытаць „Бальшавік Беларусі“**

## АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА на 1929 год

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ“

**Орган ЦК КП(б)Б**

### У ЧАСОПІСІ НАСТУПНЫЯ АДДЗЕЛЫ:

I. Кіруючыя артыкулы па асноўных пытаньнях партыйнае работы. Артыкулы аб гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Абмен вопытам практыкі партыйнае работы. Артыкулы на міжнародныя тэмы.

II. Наша трыбуна.

III. Пытаньні партыйнае работы на мясцох, аб Чырвонай арміі і г. д.

IV. Гісторыя партыі.

V. У ЦК КПБ. У ЦКК КПБ. У ЦК ЛКСМБ.

VI. Крытыка і бібліяграфія.

### УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| 1 мес. — 35 к. | ДАДАТКАМ ДА ГАЗЭТЫ: |
| 3 мес. 1 р. 05 к. | „Зьвязда“, „Полесск. Правда“, |
| 6 мес. 2 р. 10 к. | „Заря запада“, „Камуніст“ — |
| 9 мес. 3 р. 15 к. | 1 мес. — 25 к. |
| 1 год 4 р. 20 к. | 1 год 3 р. — |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і аддзяленьнях, усімі аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва, аддзяленьнем „Известий“ і „Правды“ і яго агэнтамі, спажывецкімі крамамі Белкаапсаюзу, кантрагэнцтвам друку і рэдакцыямі газэт „Зьвязда“, „Полесская Правда“ „Заря Запада“ і „Камуніст“.

*Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 45, ЦК КП(б)Б.*

